# НАШ КРАЙ



№ 6-7 (33-34) 1928

ЧЭРВЕНЬ-ЛІПЕНЬ



## ШТОМЕСЯЧНІК Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**



№ 6-7 (33-34) Чэрвень-Ліпень 1928



ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928

# Першая Ўсебеларуская Выстаўка краязнаўчых фотографій і зарысовак.

Ня прыходзіцца даводзіць, якое вялікае значэньне мае картаграфаваньне, фотографаваньне і зарысоўкі ў такой справе, як усебаковае вывучэньне вытворчых сіл і быту вядомай краіны. Можна ўпэўнена сказаць, што стан гэтай справы, яе тэхнічная якасьць роўналежна агульнаму стану навукі і культуры ў тэй ці іншай краіне. Чым вышэй краіна ў культурных адносінах, чым вышэй яе тэхнічныя дасягненьні,



Работы па злучэньні р. Гайны з Бярэзінай у Барысаўск. р.
Фот. А. Александровіч.

тым большую ролю ў агульна-грамадзкім і навуковым жыцьці краіны адыгрывае картаграфаваньне, фотографаваньне і зарысоўкі.

Што датычыцца Беларусі, дык вельмі мала зроблена ў гэтай галіне. У мінулым хоць і вывучалася наша краіна ва ўсіх галінах яе прыроды і побыту, але гэтае вывучэньне ў вельмі мізэрных разьмерах ілюстравалася картамі, дыяграмамі, фотографіямі ці замалёўкамі мастакоў альбо аматараў.

З гэтых прычын трэба шчыра вітаць ініцыятыву Ц. Б. Краязнаўства і Беларускага Дзяржаўнага Музэю па організацыі Ўсебеларускай

Выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак. Выстаўка мае зразумелыя мэты: з аднаго боку выявіць, што намі зроблена ў гэтай галіне да цяперашняга часу, а з другога—даць моцны стымул для разьвіцьця гэтае справы на Беларусі, зацікавіць вывучэньнем свайго краю шы-



Дудар Міхаіл Іванавіч Пугач, 75 г. Вёска Старынкі Вушацкага раёну Полацк. акр.
Фотогр. З. А. Фурман.

рокія колы савецкага грамадзянства: профсаюзьнікаў, комсамольскую, вучнёўскую моладзь, студэнцтва, рабочых і сялян.

Мы думаем, што наладжаная выстаўка зьяўляецца вельмі паказальнай у паказаных адносінах і павінна прыцягнуць увагу ў першую чаргу нашых культурных сіл.



Хата бедняка Паўла Ванюка, с. Вічын.

Фот. І. Сербава.



С. Вічын—жанчына ў полі адпачывае і корміць дзіця ў палявой люльцы.

Фот. І. Сербава.

Выстаўка ахапляе ўсе галіны жыцьця Беларусі і мае такія разьдзелы: 1) Краявіды Беларусі; 2) Тыпы насяленьня Беларусі; 3) Вопратка; 4) Будынкі; 5) Архітэктура; 6) Быт насяленьня; 7) Начыньне, прылады; 8) Жыцьцё нацменшасьцяй Беларусі; 9) Рэўрух на Беларусі; 10) Беларускія гарады; 11) Праца насяленьня Беларусі; 12) Тканіна, 13) Разьба па дрэву; 14) Археолёгія Беларусі; 15) Фотографіі слуцкіх паясоў; 16) Экспонаты паасобных фотографаў-аматараў.

Як відаць з гэтага пераліку, выстаўка ставіла сабе вельмі шырокія задачы. Наколькі гэтыя задачы выкананы, мы пабачым, разгледзеўшы падрабязна зьмест выстаўкі.

Першы разьдзел „Краявіды Беларусі" досыць багата і рознастайна пададзены. Шмат ёсьць мастацкіх фотографій і зарысовак, якія адбіваюць прыроднае харaство Беларусі. З такіх экспонатаў неабходна падкрэсьліць: 1) мастацкія зарысоўкі алоўкам р. Дзьвіны, зробленыя Саблікавым; 2) прыгожыя мініятуркі-фотографіі краявідаў в. Смалярні (Меншчына, фот. Касьпяровіча); 3) шлях з Новага на стары Быхаў (фот. Сербава); 4) зялезна-сярністыя крыніцы ў Вушацкім раёне (фот. Фурмана). З шэрагу мастацкіх зарысовак краявідаў Беларусі неабходна адзначыць акварэльныя і пастэльныя этюды Пархоменкі, Панамарэнкі, Кругера, Тычыны і Астаповіча. Гэтыя працы вабяць вока, прыцягваюць эстэтычную ўвагу гледача, але яны, зразумела, не адэкватны прыродным краявідам Беларусі, у іх, як выказаліся некаторыя экскурсанты—„больш мастацтва, чымся прыроды". Тым ня менш, яны, мусіць, больш за фотографіі даюць нам уяўленьне аб характэрных рысах беларускага ляндшафту.

Другі разьдзел „Тыпы насяленьня"—самы вялікі на выстаўцы. Прычыны гэтага зразумелыя. Цэнтральнае месца займаюць дасканалыя фотографіі т. Сербава. Некаторыя з іх, як нам здаецца, зьяўляюцца нават унікамі, рарытэтамі і выклікаюць зьдзіўленьне сваімі об'ектамі. Такімі, напр., зьяўляюцца фотографіі жанчын розных месц Беларусі ў спэцыяльных вопратках і галаўных уборах, якіх цяпер ужо „днём з агнём не адшукаеш", фотографіі беларусоў Калінінщчыны ў стракатых вопратках і асабліва фотографія знахаркі Праксэды. Гэты тып выклікае цэлую гаму перажываньняў і пачуцьцяў і прымушае задумацца.

Цікавымі зьяўляюцца фотографіі беларускіх дзяцей, але, на жаль, іх вельмі нязначны лік. Прыцягвае ўвагу жудасная фотографія хворага на каўтун (Мазыршчына, фот. Сербава). З ліку зарысовак тыпаў насяленьня падкрэсьліць можна дзьве зарысоўкі Пархоменкі („Пастушок" і „Бабка з Палыкавіч"), Кругера („Жанчыны з Чэрвеншчыны" і „Лясьнік з Меншчыны") і Філіповіча („Сялянка з-пад Слуцку").

Разьдзел „Вопратка", хоць невялікі (усяго 31 №№), але стракаты і б'е ў вочы. Цэнтр увагі—зарысоўкі Філіповіча і фотографіі Сербава. З апошніх асабліва цікавымі для дасьледчыкаў зьяўляюцца фотографіі і вопраткі Журавіцкага і Прапойскага раёнаў Магілеўшчыны.

Вельмі рознастайным і адбіваючым характэрныя рысы Беларусі зьяўляецца разьдзел „Будынкі". З ліку экспонатаў зварачаюць увагу зарысоўкі экспэдыцыі па дасьледваньні беларускага мастацтва на Меншчыне і Случчыне, фотографіі сялянскіх будынкаў на Смаленшчыне (фот. Сербава), фотографіі Л. Дашкевіча, Юхніна і др. Цікавыя зарысоўкі Жлобіна экспонаваў М. К., а Мазыршчыны—Філіповіч.

Разьдзел „Архітэктура" прадстаўлены толькі алоўкавымі зарысоўкамі цэркваў, касьцёлаў, сынагог і невялікага ліку іншых будынкаў грамадзкага характару.

На жаль, разьдзел „Быт насяленьня", які абяцаў быць шматфарбным, вельмі слаба экспанаваны. Тут зноў прыкметны фотографіі



Маркіян Каваль сядзіць на ўслонцы за сталом—сабраўся палуднаваць, перад клецьцю на дварэ. С. Вічын.

Фот. І. Сербава.



Вуліца, абсаджаная бярозамі. В. Дварэц.

Фот. І. Сербава.

Сербава, акварэльныя замалёўкі з жыцьця Магілеўшчыны (аўтар невядомы) і фот. Юхніна (Слуцак).

„Начыньне і Прылады" экспонавана больш як 100 №№ зарысовак Я. Драздовіча. У гэтым разьдзеле чамусьці зьмешчаны і надзвычайна прыгожыя мініятуры Каганца.

Жыцьцё нацменшасьцяй няпоўна адбіта. Зусім няма экспонатаў з жыцьця польскае насельнасьці. Досыць добра экспонавана яўрэйская архітэктура, орнамэнт, этнографічны тып насяленьня і быт.



Яскевіч Аўдоцьця і яе нявехна Магруна, у наметках.
С. Вічын.
Фот. І. Сербава.

Разьдзел „Рэўрух на Беларусі" адбівае толькі маленькі кавалачак Беларусі—Случчыну. Гэты разьдзел вельмі паказальны, бо дае, намячае мінімальную програму таго, што неабходна фотографаваць, замалёўваць, картаграфаваць пры вывучэньні рэўруху. І прыходзіцца шкадаваць, што мясцовыя краязнаўчыя організацыі не адклікнуліся ў гэтым напрамку, апрача Слуцкага Т-ва, якое прыслала свае матар'ялы: на выстаўцы мы бачым фотографіі 10 сялян-рэволюцыянэраў Случчыны, фотографіі капыльскіх рэволюцыянэраў, здымкі хат, дзе вялася падпольная рэволюцыйная праца (напр., фотографія хаты бацькоў Ц. Гартнага).

З беларускіх гарадоў на выстаўцы досыць поўна ілюстраваны

Менск, часткова Барысаў, Ворша, Магілеў. Іншыя гарады і нават Віцебск не экспонаваны. Гэта тлумачыцца тым, што Выставачны Камітэт адбіраў толькі навейшыя фотографіі і зарысоўкі, сьвядома адкідаючы старыя, адбітыя ў друку. Сучасны Менск адлюстраваны фотографіямі Сербава, якія даюць уяўленьне аб Менску, як вялікім і шматлюдным горадзе, што ня зусім справядліва.

„Праца Насяленьня Беларусі" паказана 35 №№, з якіх цікавымі зьяўляюцца здымкі мэліорацыйных прац на Беларусі.



Студня на вуліцы. С. Вічын.
Фот. І. Сербава.

Беларуская тканіна і вышыўкі прадстаўлены мастацкімі зарысоўкамі ўзораў на рушніках т. Астрэйкі, зарысоўкамі Тычыны, фотографіямі Дашкевіча, зарысоўкамі Фурмана (латыска-беларускі орнамэнт). Асабліва прыгожы зарысоўкі Астрэйкі, якая дала 40 №№.

Разьба па дрэву дадзена зарысоўкамі Пашкевіча—да 25 зарысовак надваконьнікаў і брам.

З іншых разьдзелаў, якія не ўвайшлі ў пэўны плян выстаўкі адзначым дасканалыя фотографіі слуцкіх паясоў, шкла ўрэчаўскай фабрыкі (XVIII ст.), масонскіх старажытнасьцяй і прац розных мастакоў XVIII-XIX ст.—ураджэнцаў Беларусі (арыгіналы прац вывезены ў Польшчу)—працы Шэмета, Сухадольскага, Чаховіча і інш., усяго 44 №№.
Асобным разьдзелам экспонавана „Археолёгія Беларусі"—36 №№,

у якіх засьняты помнікі старажытнасьці Беларусі—курганы, гарадзішчы (Заслаўе, Бердыж, Рослаў[1]).

Мы далі самы кароткі агляд выстаўкі і наш вывад: выстаўка, якая экспонавала каля 2000 №№ найбольш цікавых фотографій і зарысовак, мае значэньне ў выхаваньні нашага масавага краязнаўца і бязумоўна заслугоўвае таго, каб яе шырока папулярызавалі, каб наладжвалі для агляду яе масавыя экскурсіі ў Беларускі Дзяржаўны Музэй, дзе разьмясьцілася выстаўка.

*А. Шашалевіч.*

---

**Н. Анцыфараў.**

# Краязнаўчае вывучэньне літаратуры.

Значэньне літаратуры ў культурным жыцьці краю зразумела кожнаму. Аднэй з умоў, якія могуць спрыяць росту яе, зьяўляецца разьвіцьцё дасьледчай працы ў галіне вывучэньня літаратуры свайго краю. Неабходна адрозьніваць два моманты: 1) рост літаратурнай творчасьці на мясцох, 2) організацыя працы па вывучэньні яе. Беларусь, як самая заходняя рэспубліка Савецкага Саюзу, у сваёй культуры мае шмат элемэнтаў заходніх традыцый. Яна—вельмі складаны гістарычна-культурны комплекс.

Адгэтуль вывад: вывучэньне яе патрабуе шырокай пастаноўкі. Трэба выявіць перакрыжаваныя традыцыі ўплыву сваіх суседзяў, выяўляючы разам з гэтым і тыя беларускія струмені, якія зрабілі ўплыў на культурнае жыцьцё апошніх. Профэсарам Н. К. Піксанавым высунута проблема вывучэньня „краёвых культурных гнёздаў“ [2]), пад гэтай назвай ён разумее суцэльнасьць зьяў культурнага жыцьця, зьвязаных з вядомым краем, так сказаць тэрытарыяльна аб'яднаных. Лёкальны (locus—месца) мэтод у галіне вывучэньня літаратуры патрабуе вывучэньня яе на фоне ўсяго культурнага жыцьця краю. Гэтаму асабліва спрыяе рост краязнаўчага руху на Беларусі.

Гісторыя літаратуры, ператвараючыся ў строга-навуковую дысцыпліну, высоўвае патрэбу вывучэньня літаратурных зьяў у агульным разьвіцьці ўсяе літаратуры вядомага народу, неабходнасьць выяўленьня прычыннай сувязі між зьявамі літаратурнага жыцьця. Прасачыць традыцыю ў стварэньні новых форм, вобразаў—складае непасрэдную задачу гісторыка літаратуры. Але гэты строга навуковы шлях няўнікнёна прыводзіць літаратуру да штучнай ізоляцыі, да адрыву ад жыцьця. Літаратурная творчасьць мае сваіх мікробаў. Гэтыя мікробы знаходзяцца ў грамадзкім асяродзьдзі, дзе праходзіць жыцьцё пісьменьніка, яны знаходзяцца ва ўсім жыцьці краю. Вось чаму Гётэ гаварыў:

> Wer den Dichter will verstehen,
> Muss in Dichters Lande gehen—
> Хто хоча зразумець пісменьніка,
> Няхай пабудзе ў яго краіне.

Сучасная навуковая думка імкнецца вывучаць зьявы ў іх прыродным асяродзьдзі. Вывучэньне літаратуры на фоне вывучэньня краю,

---

[1]) Неабходна падкрэсьліць і той факт, што самыя выдатныя аматары-фотографы Беларусі прынялі ўдзел у выстаўцы і некаторыя з іх разьмясьцілі свае працы асобнымі вітрынкамі. Адзначым з іх надзвычайна мастацкія працы фот. Салавейчыка („Крыжы ў Самахвалавіцкім раёне“, „Група бярозак“, „Дмухаўцы“), Фальковіча („Дудар з Мсьціжа“, „Стары магільнік“, „Бусел“, „Старыя елкі“ і інш.), Валькоўскі і Сьляпян.

[2]) Н. К. Пиксанов. Изучение областных культурных гнезд.

які стварыў яе, і будзе адпавядаць гэтаму навуковаму вымаганьню. Але разам з гэтым ня трэба ні на хвіліну забывацца, што літаратура мае і сваё асаблівае прыроднае асяродзьдзе, створанае літаратурнымі традыцыямі. Для таго, каб зьявы жыцьця знайшлі сваю адлюстроўку ў мастацкай творчасьці, неабходна, каб у літаратуры была падрыхтавана глеба. І тут роля творчай асобы, як і ўсюды, абмежавана. Такім чынам лёкальны мэтод высьвятляе пытаньні ўзаемадзеяньня краю і творчай асобы. Пры вывучэньні групы пісьменьнікаў, якія зьвязаны з вядомым краем, пры азнаямленьні з іх жыцьцёвым і творчым шляхам дасьледчык можа выявіць ролю краю ў гэтых процэсах, бо жыцьцё і творчасьць адлюстроўваюць край і такім чынам зьяўляюцца крыніцамі яго веданьня. І запраўды, ровень культурнага жыцьця, дасягненьні ў галінах навукі і мастацтва ці не характарызуюць вытворчасьць і вытворчыя сілы краю побач з дасягненьнямі ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы? А рэволюцыя экономічных і соцыяльных адносін ці-ж не павінна выклікаць і рэволюцыю ў галіне культуры? А будаўніцтва новай культуры ці-ж ня мае патрэбы ў адпаведных ведах?

Здаецца, усё гэта так проста і зразумела, што аб гэтым ня трэба і гаварыць. Але ў нас дзе-ні-дзе яшчэ баяцца пашырыць краязнаўства, рассунуць рамкі вузка-вытворчага характару. Для тых, хто хістаецца ў гэтым пытаньні, неабходна прывесьці думкі, выказаныя па даным пытаньні на 3-й Усерасійскай Краязнаўчай Конфэрэнцыі: „Жыцьцё патрабуе пашырэньня кола тых пытаньняў, якія вывучаюцца“ (з прамовы Н. К. Крупскай). „Гэта было-б зьніжэньнем працы, каб мы думалі, што трэба рабіць толькі тое, што зараз мае непасрэдныя вынікі“ (з прамовы Н. К. Крупскай). „Я павінен проста сказаць, што я асабіста ніколі не згаджуся, што краязнаўства ў галіне навуковых досьледаў можа праявіцца толькі ў адным моманце вывучэньня ўмоў працы, прыгодных багацьцяў ці прыватнага пытаньня археолёгіі... Для мяне краязнаўства тым і каштоўна, што яно на данай тэрыторыі згуртоўвае досьледы як адносна прыроды, гэтак сама і адносна чалавека“ (з прамовы нач. Галоў Навукі Ф. Н. Пятрова, гл. „Известия ЦБК“ № 1, 1928 г.).

Старое краязнаўства звужвала задачы досьледаў, праяўляючы малую зацікаўленасьць вытворчымі сіламі, новае не павінна зноў рабіць памылку старога краязнаўства і, высоўваючы адны задачы, адмаўляцца ад разьвязваньня іншых. Яно зможа, чула ўлічваючы рэальныя патрэбы часу, справіцца з усімі актуальнымі задачамі. Няўжо-ж вывучэньне культурных гнёздаў не заслугоўвае ўвагі і прызнаньня ў пляне культурнага будаўніцтва краю?

Такім чынам, краязнаўства павінна ў шэраг сваіх досьледаў унесьці і вывучэньне культурнага, у прыватнасьці — літаратурнага жыцьця краю. Краязнаўца не павінен прайсьці міма гэтых пытаньняў. І наадварот. Гісторыя літаратуры сярод сваіх дасьледчых мэтодаў павінна адвесьці месца і лёкальнаму мэтоду. Гісторык літаратуры ў пэўнай частцы сваіх прац павінен быць краязнаўцам. Жыцьцё краю: яго ляндшафты, яго быт, паданьні, падзеі, выдатныя асобы—усё гэта ёсьць матар'ялам, які выкарыстоўвае мастак у сваёй працы. Шукаючы „сюжэт“, ён зьвяртаецца да вакольнага жыцьця і яно знаходзіць свой водгук у творах мастака. Такім чынам, завязваючы знаёмства з людзьмі прототыпамі, бачачы краявіды, зьбіраючы весткі аб падзеях, краязнаўца гісторык літаратуры знаёміцца з матар'яламі, якія аўтары ўнесьлі ў ляборатoрыю сваёй творчасьці. Поэт В. Хадасэвіч вельмі ўдала назваў сабраны ім аналёгічны матар'ял пры вывучэньні Пушкіна „поэтическим хозяйством“. Досьледы гэтага „хозяйства“—вельмі ці-

кавая задача. Вырашэньне яе дапаможа выявіць, як зьмяніўся, перарадзіўся, набыў агульную значнасьць, а іншы раз і няўміручасьць пад пяром пісьменьніка, пад пэндзалем мастака мясцовы матар‘ял, адным словам—як кавалкі жыцьця ў мастацтве знайшлі сабе новае жыцьцё. Ці-ж гэта ня ёсьць крыніца для вывучэньня псыхолёгіі мастацкай творчасьці?

Абагульняючы сказанае, робім вывад: лёкальны мэтод у вывучэньні помнікаў літаратуры адкрывае шляхі да іх больш поўнага разуменьня і наадварот,—вывучэньне помнікаў літаратуры працярэблівае шляхі да больш поўнага веданьня краю. Тут узаемасувязь. Агульныя тэзы неабходна конкрэтызаваць на прыкладнай програме абсьледваньня культурных, у прыватнасьці, літаратурных гнёздаў.

## Програма.

### *А. Зьбіраньне матар‘ялу.*

§ 1. Пытаньні, зьвязаныя з жыцьцём пісьменьніка. Перш за ўсё трэба адзначыць, каго лічыць прыналежным да мясцовага культурнага гнязда. З гэтага погляду пісьменьнікаў можна падзяліць на тры групы: 1) ураджэнцаў мясцовага краю, 2) заежджых часовых гасьцей, 3) пісьменьнікаў-старажылаў. Пры гэтым трэба адрозьніваць аўтараў, якія адлюстравалі свой край у творчасьці, ад аўтараў, якія не зрабілі гэтага. І паводле гэтай адзнакі аб‘яднаць іх у групы. Можа зьявіцца падазрэньне, ці трэба вывучаць апошнія катэгорыі, калі прыналежныя да іх пісьменьнікі толькі выпадковымі ніткамі зьвязаны з краем і на першы погляд нічога для гэтага не зрабілі. На гэтае пытаньне ў агульнай формулёўцы адказаць цяжка. Калі аўтар, якога вывучаюць, мае большую вартасьць, дык для вытлумачэньня яго пажадана сабраць усе весткі, быць можа і нямаючыя, на першы погляд, вялікага значэньня, бо ў навуковай працы вузкія рамкі пры зьбіраньні матар‘ялаў зьяўляюцца шкоднымі. Ды дзе крытэрыі для бясспрэчнага вызначэньня грамадзкай і мастацкай вартасьці аўтара, якога вывучаюць? З гэтае прычыны трэба нічога наперад не выкідаць з кола досьледаў, у першую чаргу высунуўшы тых аўтараў, якія маюць большае значэньне для жыцьця краю і даюць сабой значную мастацкую і агульна-культурную зьяву.

Пры вывучэньні жыцьця трэба сабраць, зразумела, усе весткі біографічнага характару, для краязнаўцы-гісторыка літаратуры трэба пры гэтым зьвярнуць асаблівую ўвагу на мясцовы матар‘ял. Неабходна адзначыць месцы, якія зьвязаны з жыцьём пісьменьніка. Месцы, якія, быць можа, ён асабліва любіў. Знайсьці дамы, дзе ён жыў ці часта наведваў. Сабраць яго рэчы, якія характарызуюць яго густ ці звычкі, якія даюць нам напамін аб якіх-небудзь падзеях яго жыцьця. Зразумела, трэба таксама сабраць усе портрэты пісьменьніка (мастацкія фотографічныя карткі). На жаль, да гэтага часу вельмі мала зьярталі ўвагі на спэцыяльнае вывучэньне аблічча пісьменьніка ў розныя пэрыоды яго жыцьця. Звычайна робяцца паасобныя характарызаваньні, іншы раз вельмі тонкія і глыбокія, але яны ня ставяцца ў сувязь і не даюць малюнку разьвіцьця. Але гэта задача вельмі цяжкая. Пры вывучэньні жыцьця пісьменьніка трэба зьвярнуць увагу на прыяцеляў яго, на кола людзей, сярод якіх ён жыў, як кажа старая пагаворка: „Скажы, з кім ты знаёмы, скажу, хто ты“.

Вывучэньне пісьменьніка трэба зьвязаць з вывучэньнем краявідаў мясцовасьці, гаспадарчага разьвіцьця краю, яго культурнага стану; трэба вывучаць аўтара на фоне соцыяльнага асяродзьдзя. Гэты фон

нанова ўзьнікае на грунце краязнаўчай працы, што яшчэ раз падкрэсьлівае важнасьць лёкальнага мэтоду пры вывучэньні літаратуры.

§ 2. Пытаньні, зьвязаныя з творчасьцю аўтара. Перш за ўсё трэба зрабіць заўвагу: кола пытаньняў, ахопленых у § 1 цалком мае значэньне для § 2. Да гэтага трэба дадаць новы цыкл пытаньняў, які высьвятляе лябораторыю творчасьці, характарызуе „поэтическое хозяйство“. З гэтай мэтай трэба сабраць увесь літаратурны матар'ял, у якім адлюстраваліся прырода, быт, людзі і падзеі вядомага краю. Пры гэтым трэба адшукаць месцы, непасрэдна праламлёныя ў творчасьці, даць іх апісаньне, па магчымасьці зрабіць з іх здымкі ці замалёўкі, трэба знайсьці людзей, якія былі для пісьменьніка прототыпамі, азнаёміцца з іх біографіямі і сабраць іх фотографічныя карткі ці портрэты. Вельмі варта будзе дасьледваць тыя падзеі, тыя паданьні, легенды, песьні, нават анэкдоты, якія былі матар'ялам для пісьменьніка.

Увага: Апошняя група пытаньняў можа быць прадметам самастойных досьледаў і вылучана ў асобны параграф програмы.

§ 3. Рукапісы і друкаваныя працы.

Асобным заданьнем будзе зьбіраньне архіву пісьменьніка: успаміны, дзеньнікі, лісты, запісныя кніжкі і г. д., а таксама друкаваныя воры. Можна сабраць ілюстрацыі розных мастакоў да твораў, але на жаль гэтыя ілюстрацыі рэдка зьяўляюцца цікавымі ў сэнсе вытлумачэньня думак аўтара-бэлетрыста. Сюды можна аднесьці і той рукапісны архіў, які стварыўся з лістоў прыяцеляў і знаёмых пісьменьніка. Таксама ёсьць сэнс сабраць упаміны аб пісьменьніку ў перапісцы і ўспамінах іншых асоб. У гэтым-жа пляне трэба сабраць друкаваны матар'ял, які характарызуе аўтара: рэцэнзіі, досьледы, успаміны. Калі пісьменьнік—драматург, дык трэба зьвярнуць увагу і на тэатральныя выставы яго п'ес.

Аналёгічна таму, як былі разгледжаны пытаньні, высьвятляючыя жыцьцё і творчасьць пісьменьніка, можна таксама, паводле тэй самай схэмы mutatis mutandis (зьмяніўшы тое, што трэба), разглядзець пытаньні, якія характарызуюць мастака, музыку, артыста, вучонага і інш. піонэраў духоўнай культуры, характэрных для культурнага гнязда.

Паколькі перад намі стаіць задача вывучэньня культурнага фону жыцьця краю, мы павінны высунуць яшчэ шэраг тэм.

§ 4. Асьвета.

Сучасны стан асьветы ў краі і яго стан у мінулым (тыпы школ, іх лік, гісторыя, іх соцыяльны склад у сучасным і мінулым, выдатныя асобы, скончыўшыя школы, удзел у рэволюцыйным руху і г. д.). Навуковыя ўстановы краю раней і цяпер (дасьледчыя інстытуты, краязнаўчыя і іншыя навуковыя т-вы, лябораторыі, мэтэоролёгічныя, сельска-гаспадарчыя і інш. станцыі, музэі, бібліотэкі, архівы і г. д.).

§ 5. Друк.

Мясцовыя выдавецтвы раней і цяпер; іх напрамак, выдаўцы, іх продукцыя і г. д. Пэрыодычны друк: часопісы і газэты, іх напрамкі, якія соцыяльныя і нацыянальныя колы іх абслугоўвалі і іх тыраж і г. д. Гісторыя мясцовай цэнзуры.

§ 6. Тэатр.

Раней і цяпер. Якія тэатры (драматычны, опэрны, лёгкі жанр; сталы ці часовы; рэпэртуар, наведаньне, рэцэнзіі і г. д).

Увага: §§ 4-6 маюць патрэбу ў спэцыяльна апрацаваных програмах.

Гэты артыкул ня мае мэты дэталізаваць пытаньні, якія зьвязаны з паказанымі §§.

*Б. Апрацоўка матар'ялу.*

Увесь сабраны матар'ял можна вельмі розначынна апрацаваць.

У шмат якіх краёвых цэнтрах складзены біографічныя слоўнікі мясцовых дзеячоў. Асабліва выдатныя ў культурных адносінах дзеячы заслугоўваюць спэцыяльных монографій. Збор адрыўкаў мастацкай літаратуры, прысьвечанай краю, можна апрацаваць у форме хрэстоматыі. Дасьледчая праца пад такім зборам можа быць аформлена ў форме нарысу, які характарызуе малюнкі, абразы краю, адлюстраваныя ў мастацкай літаратуры. Вывучэньне шэрагу культурных дзеячоў на фоне жыцьця краю дае магчымасьць напісаць агульны нарыс мясцовага культурнага гнязда. Лёкальны матар'ял, які зьвязаны з ляндшафтам, можна выкарыстаць пры пабудаваньні літаратурнай экскурсіі, альбо шырэй кажучы—экскурсіі па культурных гнёздах. Асабліва вялікае значэньне для жыцьця краю можа набыць заснаваньне асобнага музэю ці аддзелу пры краёвым музэі, прысьвечанага культурнаму гнязду, дзе будзе экспонавацца матар'ял, які мы характарызавалі ў гэтай програме. Організацыя такога „кутка“ была-б лепшым вынікам працы па вывучэньні культурнага гнязда. Такі „куток“ змог-бы выявіць культурнае аблічча краю і разам з тым быў-бы стымулам творчай энэргіі.

У канцы трэба пажадаць, каб краязнаўчыя організацыі высьветлілі пытаньне аб шляхох і дасягненьнях у галіне вывучэньня культурных гнёзд.

## Літаратура.

*Біографічныя слоўнікі:*

Геннади Г. Указания биографических сведений о замечательных людях Малороссии. Черниг. губ. вед. 1855 г. № 8 и 1856 г. № 16.

Здобнов Н. Матерьялы для сибирского словаря писателей. Приложены к журналу „Северная Азия“ 1928 г. I, II, III, V. M. 1927 г.

Гацисский А. С. Люди Нижегородского Поволжья.

Биографические очерки. Н. Новгород 1887 г.

*Спэцыяльныя монографіі:*

Анненский И. Ф. Пушкин и Царское село П. Парфенон. 1921 г.

Анциферов Н. П. Петербург Достоевского.

Петроград. Из-во Брокгауз и Ефрон 23 г.

*Культурныя гнёзды:*

Пиксанов Н. К. Областные культурные гнезда. М. Гиз 1928 г.

Золотарев. С. А. Писатели Ярославцы в. I i II. Ярославль. Из-во Яр. с. х. союза коопер. 1920 г.

*Хрэстоматыі:*

Поэзия Крыма. Под ред. И. А. Белорусова. М Из. Утро. 1909.

Царское село в поэзии. Составил Э. Голлербах. П. „Парфенон“ 1921 г.

Псков в поэзии. Сост. Разлетовский В. Я. и Иеропольский К. А. Псковское О-во Краев. 1925 г.

*Абразы гораду:*

Анциферов Н. П. Душа Петербурга П. Брокгауз и Ефрон. 1922. г.

Голлербах. Город Муз. Ленинград 1927 г.

*Літаратурныя экскурсіі:*

Анциферов Н. П. Теория и практика литературных экскурсій. А. „Сеятель“ 1925 г.

Свободов А. Н. Литературно-культурныя экскурсіі по Нижнему Новгороду Н. Н. 1926 г.

*Літаратурныя музэі:*

Португалов. По Тургеневским местам. Литературныя экскурсии в Тургеневский Музей в Орле и Спасское-Лутовиново. М. „И-во Т-ва В. В. Думнова“ 1924 г.

Д. Благой. Мураново. М. Моск. Из-ое Об-во 1925 г.
Булгаков В. Дом Льва Толстого в Хамовниках. М. Изд. Толстовского Музея 1927 г.

Увага: Тут прыведзены толькі прыклады па ўсіх асноўных тыпах літаратуры па вывучэньні культурных гнёздаў.

---

**М. Касьпяровіч.**

# „Наша Ніва“ і краязнаўства.

У самыя чорныя часы царскага самаўладзтва „Наша Ніва“ зрабіла вялізную працу ў галіне культурна-нацыянальнага адраджэньня. Дбаючы аб задаваленьні культурных патрэб беларускай насельнасьці ў родных ёй формах: мове, мэлёдыі, орнамэнце і да т. п., „Наша Ніва“ не магла ня цікавіцца выяўленьнем асаблівасьцяй беларускай народнай творчасьці і ўмоў, у якіх яна разьвівалася. Яна павінна была клапаціцца аб вывучэньні гэтых асаблівасьцяй, бо „кожны народ, які хоча адрадзіцца культурна, павінен будаваць гэта адраджэньне на аснове, якой ёсьць—між другім—народная творчасьць; дзеля гэтага ўзоры народных вырабаў з аздобамі кожная маладая нацыя зьбірае, прыглядаецца ім, а посьле вучоныя артыстыператвараюць і багацяць гэтыя ўзоры, разьвіваючы тое, што стварыла жывая душа народу, ды гэтак багацяць культурныя здабыткі народу“ [1]). Вывучэньне краю павінна быць усебаковым і павінна мець практычную мэту, якая мае складацца з далейшага разьвіцьця ўсіх народных дасягненьняў. У першую чаргу меркавалася выяўляць усе асаблівасьці беларускага жыцьця. „Наша Ніва“ лічыла, што „кожны лёгка зразумее, якую цану павінна мець для нас кожная беларуская асобнасьць, дзе-б яна ні спаткалася, ці то як прыкраса, ці як форма грамадзкага жыцьця; усюды, дзе-б мы ні спаткалі гэту родную асобнасьць, орыгінальнасьць, мы павінны берагчы і захоўваць, а хто дуж—разьвіваць і шырыць“ [2]). Пачынаць, як заўсёды і ва ўсякай краязнаўчай працы, прыходзілася з падліку ўжо зробленай працы па вывучэньні краю. Першы час карысталіся ўжо існаваўшымі паказчыкамі краязнаўчай літаратуры і раілі яе мясцовым краязнаўцам [3]). Але на гэтым спыніцца нельга было і „Наша Ніва“ распачала ўкладаньне поўнай беларускай бібліографіі, спадзяючыся ў хуткім часе выдаць яе [4]). Апрача зьбіраньня літаратуры па мясцовым краі, першачарговаю краязнаўчаю задачаю зьяўляецца ўтварэньне музэю. І вось „Наша Ніва“ пачала зьбіраньне яго [5]); зборы таго часу складаюць аснову сучаснага музэю імя Яна Луцкевіча ў Вільні. Але пакуль можа быць сабраны музэй, неабходна мець пэўную ўстанову, якая-б выконвала асьветную і агітацыйную задачу музэю. Такою ўстановаю можа быць толькі выстаўка—і „Наша Ніва“ прымала ўдзел амаль ва ўсіх краёвых выстаўках, якія ў той час наладжваліся на Беларусі. Апрача сваіх выданьняў, за якія яна мела пахвальныя лісты і мадалі [6]), „Наша Ніва“ выстаўляла на выстаўках і свае колекцыі, пераважна старасьвецкіх вырабаў [7]). Не абмяжоўваючыся гэтым, газэта ў сваіх справаздачах аб выстаўках заклікала сялян да шырэйшага ўдзелу ў выстауках. Так, будучы нездаволенай малым лікам народных экспонатаў на аднэй з краёвых выставак, яна пісала, што „экспонатаў у Палесьсі можна назьбіраць шмат і вельмі цікавых і орыгінальных, невядомых сьвету. Дужа важная справа выцягнуць на сьвет народнае, орыгінальнае і самабытнае штукарства паляшукоў. Па сялянскіх палескіх хатках крыецца бязьмернае ба-

гацьце народнага орнамэнту ў дрэве, тканінах і вырабах з кары" [8]). Урэшце, ня гледзячы на тагочасныя цяжкія ўмовы, „Наша Ніва" манілася з'арганізаваць сваю ўласную выстаўку. „Нам, беларусам, трэба пільна зьбіраць і парадкаваць кожную рэч, якая мае на сабе знак аздобніцтва, бо гэта знак нашай роднай культуры,—пісала яна. Вось-жа ўжо жменя тутэйшых людзей надумала ўстроіць на другі год *беларускую выстаўку,* каб паказаць людзям, што і беларусы мелі і маюць як у штодзённым жыцьці, так і ў артыстычных вырабах нешта сваё роднае, асобнае, што і яны адчуваюць патрэбы красы ў сваёй шэрай долі. Няхай-жа кожны, у кім ёсьць жывая душа, паможа гэтай добрай справе і пастараецца сабраць з сваёй ваколіцы як найхарашэйшыя рэчы, на каторых будзе які ўзор ці рысунак, зроблены беларускімі сялянамі. На выстаўку патрэбны паяскі з узорамі; вышыўкі, хвартушкі, кашулі, каптуры і др.; рэзаныя ўзорам рэчы з дрэва: прасьніцы, валкі, пральнікі і др.; гліняныя вырабы і ўсё такое, на чым ёсьць кляймо, што гэта ня проста работа з-пад тапара, але працавала над гэтым і людзкая мысьль, людзкі разум" [9]). „Наша Ніва" гэтым зусім слушна паўстала супроць традыцыйнага погляду, адпаведна якому на выстаўку і ў музэй трэба несьці ўсё старое, ненормальнае, ні на вошта нягоднае. Каб-жа заахвоціць да зьбіраньня найлепшых узораў беларускай працы і больш пасьпешна выяўляць іх, газэта часамі наладжвала своеасаблівыя конкурсы. Так, адзін з іх, а ўласна „конкурс беларускіх дзявочых апратак зацікавіў усіх. Нагрыды прысуджала сама публіка і прызнала першую п. Стэфановіч, гарсэцік з слуцкай тканіны, спадніца з цёмных вясёлкавых колераў, апратка чыста народная; другая нагрыда за апратку стылізаваную: пекная кашуля з вышыўкамі на рукавох і хвартушок з слуцкіх паясоў, гарсэцік з слуцкай тканіны. Трэцяя нагрыда: апратка літоўская і 4 награды за беларускую апратку" [10]). Такое-ж самае вялікае значэньне, як музэі і выстаўкі, маюць і экскурсіі ў справе азнаямленьня з мясцовым краем і зьбіраньня краязнаўчых матар'ялаў. Задачы экскурсаваньня „Наша Ніва" высьвятляла на прыкладзе іншых, так званых, *малых народаў.* Паведамляючы як стаіць экскурсійная справа ў *Англіі,* Швэйцарыі, Швэцыі, *Францыі і Нямеччыне,* яна адзначыла, што „добры прыклад дае нам Фінляндыя. Ня вельмі даўно злажыўся там гурток студэнтаў-экскурсантаў, каторы пастанавіў сабе мэтай спазнаць свой край і несьці ў народ нацыянальную сьвядомасьць. Першыя спробы выйшлі добра: народ, спатыкаючыся з інтэлігенцыяй, пачынаў цікавіцца грамадзкім і нацыянальным жыцьцём, і скора ў тых мясцох, дзе пабывалі экскурсанты, зьяўляліся ў сялянскіх хатах газэты, кніжкі, а за імі адкрываліся новыя школы, бібліотэкі, чытальні, прамысловыя і экономічныя організацыі. Побач зьяўляліся ў друку цэнныя працы экскурсантаў аб родным краі, адкрываліся музэі з сабраных імі ў часе экскурсій рэчаў. На экскурсіі скора зьвярнула ўвагу і само грамадзтва, як на найлепшы спосаб да пашырэньня культуры і нацыянальнай сьвядомасьці паміж сялянамі. Вось гэтыя першыя экскурсіі і палажылі пачатак звычаю летніх экскурсій маладзёжы вышэйшых і сярэдніх фінляндзкіх школ" [11]). Адзначаючы гэта, а таксама разьвіцьцё экскурсійнай справы ў Літве, „Наша Ніва" лічыла, што моладзі нашай беларускай, каторай шчасьлівая доля прызначыла жыць у досьвітках нашага адраджэньня, адкрываецца шырокае поле да карыснай культурнай працы, поле, мяжаўшае дагэтуль дзірванамі. Першы крок у гэтай працы—лёгкі і даступны для кожнага—і будуць экскурсіі па ўсёй Беларускай зямлі. Няхай усе, хто можа, ідуць у розныя бакі нашай старонкі, няхай пазнаюць яе, запісваюць народныя творы—казкі, легенды, прыказкі,

песьні з нотамі, звычаі народныя, няхай зьбіраюць вырабы сялянскія, перарысоўваюць аздобы (орнамэнты), фотографуюць тыпы беларускія ў нацыянальных вопратках і т. д. З кожным годам усё сваё заціраецца ў нас чужым, наносным. Вось, выратаваць тое, што яшчэ жыве ў нашым народзе, і ёсьць першая і найважнейшая мэта экскурсій у нас на Беларусі“ [12]). Урэшце, апошняю з агульных задач краязнаўства, разьвязаньня якіх вымагала „Наша Ніва“, зьяўлялася падрыхтоўка беларускіх вучоных-краязнаўцаў. Гэта быў, паміж іншым, адзін з галоўных мотываў, з якім выступала газэта ў абарону неабходнасьці адчыненьня унівэрсытэту ў Вільні [13]).

Cena asobnaho numeru 5 kap.

Hod V. Wilnia, 25 (10) Lutaho (Fiewrala) 1910 h. № 9.

# Naša Niwa

PIERŠAJA BIEŁARUSKAJA HAZETA Z RYSUNKAMI

**Wychodzić što tydzień ruskimi i polskimi literami**

Adres redakcii i administracii: Wilna, Wilenskaja wulica № 20

Cena z pieresyłkaj i dastastaŭkaj da chaty: na 1 h.—2 r. 50 k., na 6 mies.—1 r. 25 k., na 3 m.—65 k., na 1 mies.—25 k. Za hranicaj: na 1 h.—4 r., na 6 m.—2 r., na 3 m.—1 r. Pieramiena adresu—20 k.

Č—czytać jak polskaje CZ Š—czytać jak polskaje SZ



Pa anka ŭ pušču Bielawiežskaj

Першая старонка „Нашай Нівы“ з фотографіяй з яе краязнаўчых збораў.

У галіне навукова-дасьледчай „Наша Ніва“ таксама разгарнула шырокую працу і вынікамі яе цяперака карыстаюцца шмат якія навуковыя інстытуцыі. Большае месца, зразумела, займала грамадзка-экономічнае вывучэньне краю, якое больш адпавядала задачам культурна-нацыянальнага адраджэньня, г. зн., задачам самой газэты. З гэтай прычыны яна вельмі ахвоча адгукнулася на думку чытача Аніські аб правядзеньні гутарак з сялянамі на тэму: „хто мы такія“; вынікі гэтых гутарак газэта мела друкаваць на сваіх старонках [14]). Асаблівую зацікаўленасьць „Наша Ніва“ мела да ўкладаньня беларускага слоўніка.

Гэтаю справаю займалася ў той час „многа людзей“ [15]), працу якіх газэта імкнулася аб'яднаць і клапацілася аб яе апублікаваньні [16]). Газэта ведала, што „ёсьць гатовы ўжо, надта добры абшырны беларускі славар“ [17]), што Р. Земкевіч у той час сабраў 12.000 слоў для беларускага і 2.000 для украінска-беларускага слоўніка [18]), што Ціхінскі пісаў свой беларуска-руска-польскі слоўнік [19]), што ў 1909 г. над слоўнікам працавала ў розных мясцох 5 чалавек і г. д. Але яна добра ведала, што такую вялізную працу, як укладаньне добрага слоўніка, можна выканаць толькі агульнымі сіламі. „Так што прыдзецца ім (укладальнікам слоўнікаў *М. К.*) сабрацца скора і тады выйдзе добры славар“ [20]),—пісала газэта. У сувязі-ж з гэтым „некаторыя працаўнікі на беларускай ніве [хацелі] зрабіць вучоны зьезд, каб абгаварыць розныя справы беларускай літаратуры і пісаньня. Гэта на гвалт патрэбна, бо літаратура беларуская моцна расьце і разьвіваецца [21]). Зразумела, ва ўмовах царскага ладу гэта было толькі прыгожай марай—такі першы зьезд адбыўся пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, скліканы Інстытутам Беларускай Культуры. З пункту свайго разуменьня задач краязнаўства „Наша Ніва“ надавала зьбіраньню фольклёру такое самае вялікае значэньне, як і справе слоўнікавай. „Запіс беларускіх песень вельмі важная работа, бо гэта фундамант пад будучую нашу літаратуру і вялікая заслуга тых, хто пасьвяціць сваю працу на гэту нялёгкую справу“ [22]); ды і музыка беларуская можа вырасьці толькі на аснове народнай мэлёдыі,—пісала яна [23]). „Кожын народ ад самага пачатку свайго жыцьця, заўсягды ўсё тое, што рабілася ў душы яго, выліваў у *песьні*. Гэтая песьня станавілася люстрам душы яго, адбівала ў сабе і ўсё жыцьцё народа“. Вось чаму і беларусы цяпер—у часе нацыянальнага адраджэньня, у часе шырокай культурна-нацыянальнай працы—павінны асаблівую ўвагу зьвярнуць на свае народныя песьні. Гляньма на адраджэньне іншых народаў: усюды ўбачым, што народнай песьні вызначана пачэснае месца, што над ёй працуюць, да яе зьвяртаюцца ўсе, хто хоча добра пазнаць свой народ. Напрыклад, у Фінляндыі кожны год нават спраўляюць *сьвята песьні*. Перш-на-перш павінны сабраць усе свае народныя мэлёдыі—тыя самыя, што пяяліся нашымі бацькамі і дзядамі [24]). Рэдакцыя шмат разоў заклікала мясцовую інтэлігенцыю запісваць тэксты песень, мэлёдыі да іх, казкі, прыказкі, легенды, паданьні, вясельлі, хрэсьбіны і інш. [25]), дзякавала за прысланыя матар'ялы [26]), заахвочвала да далейшага зьбіраньня і рэкомэндавала спосабы запісваньня. Яна лічыла, што „запісваць трэба не асобныя песьні, а ўвесь цыкль, гэта значыць, калі вясельныя, то па парадку ўсе вясельныя песьні; калі хрэсьбінныя, то ўсе хрэсьбінныя; таксама вясьнянкі, жніўныя, купальскія ды іншыя. Пры запісваньні песень трэба кіравацца не граматыкай, а вухам, каб запісаць якраз так, як вуха чуе. Добра такжа, калі хто ўмее расставіць нагалоскі (ударэньні) над словамі“ [27]). Па думцы „Нашай Нівы“ навучны запіс вымагае: I. запісваць слова ў слова так, як пяецца песьня, *нічога не перарабляючы,* не адкідаючы і не дадаючы, ды стараючыся аддаць у запісі выгавар і ўдарэньня; II. словы незразумелыя для запісваючага або мала зразумелыя адзначыць і ў вынасцы запісаць, *як іх разумее, той, хто пяе*, гэтак сама рабіць трэба і з незраумелым сэнсам песьні, асобамі ўспамінанымі ў песьні, а калі песьня гістарычная, то і тое, як разумее той, хто пяе, данае гістарычнае здарэньне; III. пад кожнай песьняй павінна быць запісана, хто яе пяяў, колькі яму гадоў, граматнасьць яго, селянін, мешчанін ці шляхціц, вёска, валасьць, павет, губэрня, дзе запісана песьня. Гэтак сама трэба апісаць і голас (ноту) песьні, хто яго дыктаваў і хто запісваў. Гістарычныя здарэньні і асо-

бы, выступаючыя ў песьні, тыя што пяюць, могуць фальшыва тлумачыць, *але трэба запісваць так, як тлумачыць той, хто пяе,* бо з гэтага выяўляецца сьветагляд народу. Апрача ўсяго таго, што вышэй было сказана аб запісу песень, трэба яшчэ запісваць, калі яна пяецца, што хоча гэтай песьняй выказаць пявец: смутак, радасьць, вясёласьць і т. д. Песьні прысылайце ў рэдакцыю „Н. Н.", мы зьбіраем матар'ялы гэткія, каб выдаць вялікую кніжку самім, або пры помачы якога навуковага таварыства" [28]). ...Адначасна з вывучэньнем фольклёру дарослых „Наша Ніва" клапацілася зьбіраньнем і дзіцячага фольклёру. „Сьпяванак для дзяцей з нотамі, ані дзіцячых гульняў" ніхто яшчэ не апрацоўваў,— адзначала яна. Усё гэта вельмі патрэбнае і трэба было-б апрацаваць, а як былі-б гатовыя рукапісы, то можа-б хто і знайшоўся-б, што выдаў-бы ўсё гэта" [29]). Для інструктаваньня сваіх корэспондэнтаў газэта выбрала найлепшы спосаб: яна, напр., зьмяшчала апісаньне і тэкст якой-небудзь гульні [30]) і тут-жа прасіла зрабіць падобны запіс іншых гульняў або варыянтаў данай [31]) і такім чынам вучыла краязнаўчай працы не адно расказам, а і паказам.

Не абмяжоўваючыся толькі інструкцыйнымі радамі, „Наша Ніва" зьмяшчала часамі розныя анкеты. Так, ёю была надрукавана анкета Камісіі па складаньні этнографічных карт Расіі, што працавала ў складзе Рускага Географічнага Таварыства [32]), сваёй дапамогай апошняму газэта жадала выявіць і паказаць вучонаму сьвету этнографічныя межы Беларусі. Але яна, разам з тым, зьмяшчала анкеты і з мэтаю зьбіраньня вестак для апрацоўкі іх беларускімі навуковымі сіламі. Дзьве з такіх анкет маюць яшчэ і мэтодычную, а ня толькі гістарычную значнасьць. Адна з іх, аб бэтлейцы, зьявілася ў выніку вялікай зацікаўленасьці „Нашай Нівы" ў асобе пісьменьніцы Цёткі (А. Пашкевіч) беларускім народным тэатрам. „Бэтлейкі—гэта перажытак сярэднявяковага тэатру, так званай рэлігійнай драмы. Сярэднявекавы тэатр у нас, на Беларусі, шырока быў разьвіты, у ім ігралі сцэны жывыя людзі; засталіся тэксты ў беларускай мове. Дзеля гэтага вельмі важна запісваць усе тэксты, якія захаваліся,—гэты вельмі цэнны матар'ял да гісторыі беларускага тэатру" [33]). „Вялікую заслугу зрабілі-б людзі [і] для народнай беларускай літаратуры, каб запісалі ўсё, што ведаюць аб бэтлейках,ясьлях, „казе", „мядзьведзю", „цыганох" і т. д., у каторых адбілася і этнографія нашага краю, і гумар, і псыхіка нашага народу" [34]). „У „казе", „мядзьведзю" засталіся перажыткі дахрысьціянскіх часоў; у гэтых гульнях, як у люстры адбіваецца старасьвецкая паганская вера беларускага племені" [35]). Каб сабраць увесь фактычны матар'ял, апрацаваць яго і выдаць [36]), „Наша Ніва" прасіла даць адказы на наступныя пытаньні:

I. Калі з бэтлейкай ходзяць? а) у якую пару і як доўга гэта трывае? б) у якія дні і ў якую пару дня? II. Як бэтлейку носяць? а) ці на руках? б) ці на колках? в) ці на возіках? III. Хто з бэтлейкай ходзіць? а) якога веку: старыя ці малыя? б) якога стану (саслоўя)? IV. Ці адзяваюць для гэтага асобнае адзеньне? V. Які даход дае бэтлейка? а) ці цэны за прадстаўленьне напярод назначаны раз на заўсягды? б) ці ў форме гасьцінца ад публікі? VI. Апісаць саму бэтлейку: а) як бэтлейка выглядае зьверху? б) як у сярэдзіне? VII. Прамерыць бэтлейку: а) даўжыню; б) шырыню; в) вышыню. VIII. Форма сьцен, страхі, ганку, вокнаў, дзьвярэй і колькі ёсьць дзьвярэй? IX. Сколькі мае паверхаў (этажаў)? X. З якога матар'ялу зроблена? XI. Якія мае аздобы? а) якога колеру тыя аздобы? б) які рысунак (орнамэнт) аздоб? в) з якога матар'ялу аздобы? XII. Ці ёсьць абразы? а) дзе яны панаклейваны? б) каго абразы прадстаўляюць? XIII. Сцэна (надта важна апісаць падзел сцэны): а) ці сцэна толькі адна? б) ці мо падзелена на дзьве часьці, так што і на аднэй і на другой палове ідзе ігра лялек? в) а мо ёсьць тры: адна выклееная абразкамі (неба); другая—для ігры лялек; трэцяя, адкуль выходзяць чорт, сьмерць і др. (пекла). XIV. Лялькі: а) з якога матар'ялу, колькі іх, ці ўсе з аднакага? б) мо чорт, сьмерць і др. з горшага? XV. Ці хатняй работы, ці куп-

леныя: заграні́чныя, краёвыя? а) якія: з чаго і якога цьвету апраткі? XVI. Калі ёсьць наклеены бароды, вусы, валасы на галаве, то з чаго і якога цьвету? XVII. Кудэю і якія лялькі ўходзяць і выходзяць? XVIII. Мо, апроч лялек, і жывыя асобы граюць, дык апісаць іх лічбу, выгляд і вопраткі. XIX. Запісаць што гавораць у бэтлейцы (тэкст) слова ў слова, не зьмяняючы, хоць будуць спатыкацца словы непанятныя—бяз толку. XX. Як словы перадаюцца: сьпевам, расказам? XXI. Хто іх кажа? XXII. Ці словы запісаны, ці друкаваны, ці гаворацца з памяці? XXIII. Да якога стану, сказаўшы агулам, публіка належыць (шляхты, паноў, мужыкоў)? XXIV. Да якой забавы бэтлейкі можна прычысьліць: вясковай, дворнай, местачковай, школьнай? XXV. Адну і тую бэтлейку, калі можна, запісаць з розных часоў з усімі пераменамі. XXVI. Запісваць і цяперашнія бэтлейкі і даўнейшыя. XXVII. Запісваць хоць адрыўкі, часьці даўнейшых бэтлеек, хоць толькі апавяданьне (успамін) аб іх са слоў старых людзей. XXVIII. Запісаць імя, прозьвішча, век, заняцьце, вёску расказчыка і запішчыка. XXIX. Калі хто можа, дык вельмі добра сфотографаваць бэтлейку, зрысаваць орнамэнты, зрабіць плян. Запісваць ясьлі, казу, цыгана, мядзьведзя трэба таксама, як бэтлейку,—значыць, усестаронна, не прапускаючы нічога [37]).

Такое-ж вялікае значэньне, як і зьбіраньне бэтлеек, для няпісанай гісторыі беларускай народнай культуры, па думцы газэты, мела і іншае тэматычнае зьбіраньне беларускай народнай творчасьці. „Наша Ніва“ прасіла ўсіх чытачоў і корэспондэнтаў „запісаць ўсё, што самі ведаюць, ці могуць дапытацца ад сваіх суседаў ды ў старых людзей аб зьмеях (вужох) і зьвязаных з імі забабонах, а такжа казкі аб вужох і зьмеях, песьні аб зьмеях, гульні ў каторых уходзіць пад якім-небудзь відам зьмей, вуж (яшчур) і інш. Адказы (газэта прасіла) пісаць у такім парадку:

1) Мясцовасьць, губэрня, павет, воласьць, сяліба і хто запісвае (імя, фамілія). 2) Ці цяпер вужы яшчэ сустрачаюцца ў вас, як яны выглядаюць і дзе жывуць. Ці гадуюць іх па хатах, а калі цяпер не, то ці даўней гадавалі? 3) Ці вужы лічацца карыснымі ці шкоднымі, чым карысны і чым шкодны? Ці забіваюць вужоў і чаму? 4) Ці ёсьць у вашай ваколіцы камяні званыя „зьмеявікамі“, як яны выглядаюць, што аб іх расказваюць людзі? А можа ёсьць камяні пад іншымназваньнем ці зусім без названьня з рысункам зьмея? 5) Ці не сустракаюцца ў вашай ваколіцы крыжы прыдарожныя, крыжыкі і мадалікі са зьмеямі, якія яны, і ці гэтыя крыжыкі і мадалікі носяць на сабе, ці толькі перахоўваюць і чаму? 6) Якія варожбы і прыметы са зьмеяў сустракаюцца ў вас? 7) Якія казкі расказваюць аб зьмеях і вужох, якія сустракаюцца прыказкі і песьні? 8) Што кажуць аб жыцьці зьмеяў, іх нараджэньні, сьмерці, характары і абычаях? [38]).

Падобна гэтай можна было апрацоўваць і інш. тэмы з беларускай народнай творчасьці.

Адначасна з вывучэньнем апошняй „Наша Ніва“ вельмі клапацілася зьбіраньнем і вывучэньнем беларускай літаратуры, якая яшчэ ня мела свайго сталічнага цэнтру і таму ў большай меры, чым у іншых старонах, была распылена па Беларусі і разьвівалася ў краёвых культурных гнёздах.

Усім вядома, што па нашых вёсках у тыя часы, калі было забаронена друкаваць беларускія кніжкі, хадзілі рукапісныя сшыткі з рознымі беларускімі вершамі, сатырамі і поэмамі. Хто іх пісаў і хто шырыў невядома было. Толькі на ўсякае выдатнае здарэньне ў жыцьці народу, у жыцьці грамады, ваколіцы, вёскі складаліся вершы і разыходзіліся перапісваныя з рук у рукі. Рэдакцыя „Нашай Нівы“ ад самага пачатку свайго жыцьця старалася зьбіраць гэтую рукапісную беларускую літаратуру і дагэтуль сабралася ня мала цэннага матар‘ялу. Побач са зьбіраньнем рукапісаў нам удавалася вылаўліваць і імёны аўтараў. Аказваецца, што праз усё XIX сталецьце беларускія пісьменьнікі не звадзіліся: людзі пісалі і працавалі над разьвіцьцём беларускай літаратуры, над утрыманьнем беларускай сьвядомасьці. Хоць мы і ведаем колькі імён аўтараў, якія пісалі пабеларуску ў забаронных часох, але па большай часьці людзі гэтыя ня жывуць ужо і мы ня ведаем, хто і што яны былі: ня маем іхніх біографій і портрэтаў.

А дзеля таго, што гэтая справа дужа важная для гісторыі беларускай літаратуры і для ўвекавечаньня імён бескарысных барцоў за нашу акрадзеную долю, зьвяртаемся да ўсіх нашых чытачоў найперш з паноўленай просьбай зьбіраць і прысылаць нам рукапісную літаратуру ды запісваць нязгодныя поэмы са слоў, а пасьля з просьбай зьбіраць і прысылаць у рэдакцыю рукапісы, біографіі (жыцьцеапісаньні) і фотографіі іх аўтараў. Можа аб кім з іх былі друкаваны якія весткі ці портрэты ў якіх часопісах ці кнігах—просім таксама паведаміць нас, а яшчэ лепей—прысылаць тыя друкі [39]). Так вызначала газэта задачы зьбіраньня беларускай літаратуры. Разам з тым, яна для орыентаваньня ў працы падавала сьпіс пісьменьнікаў, аб якім трэба зьбіраць матар'ялы ў першую чаргу і ўвесь час вяла чынную ўзаемаінформацыю чытачоў аб атрыманых ёю і адшукваемых матар'ялах [40]). З усяго гэтага відаць, што „Наша Ніва“ зьбірала ня толькі музэй, а і навукова-краязнаўчы архіў і дасягнула ў гэтай справе значных посьпехаў.

Асаблівае значэньне ў галіне грамадзка-экономічнага вывучэньня краю было дасьледваньне „Нашай Нівай“ хатніх рамёстваў і бюджэтаў. Адзначаючы вялікую рамесьніцкую працу беларускага селяніна, яе малапрыбытковасьць і незабясьпечанасьць новым начыньнем і школамі, а таксама шырокае разьвіцьцё рамёстваў за межамі і вялікае значэньне іх для Беларусі, „Наша Ніва“ прасіла прыслаць весткі аб стане рамёстваў на мясцох і свае парады што да разьвіцьця іх па такой анкетцы: „У вёсцы..., павету..., валасьці..., губэрні...

1) Што вырабляюць у вёсцы (тут усё акуратна апісаць)? 2) У якіх дварох, хатах чым займаюцца? Колькі чалавек гэтым займаецца? З гэтага колькі: узрослых: мужчын, кабет; падросткаў: хлопцаў, дзяўчат? 3) Ці гаспадары-рамесьнікі наймаюць помач, колькі плацяць і як (грашмі, адзежай, стравай)? 4) Ці часам няма хаўруснай работы, ці купляюць сыры матар'ял хаўрусам, ці кожны рамесьнік асобна? 5) У хаўрусе колькі людзей злучана, як гэта ўстроена, як вядуць рахункі? 6) Дзе і які матар'ял купляецца да работы і па якой цане? 7) Дзе прадаюць свой тавар і па якой цане? 8) Ці тыя, што купляюць тавар, плацяць грашмі, ці замяняюць на які другі тавар і на што? 9) Ці ня прыходзіцца пазычаць грошы на рамясло? Калі пазычаюць, то ў каго і за які процант (грашмі, таварам і т. д.)? 10) Ці робяць на заказ, ці вывозяць на кірмашы ці можа куды ў другое месца? 11) Ці вырабы свае выстаўлялі на выстаўцы? Калі так, то дзе і ці атрымалі нагараду і якую (грашмі, мадаль, падзяку)? 12) Ці няма якіх спэцыяльных будынкаў ці інструмэнтаў да работы? Ці гэтыя будынкі і інструмэнты самі робяць ці купляюць,—дзе і па якой цане? 13) Як вялікі заработак з прадажы хатніх вырабаў? 14) Ці не памятаюць як даўно пачалі займацца хатнім рамяслом і з якой прычыны? 15) Ці тыя, што займаюцца хатнім рамяслом, маюць зямлю (колькі), сям'ю (колькі чалавек)? Ці займаюцца работай круглы год, ці толькі ў вольны час (зімой, вясной)? 16) Ці як пачалі займацца рамяслом у вёсцы лепш дзеецца, ці больш пачалі піць гарэлку? 17) Ці рамясло разьвіваецца ці зьмяншаецца і дзеля чаго гэта дзеецца? 18) Ці рамясьнікі хацелі-б злучыцца ў хаўрус, каб разам прадаваць тавары, разам купляць прылады? Можа маюць сваю думку ўстройства хаўруса (апішыце яе)? 19) Ці-б згодзіліся супольна з другімі прысылаць тавары на продаж у Вільню да магазыну і на якіх варунках? 20) Ці на выстаўку хатняга рамясла ў Вільні прыслалі-б свае тавары і якія? 21) Просім напісаць свой погляд на справу організацыі хатняга рамясла.

Увага. Адказваючы просім пры кожным адказе ставіць нумар пытаньня, на якое даецца адказ [41]).

Сабраўшы патрэбныя весткі, газэта мелася пісаць вывады з іх. Тутака неабходна адзначыць рэзка практычны характар вывучэньня гэтага пытаньня. Такі-ж характар мела і вывучэньне бюджэтаў беларускіх сялян [42]) і настаўнікаў [43]). Каб паставіць гэтае пытаньне шырэй, „Наша Ніва“ мела надрукаваць і разаслаць чытачом асобныя рахунковыя кнігі, у якія трэба-б было запісваць усе датычныя бюджэтаў даныя. У неабходнасьці такіх кніг газэта пераканалася пасьля атрыманьня з месц матар'ялаў аб бюджэтах.

У галіне прыродна-географічнага вывучэньня краю праца была разгорнута „Нашай Нівай“ крыху меншая, але таксама вельмі важная. Яна часамі атрымлівала ня толькі пісьмовыя матар‘ялы, але і рэчаўныя для азначэньня і скарыстаньня. Так, у адказ на прысылку лушчака рэдакцыя паведамляла: „прысланыя камяшкі—гэта „міка“. У нас яна спатыкаецца ў жарстве і ў зямлі з выветраных каменных парод. Дробнымі зёрнамі яна саўсім бескарысная; дзе спатыкаецца вялікімі плітамі (на Урале)—там яе лушчаць на тонкія лісьцікі і ўжываюць часам заместа шыб у вокны, да керасінавых машынак і друг. дробных работ“ [44]). Другому мясцоваму краязнаўцу рэдакцыя пісала: „прышліце кавалачкаў руды; пазнаем, калі жалезная“[45]). Такім чынам, „Наша Ніва“ не адмаўлялася ад надзвычайна складаных у той час прац па зьбіраньні і азначэньні матар‘ялаў, а таксама — ад ліставаньня аб іх. Асаблівую ўвагу газэта зьвяртала на зьбіраньне гэрбараў. „Работа дужа патрэбная і важная,—адзначала яна,—толькі побач засушанага лістка наклейвайце і засушаную кветку; паперу бярыце да гэтага тоўстую і ня сшывайце адразу вялікай кніжкі, лепей колькі меншых—па карцін 30-40 у асобных акладках кожная“ [46]). На дапамогу „Нашай Ніве“ ў справе зьбіраньня гэрбараў прышла менская „Лучынка“, якая зьмясьціла падрабязную захапляючую інструкцыю аб зьбіраньні гэрбараў—найкаштоўнага матар‘ялу да беларускай ботанікі. Рэдакцыя „Лучынкі“ падобна „Нашай Ніве“ абяцала дапамогу спэцыялістаў у справе лацінскіх азначэньняў расьлін, раіла азначальнікі і г. д. [47]). Крышку раней „Лучынка“ ўзьняла пытаньне аб своеасаблівым відзе жывых гэрбараў—квятнікоў. Яна заклікала дзяўчат заводзіць квятнікі-агародчыкі, тлумачыла, як гэта рабіць і абяцала насеньне лепшым агародчыкам [48]). З гэтага відаць, што „Наша Ніва“ зрабіла ў краязнаўчым стасунку моцны ўплыў на іншыя беларускія выданьні, якія па яе прыкладу пачалі клапаціцца аб пашырэньні краязнаўства. „Наша Ніва“ цікавілася таксама і ўсебаковым географічным апісаньнем Беларусі, у першую чаргу, зразумела, популярным. „Географія патрэбна паводле курсу міністэрскіх народных школ,—пісала яна. Рысункаў як можна больш, але не фотографічных, а штрыхавых. Беларусь павінна быць апісана са стараны фізыка-географічнай, з кароткім праглядам яе гісторыі, культуры, сучаснай этнографіі, экономіі і грамадзянскага строю“ [49]).

У галіне культурна-гістарычнага вывучэньня краю „Наша Ніва“ асабліва клапацілася аб выяўленьні і ахове помнікаў старасьветчыны. Даўшы, напр., агляд курганоў Беларусі, як помнікаў нашай старасьветчыны, паведаміўшы аб тым, што знаходзілі ў курганох вучоныя, вытлумачыўшы вялікае значэньне курганоў для беларускай навукі, газэта заклікала: „браткі сяляне, шануйце гэтыя магілы-курганы, бо тут ляжаць косьці нашых дзядоў. Не разоруйце іх бяз лішней патрэбы і не раскапвайце, бо гэта справа вучоных—археолёгаў“[50]). Далей, „Наша Ніва“ цікавілася пахаджэньнем беларусаў [51]), зьбірала апавяданьні і ўспаміны аб паншчыне [52]) і г. д. Тутака да рэчы трэба адзначыць, што яна надрукавала першую беларускую гісторыю і што гэты факт у гісторыі беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня меў вялізнае значэньне.

Такім чынам, з усяго вышэйсказанага відаць, што „Наша Ніва“ была першым беларускім краязнаўчым цэнтрам. Яна вызначала задачы беларускай краязнаўчай працы, друкавала парады, програмы, інструкцыі і анкеты, зносілася з вялізным лікам мясцовых краязнаўцаў, старалася каардынаваць іх працу, атрымлівала масу краязнаўчых матар‘ялаў з месц і ўтварала з іх агульна-беларускі музэй і навукова-краязнаўчы архіў, організоўвала выстаўкі—конкурсы і г. д. Быць можа, не

бяз уплыву ўсяго гэтага зарадзіліся краязнаўчыя студэнцкія організацыі: беларускі навукова-літаратурны гурток, гурток для навуковага вывучэньня Горадзеншчыны і гурток для вывучэньня Беларусі і Літвы, якія ядналі выхадцаў з Беларусі. Прынамсі „Наша Ніва“ зьмяшчала іх адозвы [53]), раіла ім, дзе шукаць першых вестак аб Беларусі, якія неабходна мець перад пачаткам уласна дасьледчай працы [54]) і г. д., а яны з падзякай прымалі ўсё гэта, як ад аўтарытэтнай для іх установы. Значыць, апрача шматлічнай сеткі мясцовых краязнаўцаў, „Наша Ніва“ мела і невялікую сетку краязнаўчых організацый. Пры такім стане рэчаў немагчыма абыйсьціся бяз зьездаў, і „Наша Ніва“ іх мела. Па яе ініцыятыве ўсе працаўнікі рэдакцыі і некаторыя віленскія беларускія дзеячы запрашалі да сябе ў госьці на якое-небудзь сьвята мясцовых працаўнікоў, якія і прыяжджалі, і такім чынам адбываліся своеасаблівыя нелегальныя зьезды [55]).

Асаблівае значэньне краязнаўчай чыннасьці „Нашай Нівы“ складаецца з таго, што яна наперакор польскай і рускай краязнаўчай працы на Беларусі, якая мела мэтаю „поработить“ беларусаў або пад польскага пана, або пад рускага цара, распачала беларускую краязнаўчую працу з мэтаю нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня беларускага народу. Праўда, „Наша Ніва“ мела на ўвазе перад усім нацыянальныя задачы; усё-ж і гэта было ва ўмовах царскага ладу даволі радыкальным. Царскі ўрад, як вядома, зачыніў газэту, але ня ўтрымаўся і сам. Пасьля кастрычніка беларускія працоўныя масы па гэты бок мяжы разьвінулі нябывала шырокую краязнаўчую чыннасьць. Па той-жа бок мяжы польскія паны свой уціск, якім яны душылі беларускіх сялян у часы царскага ладу, пасілілі да нячуванага грабяжу і гвалту. Адзін з актыўнейшых працаўнікоў „Нашай Нівы“—Антон Луцкевіч—пасаджаны ў турму. Беларускае навуковае таварыства і памянёны музэй імя Луцкевіча ў Вільні, дзе працавала „Наша Ніва“, пазбаўлены магчымасьці ня толькі працаваць, але і існаваць. „І Таварыства і Музэй ня маюць ніякіх фундушаў, рэчы, кнігі і дакумэнты без апекі і патрэбнае аховы трухлеюць і гніюць (пакоі ўзімку не апальваюцца, ад чаго сырасьць ня выводзіцца“ [56]) і г. д.

* *
*

1) „Наша Ніва“, Вільня 1911, № 14. 2) Там сама, № 41. 3) Там сама, 1908, № 26. 4) Там сама, 1809, № 50. 5) Там сама, 1911, № 40. 6) Там сама, 1911, № 37—38; 1912, № 38 і інш. 7) Там сама, 1913, № 37. 8) Там сама, № 40. 9) Там сама, 1911, № 14. 10) Там сама, № 47—48. 11) Там сама, 1910, № 19. 12) Там сама. 13) Там сама, 1908, № 12. 14) Там сама, 1913, № 21. 15) Там сама, 1912, № 40. 16) Там сама, 1907, № 31; 1912, № 40. 17) Там сама, 1912, № 40. 18) Там сама, 1909, № 15. 19) Там сама, 1907, № 31; зараз слоўнік Ціхінскага скарыстоўваецца ў поўнай меры Слоўнікавай камісіяй Інстытуту Беларускае Культуры. 20) „Наша Ніва“, Вільня 1909, № 15. 21) Там сама. 22) Там сама, 1912, № 9. 23) Там сама, 1910, № 34. 24) Там сама. 25) Тамсама, 1908, № 7; 1912 №№ 9, 40; 1913, № 47 і інш. 26) Там сама, 1909, № 30. 27) Там сама, 1912, № 9. 28) Там сама, 1913, № 20. 29) Там сама, 1912, № 40. 30) Там сама, 1910, №50; 1912, № 9. 31) Там сама, 1910, № 50. 32) Там сама, 1913, № 38. Камісія ў сваіх картках прасіла даць адказы на наступныя пытаньні: 1. Як і з якога матар'ялу робяць ніжнюю і верхнюю мужчынскую вопратку—кашулю, нагавіцы, сьвітку? 2. Як і з якога матар'ялу робяць доўгую і кароткую жаночую вопратку—кашулю, сьвітку каптан, гарсэцік, спадніцу і хвартух і якія на іх украшэньні? 3. Як і з якога матар'ялу робяць мужчынскую і жаноцкую зімовую вопратку? 4. Апісаць мужчынскія і жаноцкія зімовыя і летнія галаўныя ўборы. 5. Прычэска і ўбор валасоў у мужчын і кабет. 6. Мужчынская і жаноцкая вопратка ніжэй кален і абутак. 7. Дзіцячая вопратка. 8. Мужынскія і жаноцкія дамовага вырабу ўборы шыйныя, вушныя, на рукі, на ногі, на пояс і на грудзі. 9. Народная тэхніка: агонь і якія ўжываюцца матар'ялы для атапленьня і асьвятленьня, выраб гліны і каменя, выраб матар'ялаў, выраб скацінных матар'ялаў. 10. Промыслы: паляўніцтва, рыбалоўства і хлебаробныя прылады. 11. Стравы і прыправы да іх. 12. Спосабы пераезду па сушы. 13. Будаўніцтва, хаты і распалажэньне сяліб у

вёсцы; хата і яе ўстройства—страха, памост, столь, вокны; варыўня, лазьня, сьвіран, гумно і іх устройства. 33) Там сама, 1912, № 4. 34) Там сама, 1910, № 44—45. 35) Там сама, 1912, № 4. 36) Там сама, 1911, № 45. 37) Там сама, 1910, № 44—45; 1911, № 51- 52. 38) Там сама, 1914, № 6. 39) Там сама, 1913, №№ 37, 38, 40) Там сама, 1908, № 24; 1909, № 15; 1910, № 34; 1912, № 10. 41) Там сама, 1911, № 8, дадатак. 42) Там сама. 1909, №№ 23, 50. 43) Там сама, 1910, № 5. 44) Там сама, 1913, № 15. 45) Там сама, 1908, № 24. 46) Там сама, 1913, № 15. 47) „Лучынка“, Менск, кніжка пятая. 48) Там сама, кніжка чацьвертая. 49) „Наша Ніва“, 1912, № 40. 50) Там сама, 1909, № 39. 51) Там сама, 1908, № 15. 52) Там сама, 1911, № 7. 53) Там сама, 1914, № 16. 54) Там сама, 1908, № 26, 55) „Наш Край“, Менск 1928, № 2, ст. 17. 56) З прыватнага ліста аднаго запраўды культурнага польскага працаўніка.

---

К. Гурвіч.

# Краязнаўчыя бібліотэкі і іх склад.

Надзвычайнае пашырэньне аматарскага краязнаўства, як актыўнага—шляхам непасрэднага дасьледваньня, гэтак і пасыўнага—азнаямленьне літаратурным шляхам, патрабавала пашырэньня і адпаведнай катэгорыі літаратуры, і мы, запраўды, бачым магутны ўзрост краязнаўчай кніжнай продукцыі. Як гэта заўсёды бывае, на першых часах гэтая літаратура мела характар або высока-навуковы, спэцыяльны, як напр. выданьні Акадэміі Навук (КЕПС), або гэта была хутчэй агітацыйная, пропагандысцкая і ў малой толькі частцы, навукова абаснаваная літаратура. Ня спыняючыся тутака падрабязна на характарыстыцы краязнаўчай літаратуры,—гэта тэма заслугоўвае спэцыяльнага агляду,—мы азнаёмімся з краязнаўчымі бібліотэкамі ў тым стане, у якім яны знаходзяцца цяпер, калі краязнаўчы рух узмацніўся і мае вялікія навуковыя і ўвогуле вялікія матар'яльныя падставы.

Сучасныя краязнаўчыя бібліотэкі магчыма падзяліць на 3 катэгорыі: 1-ы тып, яго можна назваць тыпам комплектна-выпадковага, або цэнтральнага характару, 2-гі тып - гэта бібліотэкі школьна-навучальныя і 3-ці гуртковы. З боку номэнклятуры здаецца, быццам, яна крыху недарэчна, але калі паглядзім як комплектуюцца гэтыя бібліотэкі, прыдзецца згадзіцца з тым, што іншай тэрмінолёгіі пакуль што ўжыць нельга. Бібліотэкі, якія падыходзяць да 1-й катэгорыі, знаходзяцца пры цэнтральных краязнаўчых установах рэспубліканскага (губэрскага і г. д.) значэньня. З аднаго боку яны комплектуюцца шляхам набыцьця адпаведнай літаратуры, больш-менш плянава, з другога боку гэтыя бібліотэкі, існуючы пры цэнтральных краязнаўчых установах, якія маюць сваё выдавецтва, звычайна знаходзяцца ў сталым абмене з іншымі цэнтральнымі краязнаўчымі організацыямі, атрымоўваючы, але ўжо ня плянава, розную літаратуру, прычым зразумела, што гэтым шляхам у бібліотэкі трапіць больш кніг, чымся шляхам набыцьця. Гэтыя бібліотэкі, найбольш цікавыя па зьместу, маюць аднак з практычнага боку найменшую вартасьць з прычыны таго, што карыстацца імі можа толькі досыць абмежаваны лік чытачоў, шырокія колы краязнаўцаў пазбаўлены гэтай магчымасьці.

Бібліотэкі другога тыпу існуюць пры школах і больш правільна будзе назваць іх не бібліотэкамі, а краязнаўчымі аддзеламі агульнашкольных бібліотэк; зьмест гэтых аддзелаў залежыць ад данай школьна-асьветнай установы.

Найбольш цікавым зьяўляецца 3-ці тып бібліотэкі—гуртковыя. Звычайна гэты тып існуе пры акруговых (павятовых) і г. д. гуртках і найбольш вытрыманы з боку зьместу. Але ёсьць дзьве перашкоды,

якія стаяць на шляху пабудовы гэтых бібліотэк. Першая перашкода—гэта абмежаванасьць сродкаў, што не дае магчымасьці павялічыць лік кніг. 2-ая перашкода, гэта тое, што няма добрага падбору, часта сустракаецца макулатура. Між тым на комплектаваньне гэтых бібліотэк неабходна зьвярнуць больш увагі, выходзячы з таго погляду, што карыстаюцца імі якраз тыя шырокія колы аматараў-краязнаўцаў, якія пазбаўлены магчымасьці карыстаньня больш буйнымі бібліотэкамі. З другога боку, гурткі краязнаўства ў умовах нашай савецкай грамадзкасьці на вёсцы, зьяўляюцца піонэрамі ў галіне культурнага жыцьця, форпостамі культурнага фронту. Ад краязнаўца-аматара шлях вядзе непасрэдна да наглядальніка прыроды больш закончанага і паглыбленага тыпу, а адсюль адзін толькі крок да наватара ў сялянскім жыцьці і сялянскай тэхніцы. Усё гэта патрабуе аднаго—адпаведнай літаратуры, якая дала-б магчымасьць падвесьці тэорэтычны базіс пад імкненьні і думкі аматара. Вось чаму неабходна зьвярнуць такую ўвагу на комплектаваньне гуртковых бібліотэк.

У справе комплектаваньня краязнаўчых бібліотэк наогул мы вызначым наступную схэму падзелу іх:

*I. Агульныя творы па краязнаўству:*

а) Тэорыя краязнаўства, мэты.

б) Пабудова краязнаўчага руху, структура і г. д., справаздачы.

в) Тэхніка краязнаўства: 1. пляны, 2. програмы і інструкцыі, 3. вытворчыя прылады.

г) Пэрыодыка.

*II. Мясцовы аддзел.*

а) Г. зв. няжывая прырода краю: геолёгічны, глебазнаўчы і г. д. нарысы, вытворчыя сілы, географічныя і інш. карты.

б) Г. зв. жывая прырода краю: флёра, фаўна, акрамя чалавека.

в) Чалавек (насельніцтва краю): 1. этнографія насельніцтва (у тым ліку і антрополёгія). 2. Экономіка насельніцтва. 3. Гісторыя краю (у тым ліку і археолёгія).

*III. Краязнаўства іншых краін.*

а) Краязнаўства сваёй рэспублікі, напр. БССР.

б) „ СССР.

в) Іншыя краіны.

*IV. Прырода наогул.*

(Літаратура па няжывой і жывой прыродзе).

Паўстае пытаньне, якія з пералічаных аддзелаў і ў якой бібліотэцы неабходна мець і на камплектаваньне якіх аддзелаў неабходна зварочваць увагу?

Што датычыцца да бібліотэк 1-га тыпу, дык зразумела, што ў гэтых бібліотэках павінны быць усе пералічаныя аддзелы, але выходзячы з таго погляду, што ў большасьці гэтыя краязнаўчыя цэнтры існуюць пры агульна цэнтральных навуковых установах, ці цесна ўвязаны з імі, пашыраць аддзелы гісторыі краю і прыроды наогул не зьяўляецца мэтазгодным. На наш погляд, бібліотэкі краязнаўчых цэнтраў павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на комплектаваньне аддзелаў тэорэтычнага (агульнага) і мясцовага краязнаўства. Аб бібліотэках другога тыпу мы тут гаварыць ня будзем—яны абмежаваны програмамі і сродкамі школ, пры якіх існуюць. Зусім іншыя абставіны мы маем у бібліотэках 3-га тыпу—гуртковых. Гэтыя бібліотэкі не абмежаваны

ні рамкамі, ні програмамі (яны абмежаваны толькі сродкамі). Комплектаваньне гэтых бібліотэк павінна, зразумела, ісьці іншым шляхам. Для гэтага тыпу неабходна прыняць наступную схэму комплектаваньня.

*I. Тэорэтычная літаратура:*

а) Тэорыя краязнаўства, мэты—ня больш як 2-3 кнігі.
б) Пабудова краязнаўчага руху і г. д. ня больш 3-5 кніг.

Увага: У тым ліку справаздачы сваіх цэнтраў.

в) Тэхніка краязнаўства: 1. Програмы і інструкцыі. 2. Азначальнікі (ботанічныя, зоолёгічныя і г. д.).

*II. Мясцовы аддзел:*

а) Мясцовы краязнаўчы часопіс.
б) Географія краю—ня больш 3-5 кніг.
в) Гісторыя краю—ня больш 10 кн.

*III. Краязнаўства іншых краін:*

а) Географія і вытворчыя сілы СССР—3-5 кніг.
б) Гісторыя СССР (сюды ўваходзіць і некаторы лік кніг—3-5 агульна-грамадзкіх, як напр. СССР.—Вольфсона)—да 10 кніг.
в) Географія і гісторыя іншых краін—3-5 кніг.

*IV. Прырода наогул.*

а) Г. зв. няжывая прырода: да 10-12 кніг, у тым ліку:
2-3 кн. па астраноміі,
1-2 „ „ геолёгіі,
1-2 „ „ глебазнаўству,
1-2 „ „ фізыцы,
2-3 „ „ хэміі.

б) Г. зв. жывая прырода: да 25 кніг, у тым ліку:
3-5 „ па ботаніцы,
3-5 „ „ зоолёгіі,
3-5 „ „ біолёгіі,
3-5 „ аб шкодніках,
5-7 „ аб сельскай гаспадарцы.

Увага: калі ёсьць у даным раёне фабрыка ці завод—3-5 кніг аб данай прамысловасьці.

в) Агульная этнографія: 2-3 кнігі, з якіх 1 аб народах краю, 1 аб народах СССР і 1 аб іншых народах.

Зразумела, што паказаная схэма не зьяўляецца канчатковай і выхадзіць за яе межы ня толькі пажадана, але і неабходна, калі ёсьць сродкі, на схэму гэтую неабходна глядзець як на шкілет, з якога пачынаецца будоўля гуртковай бібліотэкі краязнаўства.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**Я. Ляўчук.**

## Фабрычна-прамысловыя прадпрыемствы места Менску.

*(Нататкі да маршрутаў).*

Шырокія масы гарадзкіх і вясковых вучняў, гарадзкія і вясковыя асьветнікі, члены профэсыянальнага саюзу савецка-гандлёвых служачых і інш. імкнуцца да азнаямленьня з фабрычна-заводзкай прамысловасьцю свайго краю шляхам экскурсій. Такі спосаб непасрэднага азнаямленьня з прадпрыемствам самы лепшы; бясспрэчна, перад экскурсіяй павінна быць выканана падрыхтоўчая, а пасьля яе—заключчная праца. Яна можа выяўляцца ў самастойнай прапрацоўцы адпаведнай літаратуры, слуханьні дакладу або лекцыі і інш. Вельмі карысна будзе, калі экскурсія для азнаямленьня з фабрычна-заводзкай прамысловасьцю будзе адбывацца пасьля экскурсіі для агульнага азнаямленьня з Менскам, яго гісторыяй, ростам і г. д. Такая экскурсія-лекцыя можа адбыцца на вежы Чырвонага касьцёлу або на Замкавай горцы, ці іншым высокім месцы, адкуль відаць горад. Пасьля экскурсіі для азнаямленьня з фабрычна-заводзкай прамысловасьцю неабходна наладзіць экскурсію для азнаямленьня з культурай сталіцы. Толькі такі цыкл трох экскурсій дасьць больш-менш сталае ўяўленьне аб Менску.

Сама экскурсія азнаямленьня з фабрычна-заводзкай прамысловасьцю тэхнічна даволі лёгкая, бо фабрычна-заводзкія прадпрыемствы Менску згрупаваны ў трох месцах: Ляхаўскім раёне, Няміга-Ракаўскіх вуліц і Старажоўска-Міхайлаўскіх (Мопра) вуліц. Толькі два прадпрыемствы знаходзяцца на водшыбе ад гэтых груп: гута „Пролетар"—на Грыгор'еўскай вул. і дрэваапрацовачны завод на Барысаўскім тракце.

Зразумела, што для дасягненьня мэты экскурсіі зусім няма неабходнасьці аглядаць усе чыста прадпрыемствы гораду. У першую чаргу для экономіі часу трэба браць ня ўсе прадпрыемствы данага віду, напр. усе дражджавыя заводы. Таксама можна выключыць з маршруту экскурсіі некаторыя другарадныя прадпрыемствы. Кожны кіраўнік экскурсіі павінен выпрацаваць дакладны маршрут уласна яго экскурсіі. Каб даць магчымасьць абраць больш зручны вывадны пункт кожнай экскурсіі і пабудаваць конкрэтны маршрут яе, мы даем короткія да-

ведкі аб прадпрыемствах не ў парадку строгага маршруту, а па групах.

**I. Група Ляхаўскага раёну налічвае 9 вартых увагі экскурсанта прадпрыемстваў.**

*а) Лямцавая фабрыка менскага акруговага аб'яднаньня працолектываў.*

*(Вул. Лекерта, № 9, тэл. 714).*

Фабрыка існуе з ліпня 1924 году. Організавала яе арцель беспрацоўных з 5-ці чалавек на сродкі праўленьня працколектывамі пры Наркампрацы, у веданьні якога яна знаходзіцца і ў сучасны момант. Зараз на фабрыцы працуе каля 80 чалавек; ёсьць фабком; клюбу няма, але ёсць Ленінскі куток; выдаецца насьценгазэта; існуе некалькі гурткоў самаадукацыі. Сярэдні заработак работніка складае 45-50 руб.

Сыравіну фабрыка мае пераважна з Беларусі, але часамі атрымлівае яе з-за межаў. Фабрыка мае аддзяленьні:

а) воўнабітнае, дзе чэшацца воўна лепшай якасьці, з якой робіцца рымарскі лямец; б) воўначоснае, дзе стаіць воўк і чэша воўну; в) насьцілачнае, дзе насьцілаецца пласт воўны і нагамі качаецца датуль пакуль не зваляецца; г) сьцірачнае—дзе гатовы лямец аблiваюць вадою з жытняю мукою, каб замацаваць яго; д) прасовачнае, дзе лямец прасуецца пад вінтом і ўпакоўваецца.

На фабрыцы вырабляецца рымарскі лямец, лёгка-будаўнічы і цяжка-будаўнічы. Фабрыка абслугоўвае Беларусь, і шмат вырабаў прадаецца ў Маскву і інш. гарады СССР.

*б) Цукерачная фабрыка „Прогрэс".*

*(Вул. Лекерта, № 22/1, тэл. 720).*

Фабрыка пабудавана ў дзесятых гадох XX ст. на сродкі гандляра Жоржа. Жорж з вялікімі перабоямі ў працы быў гаспадаром да дзён Кастрычнікавай рэволюцыі, калі фабрыка перайшла ў карыстаньне дзяржавы. У 1918 годзе фабрыку пусьціў Менскі Цэрабкоп, а ў 1923 г. узяў у сваё веданьне працколектыў. Фабрыка мае аддзяленьні:

1) варыльня—дзе варыцца цукар, патака, какао, варэньне і інш. сыравіна; 2) карамельнае—дзе вырабляецца гушча на цукеркі, тут-жа гушча праходзіць праз прэс, з якога атрымліваюцца па форме прэса цукеркі-ландрынкі; 3) сушыльня—дзе сушацца мяккага гатунку цукеркі, як напр. шакаладныя і інш.; 4) упаковачнае—дзе гатовыя цукеркі закручваюцца ў паперку—этыкет; 5) кладавая—дзе складаецца гатовы выраб. Дзеля вырабу цукерак, якіх тут на фабрыцы „Прогрэс" вырабляецца да 30 пудоў штодзённа, патрэбна такая сыравіна: цукар, патака, эсэнцыя, няшкодная фарба, лімонная соль, розныя варэньні, пюрэ, абрыкос, какао, масла, какаолін, какавела і інш.

Сваімі вырабамі фабрыка абслугоўвае выключна Беларусь, вырабы не залежваюцца; сыравіну фабрыка атрыўмоўвае з СССР.

Клюбу пры фабрыцы няма, рабочыя вядуць сумесную працу з рабочымі дражджавога заводу „Чырвоны Золак"; выдаецца насьценгазэта „Красный конфетчик".

*в) Першы дзяржаўны дражджова-патачны завод „Чырвоны Золак".*

*(2-я вул., Лекерта тэл. 583).*

Завод пабудаваны на прыватныя сродкі ў 1881 годзе братамі Ракаўшчык, якія былі гаспадарамі да Кастрычнікавай рэволюцыі, калі завод перайшоў у карыстаньне дзяржавы.

У часы окупацыі нямецкай і польскай гаспадарамі заводу былі Ракаўшчыкі, і нарэшце канчаткова завод перайшоў у карыстаньне дзяржавы ў 1920 г. ў ліпні м-цы. Рабочых было каля 80 асоб, а зараз каля 170.

Пры заводзе ёсьць чырвоны куток; выдаюцца тры насьценгазэты: „Дражджавы прэс", „Сэпаратар" і „Піонэрскі колакал".

Сярэдні заробак рабочага 60 руб. Рабочыя і служачыя шэфствуюць над Новадворскім сельсаветам. Пры заводзе ёсьць сталоўка.

Завод складаецца з наступных аддзяленьняў: а) машыннае—дзе знаходзяцца два рухавікі; б) мачыльна-саладоўнае—дзе збожжа мочыцца і прарашчваецца; в) вальцовачнае — дзе вальцамі мелюць збожжа; г) заторнае—дзе варыцца збожжа; д) фільтрацыйнае—дзе ачышчаюцца дрожджы ад шалупіньня; е) квасільнае; ж) прасовачнае; з) упаковачнае.

Сыравіну завод атрымлівае з СССР, (пераважна Каўказ і Сібір).

### *г) Менскі сьпірытусава-гарэлачны завод.*

*(2-я вул. Лекерта, № 15, тэл. 465).*

Завод пабудаваны ў 1910 г. на дзяржаўныя сродкі акцызнага кіраўніцтва. Працаваў да імпэрыялістычнай вайны. У 1920 г. завод згарэў. Падпалілі яго белапалякі. Аднавіўся завод у 1922 г. як завод „Дзяржсьпірту" пры 10 работніках. Зараз працуе на заводзе 60 рабочых. Завод мае такія аддзяленьні: 1)сьпіртавы склад, дзе хаваецца сьпірт—дэнатур і чысты; 2) купатны, дзе робіцца хлебнае віно; 3) мытнік, дзе мыецца пасуда; 4) разьліўное, дзе гарэлка разьліваецца ў бутэлкі; 5) склад запасу гарэлкі; 6) прыёмачная, дзе прымаецца парожная пасуда; 7) майстэрня, дзе рамантуюцца машыны; 8) разьлівачная дэнатурату. Клюбу пры заводзе няма. Сярэдні заробак рабочага 48 р. Сыравіну завод атрымлівае з беларускіх двох заводаў—Клімкавіцкага і Гаршэчнікаўскага, а таксама з заводу „Варшавянка", а сваімі вырабамі абслугоўвае выключна Беларусь. Заводы Клімавіцкі і Гаршэчнікаўскі чысты сьпірт вывозяць за межы Беларусі. Вырабляе завод штодзённа 600 вёдзер гарэлкі.

### *д) Чыгунна-ліцейны і машына-будаўнічы завод „Энэргія".*

*(2-я вул. Лекерта № 36, тэл. 301).*

Завод пабудаваны ў 1912 г. гандлярамі Дорскім і Рохліным таксама пад назваю „Энергія". Працаваў завод да 1915 году, а з 1915 г. да 1921 году завод не працаваў. Завод складаецца з наступных цэхаў: 1) мэханічны, дзе вырабляюць розныя прылады і рамантуюць старыя машыны; 2) кавальскі,—дзе дарабляюцца часткі да сельска-гаспадарчых машын; 3) модэльна-ліцейны, дзе адліваюцца адпаведныя часткі машын; 4) машынны, 5) склад. Пры заводзе ёсьць сталоўка, куток, дзе выпускўецца насьценгазэта „Сверло". На заводзе 180 рабочых. Сыравіну завод атрымлівае з Беларусі і СССР, а вырабамі абслугоўвае выключна Беларусь.

### *е) Гарбарня „Бальшавік".*

*(2-я вул. Лекерта, тэл. № 653).*

Гарбарня аб'яднана з былых 4-х заводаў: першага імя Весялоўскага, другога імя Убарэвіча, трэцяга імя Багуцкага і чацьвертага фабрычна-заводзкай школы імя Сосіна. Зараз яна мае наступныя аддзяленьні: 1) зольнае, дзе скура 7 дзён мокне, 2) барабаннае, дзе скура дадубліваецца экстрактам, а для вырабкі падэшвы ёсьць аддзяленьне

залічковае, дзе скура дадубліваецца сернай кіслатой; 3) дубільнае, дзе скура дубіцца ў яловай і інш кары; 4) перасыпачнае, дзе скура перасыпаецца пілавіньнем; 5) фальцэрнае, дзе скура знаходзіцца 8 гадзін, тут зразаецца мяса са скуры; 6) патаровачнае, дзе выціскаецца вада, 7) сушыльня, дзе скура сушыцца на спэцыяльна зьбітых для гэтага дошках; 8) выцягвальнае, дзе скура выцягваецца і робіцца мяккай; 9) набівачнае, дзе скура выцягваецца на рамы і канчаткова ў такім выглядзе высыхае; 10) абрэзачнае, дзе скура абразаецца; 11) глянцовачнае, дзе скура атрымоўвае бляск, але не канчатковы; 12) лашчыльнае, дзе скура атрымоўвае канчатковы бляск.

Сыравіну завод атрымлівае з Беларусі, а таксама і з-за межаў яе. Сустракаюцца скуры бельгійскія, ангельскія і інш. Амаль пры кожным аддзяленьні ёсьць свой культгурток. Сярэдні заробак рабочага 75 р.

*ж) Сельска-гаспадарчыя майстэрні імя Бурбіса.*

*(Акольная вул. № 3, тэл. № 285).*

Майстэрня пабудавана ў 1907 годзе інжынэрам Акімоўскім, як кацельна-мэханічны завод. Працаваў ён да імпэрыялістычнай вайны. У 1921 годзе 2 жніўня па ініцыятыве Цэнтраземскладу ён рэорганізаваны ў сельска-гаспадарчыя майстэрні. Спачатку праца выражалася ў рамонце дробнага с.-г. інвэнтару. Рабочых і служачых налічвалася 135 чалавек.

У пачатку 1922 году была зроблена спроба вырабляць плугі тыпу Сухені, а ў 1923 годзе, апроч плугоў, майстэрні пачалі вырабляць асыпнікі, веялкі тыпу Аўля і сартыроўкі тыпу Трыумара. Зараз рабочых, служачых і тэхнічных працаўнікоў—116 чал. Майстэрні маюць наступныя цэхі: 1) мэханічны, 2) сьлясарны, 3) плугазборны, 4) кавальскі, 5) чыгунна-ліцейны, 6) модэльны і 7) дрэваапрацовачны. Сыравіну завод-майстэрні атрымоўвае з Уралу. Абслугоўвае завод выключна Беларусь. Выдаецца насьценгазэта „Вперед“.

*з) Хэмічна-фармацэўтычны завод.*

*(Унівэрсытэцкая вул., № 41, тэл. 701).*

Завод організаваны і абсталяваны замежнымі машынамі ў 1924 годзе на сродкі Белмэдгандлю. Пры організацыі заводу рабочых было 15 чал., зараз—40. Завод складаецца з гэткіх аддзяленьняў: 1) лябораторнае, дзе выпрабляюцца розныя мазі, экспіранты, настойкі, парашкі складаныя і простыя, пляйстары, масьлянковыя і сьпірытусовыя вадкасьці, розная парфумэрыя: одэколёны, зубная паста, парашок, борна-душысты вазэлін і інш.; 2) ампульнае, дзе вырабляюць ампулы; 3) фасовачнае, дзе фабрыкаты ўпакоўваюцца; 4) хэмічнае, дзе выпрабляецца зялёнае мэдыцынскае мыла, глаўбэравая соль, нафталін, крэолін і інш.; 5) аналітычнае, дзе правяраецца паступаючая сыравіна і гатовы выраб; 6) бінтарэзнае, дзе рэжацца з марлі і стэрэлізуецца бінт.

Пры заводзе ёсьць чырвоны куток; выдаецца насьценгазэта „Стэрлізатар“. Сярэдні заробак рабочага—60 руб. Сыравіну завод атрымлівае з СССР і з-за граніцы; вырабамі абслугоўвае Беларусь.

*Другі дзяржаўны дражджавы завод „Пролетар“.*

*(Стара-віленская вул., № 13, тэл. 230).*

Завод пабудаваны ў 1913 г. на сродкі мясцовага гандляра Гурэвіча; у 1920 г. канчаткова перайшоў ва ўласнасьць дзяржавы. Цяперака завод мае такія аддзяленьні: 1) машыннае, 2) мачыльна-саладзіль-

нае, 3) вальцовачнае, 4) заторнае, 5) фільтрацыйнае, 6) квасільнае, 7) сэпаратарнае, 8) прасовачнае, 9) упаковачнае, 10) кацельнае і інш. Клюбу пры заводзе няма; выдаюцца насьценгазэты: „Чырвоны дражджавік“ і „Юны піонэр“. Сярэдні заробак рабочага—56 руб. Сыравіну завод атрымлівае з усіх канцоў СССР. Сваімі вырабамі абслугоўвае выключна СССР.

*к) Вяровачная майстэрня.*

*(Сьвярдлоўская вул., № 67, тэл. 714).*

Майстэрня організавана ў 1922 г. працколектывам. Рабочых на прадпрыемстве—43. Майстэрня вырабляе: канаты, пасы, вяроўкі, пастромкі, шпагат і інш. вырабы. Сыравіна атрымоўваецца пераважна з Украіны.

**II. Раён Няміга-Ракаўскіх вуліц налічвае 4 прадпрыемствы:**

*а) Абутковая фабрыка.*

*(Нямізкая вул., № 36, тэл. 652).*

Фабрыка пабудавана 30 год таму назад Кантаровічам, як шпалерная. Ва ўласнасьць дзяржавы фабрыка перайшла ў 1920 годзе; у 1924 г. рэорганізавана ў абутковую фабрыку з лікам рабочых 150 чалавек. Фабрыка мае аддзяленьні: а) раскройнае, б) зацяжнае, в) пашывачнае, г) абцаснае, д) аддзелачнае. Пры фабрыцы ёсьць клюб; выдаецца насьценгазэта „Чырвоны абуўнік“. Сыравіну фабрыка атрымоўвае з БССР, а абслугоўвае сваімі вырабамі СССР.

*б) Шпалерная фабрыка імя Вароўскага.*

*(Зав. Вызваленьня, № 26, тэл. 335).*

Фабрыка абсталявана ў 1923 годзе на сродкі ВСНГ на месцы разбуранай прыватнай фабрыкі менскага гандляра Эпштэйна. Фабрыка мае такія аддзяленьні: 1) машыннае, 2) лябораторыя, дзе складаюцца фарбы для адціску ўзораў, 3) друкарскае, дзе адціскаюць узоры; 4) катальнае, дзе рэжуцца на кавалкі шпалеры; 5) лашчыльнае, дзе наводзіцца глянец; 6) рэжчычнае, дзе папраўляюць малюнкі—узоры; 7) упаковачнае. Рабочымі і служачымі выдаецца насьценгазэта пад назвай „Красный абоепечатник“. Сярэдні заробак рабочага—70 руб.

*в) Шавецкая майстэрня.*

*(Ракаўская вул., № 14, тэл. 202).*

Організавалася майстэрня ў 1920 годзе на сродкі Наркампрацы. Майстэрня мае такія цэхі: 1) загатовачны; 2) пашывачны, дзе прымацоўваюць падошву жалезнымі і драўлянымі цьвякамі; 3) апрацовачны, дзе абутак канчаткова апрацоўваецца, фарбуецца, выгладжваецца, настаўляюцца ранты, пістоны, пакрываецца глазурай; 4) упаковачны, дзе гатовы выраб упакоўваецца і адсылаецца згодна адрасу заказчыкам. Для збыту тавару ёсьць адна крама Цэрабкопу, якая прадае вырабы майстэрні. Майстэрня абслугоўвае выключна Менскае жыхарства, вырабляецца штодзённа 100 пар абутку. Сярэдні заробак рабочага 83 руб.

*г) Працколектыў „Тэкстыльшчык“*

**1) Ткацкае аддзяленьне** *(вул. Вызваленьня, № 1)*, **2) нітачнае і красільнае аддзяленьне,** *(Ракаўская вул., № 14)*; **3) панчошнае і трыкатажнае аддзяленьні** *(Кацярынінская вул., № 2)*. **Кантора**—*(вул. Вызваленьня, № 2, тэл. 636).*

Усе майстэрні організаваны ў 1924 годзе на сродкі Наркампрацы. Прадпрыемства мае аддзяленьні: 1) ткацкае, дзе саматужным

спасабам выробляецца шатланка, хусткі; 2) панчошна-трыкатажнае, 3) нітачнае, 4) фарбовачнае, дзе фарбуюцца ніткі, панчохі, 5) ляборатория. Пры кожным аддзяленьні ёсьць свае чырвоныя куткі; выдаюцца насьценгазэты. Сыравіну майстэрні атрымоўваюць з Ленінградзкага і Яраслаўскага трэстаў, а абслугоўвае Беларусь і СССР.

**III. Група Старажоўска-Міхайлаўскіх вуліц налічвае 2 прадпрыемствы:**

*а) Трэці дзяржаўны драждзжова-вінны завод „Варшавянка".*

*(Вул. Мопра, № 101, тэл. 193).*

Завод пабудаваны ў 1890 годзе на сродкі гандляра Гатаўскага. У 1920 годзе завод перайшоў ва ўласнасьць дзяржавы. Зараз на заводзе „Варшавянка" рабочых 136 чалавек. Ёсьць клюб; выдаецца насьценгазэта „Завадзкі гудок". Сярэдні заробак рабочага 56 руб. Завод мае наступныя аддзяленьні: а) машыннае, б) саладоўня, в) вальцовачнае, г) заторнае, д) фільтрацыйнае, е) квасільнае, ж) сэпаратарнае, з) прасовачнае, і) упаковачнае. Сыравіну прадпрыемства атрымлівае з Беларусі, Украіны і Паўночнага Каўказу, а сваімі вырабамі абслугоўвае СССР.

*б) Піваварня „Беларусь".*

*(Старажоўская вул., № 44, тэл. 616).*

Завод пабудаваны ў 1893 годзе на сродкі графа Чапскага пад назваю „Богемія". У 1895 годзе быў прададзены банкірскай канторай, у якой купіў Лекерт; ён быў гаспадаром да Кастрычнікавае рэволюцыі і ў часы окупацыі—нямецкай і польскай. Канчаткова завод перайшоў ва ўласнасьць дзяржавы ў 1920 годзе. Мае аддзяленьні: а) машыннае, б) саладоўня, в) сушыльня, г) драбільнае, д) заторнае, е) халадзільнае, ж) лягернае, з) фільтровачнае, і) разьлівачнае, к) мытнік, л) пуня, м) кузьня, сталярня бандарная, кантора. Ёсьць клюб; выдаецца насьценгазэта „Чырвоны Браварнік". Сярэдні заробак рабочага 57 р. 40 кап. Сыравіну завод атрымоўвае з усіх канцоў СССР, а сваімі вырабамі абслугоўвае пераважна Беларусь.

**IV.** Амаль на аднолькавай адлегласьці ад усіх паказаных груп знаходзіцца *шчотачная фабрыка,* Ленінская вул., № 12. Таму яе лёгка ўключыць у любы конкрэтны маршрут.

Фабрыка організавана на сродкі Наркампрацы ў 1923 годзе, калі налічвалася 10 чал. рабочых, у 1927 годзе рабочых—280 чал. Фабрыка мае аддзяленьні: 1) перапрацоўка воласу, дзе ён сартуецца, чысьціцца, вяжацца, 2) сьвідравальнае, дзе сьвідруюцца дзіркі ў дошках для шчотак, 3) сталярна-машыннае, дзе рэжуцца дошкі на адпаведныя кавалкі, 4) апрацовачнае, дзе шчотка атрымоўвае канчатковы выгляд, 5) выробленьне пэндзляў, выробленьне чамаданаў і скуранагалянтарэйных вырабаў, як, напрыклад, портманэтаў, портфэляў і інш. Шчоткі выробляюцца для мыцьця падлогі з травы, карэньняў, саломы; для вопраткі—з шчаціны і конскага воласу, шчоткі для рук, прымусаў, цыліндраў, бутэлек і розных тэхнічных запатрабаваньняў, напрыклад: пабел столі, дамоў і інш. Выдаецца насьценгазэта „Эхо труда". Сярэдні заробак рабочага 50 руб. Сыравіна надсылаецца з Беларусі і з СССР, а таксама і з-за граніцы.

**V.** У баку ад паказаных груп прадпрыемстваў знаходзіцца *дрэваапрацовачны завод,* Барысаўскі тракт, № 36, тэл. 536.

Завод пабудаваны ў 1906 годзе на сродкі гандляра Будніка. У 1920 годзе завод перайшоў ва ўласнасьць дзяржавы. Завод мае та-

кія цэхі: 1) лесапільны, дзе ў працягу 4 мінут расьпільваецца калода, 2) мэханічна-сталярны, дзе вырэзваюцца поўфабрыкаты, як ножкі да крэслаў, кушэтак, ложак, сталоў, дзе точацца розных формаў рэчы, 3) зборачна-сталярны, дзе складаюцца сталы, шафы, крэслы і інш., 4) апрацовачны, 5) лакірова-палітуровачны, 6) упаковачны, 7) сьлясарна-кавальскі. Сваімі вырабамі завод абслугоўвае Беларусь і Украіну, а сыравіну атрымоўвае выключна з Беларусі. Пры заводзе ёсьць Ленінскі куток. Выдаецца насьценгазэта „Красный деревообделочник“. Сярэдні заробак рабочага 75 руб.

**VI.** На другім канцы гораду ад дрэваапрацовачнага заводу знаходзіцца *гута „Пролетар“*, Грыгораўская вул., № 8, тэл. 431.

Гута пабудавана ў 1906 годзе; у 1920 годзе гута перайшла ва ўласнасьць дзяржавы. Процэс вытворчасьці складаецца з наступных этапаў: 1) складаньне матар'ялу (пясок, крэйда, суліфат, сода, бітая пасуда, вапна); 2) варка—матар'ял растапляецца пры тэмпэратуры 1800—2000 градусаў, 3) выдуваньне—з растопленай масы выдуваецца рознай формы пасуда, 4) загартоўка—у печы пры тэмпэратуры $+600^0$ пасуда загартоўваецца, 5) сартаваньне—адкіданьне браку, 6) упакоўка. Гута абслугоўвае пераважна Беларусь. Працуе на гуце 523 чал. Клюбу няма, ёсьць летні сад. Выдаюцца насьценгазэты „Чырвоны гутнік“ і „Піонэр“. Сярэдні заробак 66 р. 72 кап.

Вось з гэтых кароткіх даведак аб 18 менскіх прадпрыемствах кожны кіраўнік экскурсіі зможа атрымаць уяўленьне аб тым, якія прадпрыемствы ў першую чаргу павінны аглядзець экскурсанты і ў якім парадку павінен быць укладзены маршрут для кожнай данай экскурсіі. Зразумела, што перад паходам у прадпрыемствы трэба атрымаць дазвол ад дырэктароў іх на права адведаць прадпрыемствы.

---

**З. І. Даўгяла.**

# Места Сьвіслацкае ў 1560 г.

Па знадворным выгляду места Сьвіслацкае ў 1560 г. мела поўнае падабенства да лепшых беларускіх гарадоў таго часу. Паводле рэвізіі 1560 г. места Сьвіслацкае мела свой крэмль або замак, абгароджаны драўляным парканам, і, таксама, драўляную сьцяну або паркан каля места. Замак мы апісалі ўжо на старонках „Нашаю Краю“ (1927 г. № 6-7, стар. 60-64). Зараз спынімся выключна на месьце на падставе тэй-жа крыніцы, менавіта, „рэвізіі Сьвіслацката староства 1560 г.“

Астрог.

Пачнем з „астрогу“.

„Около того места острог, который робят мещане и волощане замку Сьвислоцкого и теж люди князские панские и земянские, по дельницам своим, яко хто здавна повинен“ (л. 6 адв.).

Праўда, гэта ня вельмі дакладнае адзначэньне. Знадворнага малюнку гэтага „астрогу“ няма. Ня вызначаны яго памеры. Не ўспамінаюцца нават вежы і брамы, якія, бязумоўна, тутака існавалі. Аднак, калі прыняць пад увагу, што места непасрэдна пачыналася за замкавым перакопам, што яно знаходзілася на поўнач ад гэтага замку, і што самы замак ляжаў у кутку паміж рэк Бярозы і Сьвіслачы,—будзе ясна, што „астрог“ абмяжоўваў места з трох бакоў—паўночнага, заходняга і ўсходняга.

Зусім верагодна, што паўночная сьцяна „астрогу“ была пабудавана ў найбольш вузкім месцы, паміж р.р. Бярозай і Сьвіслаччу,—згод-

на з плянам мясцовасьці прыблізна каля $1/2$ кілёметру ад замкавага астрогу. Заходняя сьцяна была па лініі загібу р. Сьвіслачы і ўсходняя ішла паралельна р. Бярозе.

Драўляныя „астрогі“ звычайна рабіліся ў XVI стал. з дубовых круглякоў каля замку і з сасновых наўкола места. Вышыня астрогу над зямлёй была каля 3 саж., таўшчыня каля 6-8 вяршкоў. Адсюль мажліва ўявіць сабе, па аналёгіі, знадворны выгляд і Сьвіслацкае меставае сьцяны—„астрогу“.

**Вуліцы.** Значна дакладней у нашай крыніцы вызначаны вуліцы места Сьвіслацкага ў 1560 г. Вельмі мала было іх у той час. Усяго дзьве. Менская вуліца цягнулася ад замку проста на поўнач. На гэтай вуліцы паказана жыхароў у межах „астрога“ 19 сядзіб з правага (ад замку) боку, прычым на 9-м месцы зазначана замковая карчма з стадолай. На procілежным, левым, баку Менскае вуліцы зьмяшчалася 16 сядзіб і паміж іншымі Мікольская царква[1]). Агулам налічвалася пад сядзібамі (як з аднаго, таксама і з другога боку) $32^1/_2$ пруты „аселых“ і $37^1/_2$ прутоў над гародамі, разам-жа 70 прутоў[2]) (або каля 160 саж.). Затым, тая-ж Менская вуліца цягнулася і далей за „астрогам“, па Менскім шляху. Тутака з аднаго боку было чатыры сядзібы, а з другога—тры. Гэтая мясцовасьць —„па-за астрогам“ называлася „прадмесьцем“.

Другая вуліца мела назву Бабруйскай, на ёй было сядзіб:—з правага боку, ідучы з замку—15, прычым на пятым вучастку жыў Сьвіслацкі войт Сьцяпан Сечка, і з левага боку—21 сядзіба. Правы бок („перея“) пры памеры даў 60 прутоў; левы—72 пруты. Значыць, і гэта вуліца была нязначна даўжэй за Менскую. Які яна мела напрамак—крыніца наша не дае адказу. Але зазначае, што да Бабруйскае вуліцы прылягала частка месца над р. Сьвіслаччу, якая называлася „Подольле“. На Падольлі знаходзіліся мяшчанскія гароды. Яны былі надта нізкія, чаму іх „частокрот на весне, а часом и лете вода забирала“.

**Насельніцтва.** Па колькасьці насельніцтва места Сьвіслацкае было невялічкім. У межах паркану меставога налічвалася 78 двароў. Гаспадары іх, якія былі ў 1560 г., пералічваюцца ў нашай крыніцы па імёнах, напр.—Мікіта, Мітка, Маня, пушкар немец Якуб, поп Рыгор, поп Аляксандра і г. д., або з дадаткам па бацьку—Акуліч Іван, Аліферовіч Васька, Аніскавіч Іван, Данілавіч Васіл і г. д. Але значная колькасьць мяшчан запісана паводле іх прозьвішчаў, так напрыклад: *Блізьня* Аўдзей, *Бузынскі* Матыс, *Дзярэка* Аўдзей, *Зылевіч* Юшка, *Капуста* Захар, *Каранковічы*—Апанас, Грышка, Іван, Семко, *Касіловіч* Максім, *Качалка* Ходар, *Клабуховічы*—Іван, Сямён, Федзька, *Кальсьнік* Мішка, *Кароль* Хведка, *Кароста* Мацей, *Кострычы*—Астапка і Мацей, *Кравец* Петра, *Кушнеры*—Іван і Пашка, *Локаць* Грышка, *Некрашэвіч* Піліп, *Паповіч* Іван, *Праскуровіч* Федка, *Сандзюшковіч* Фёдар, *Сапрыка* Лук'ян, *Сечка* Сьцяпан, *Цівун* Тарас, *Хрукавіч* Астапка, *Чабатар* Каспар.

Гэты пералік жыхароў па прозьвішчах дае некаторую падставу, каб лічыць Сьвіслацкае несельніцтва, амаль выключна, беларускім, бо немец Якуб і хіба яшчэ Рандзюшковіч Фёдар (верагодна—татарын) складаюць усяго каля $2^0/_0$—не беларусоў.

Далей, на падставе гэтых прозьвішчаў можна лічыць, што ў

---

[1]) Апрача Мікольскай царквы ў месьце, у Сьвіслацкім замку была другая царква Прачысьценская, якая знаходзілася ў замку (аб ёй гл. „Наш Край“ 1927 г., № 6, стар. 63).

[2]) 1 прут лінейны=2 саж. 2 футы.

1560 г. ў Сьвіслачы былі рамесьнікі капэлюшнікі (3)—Клабуковіч, Калесьнік, Кравец, Кушнеры (2), Чабатар (1).

Соцыяльнае адзначэньне насельніцтва рэвізія 1560 дае сьціслае, называючы ўсіх жыхароў „мяшчанамі“, за выключэньнем двох папоў, „проскуры“ і пушкара—немца.

**Характар места.** У 1560 г. Сьвіслач адзначаецца, як „местечко малое и убогое и торгов никаторых нет“ (л. 8 адв.). „Прутов седзибных рынковых нет, иж рынку и торгу нет“ (л. 8).

Гэтыя заўвагі яскрава выяўляюць экономічны стан места Сьвіслацкага ў вызначаны час. І запраўды, ні ў замку, ані ў месьце рэвізія 1560 г. не падае аніводнае крамы, або яткі, або нават клеткі. Відаць, што гандлёвы элемэнт яшчэ не пасьпеў тут утварыцца да 1560 г. Гэта было беднае, маленькае мястэчка. Але яно мела ўзмацненьні, астрогі (парканы), якія рабілі яго паважным пунктам у вайсковых адносінах.

Адзіная карчма на Менскай вул. прываблівала сваім звычайным таварам. Яна шынкавала мёд, піва і гарэлку. Трымаў карчму ў арэндзе намесьнік Бабруйскі, пан Васіль Кароткі. Карчма давала гаспадарскаму скарбу 70 коп грошаў. Аднак, рэвізоры ў 1560 г. адносна яе зрабілі наступную заўвагу: „тая карчма на болшую арэнду вытягнена быти не могла, иж местечко малое и убогое, и торгов никоторых нет“. (л 8 адв.).

Чым-жа жыло гэта места?—Адказ нескладаны:—земляробствам...

Усе жыхары, апрача гародаў, мелі пэўныя кавалкі ральлі за межамі места і некаторыя сельска-гаспадарчыя „удобіі“, як сьцісла і дакладна паказана ў рэвізіі 1560 г.

1) Кавалкі ральлі называюцца „меры“ або „цыншовыя“ ці „ворожыя“, „меры“. Сьвіслацкім жыхарам належала „кгрунту подлого цыншовых мер—27, а вольныя—3“ (л 7 адв.). У кожнай меры лічылася на 30 бочак землі пашное (л. 7). Пры гэтым мелі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11% | па поўнай | меры | (1 гаспадар) | — 3 выпадкі. |
| 26% | „ $^1/_2$ | „ | (2 гаспадары) | — 8 выпадкаў. |
| 50% | „ $^1/_3$ | „ | (3 гаспадары) | —15 выпадкаў. |
| 13% | „ $^1/_4$ | „ | (4 гаспадары) | — 4 выпадкі. |

Разам налічваецца 80 гаспадароў, якія карысталіся гэтай кепскай зямлёй.

2) Апрача гэтага, з Менскага прыезду тыя-ж сьвіслацкія жыхары (але ня ўсе) мелі „навозов и кгрунту доброго—„моркговыя меры“, в кождой меры по бочце севбы—18 мер“, менавіта:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 11% | па поўнай | меры | (1 гаспадар) | —2 выпадкі. |
| 50% | „ $^1/_3$ | „ | (3 гаспадары) | —9 выпадкаў. |
| 28% | „ $^1/_4$ | „ | (4 гаспадары) | —5 выпадкаў. |
| 11% | „ $^1/_6$ | „ | (6 гаспадароў) | —2 выпадкі. |

Разам гэтыя кавалкі добрага грунту мелі 61 мешчанін.

3) Далей, жыхары карысталіся сенажацямі ў колькасьці двох „моргованых мер“ на кожную „меру“ подлага грунту, што разам складала 60 „моргованых мер“.

4) Шасьцёра Сьвіслацкіх мяшчан узялі тры „засьценкі“ (калесьнічы, закалесьнічы і Варазскае поле) з „праробкамі“, памерай па 40 маргоў „грунту подлага“ і сенажаць (под-угляды) па 12 вазоў.

5) Рэвізія 1560 г. ў канцы зазначае, што ўсёй грамадой сьвіслацкія мяшчане атрымалі „старыні“ за мастом праз р. Сьвіслач, за балотам Заецкім і за ракой Бочай. „Старыні“ былі пад лесам. Іх трэба

было „праробіці“. Дадатак зроблены рэвізорамі „для подласьці трэцьцяга поля валок месцкіх“. Але пры наступным абмежаваньні: на кожную валоку дазвалялася прарабіць „старыні“ ня больш, як на дзьве бочкі.

Адгэтуль відаць, што ў 1560 г. насельніцтва места, сьвіслацкія мяшчане, былі пераведзены на „валочную памеру“, згодна ўставы 1557 г. Вось дзякуючы чаму жыхары атрымалі ральлю, ужо разьмяжованую на валокі і маргі, пасаджаны на трохполку, і пазбаўлены „старыні“. Гэта адзначэньне тым больш цікава, што ў гэты самы час вёскі Сьвіслацкай воласьці засталіся на старых „службах“ [1]), на якіх жылі да рэформы 1557 г.

**Павіннасьці і пазычкі.**

Паколькі дае права рэвізія 1560 г., дзяржаўныя павіннасьці жыхароў м. Сьвіслацкага вычэрпваліся іх абавязкам разам з воласьцю рабіць астрогі каля замку і места „на старыне“.

Што-ж датычыць падаткаў, то мы іх вызначаем у наступнай табліцы.

| №№ | Падаткі | За адзінку | | Агулам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Грошы | Пенязі | Копы | Грошы | Пенязі |
| 1 | З 154 прутоў вулічных . . | — | 5 | 1 | 17 | — |
| | З локця . . . . . | — | $\frac{2}{3}$ | | | |
| 2 | З 229 прутоў гародаў . . | — | $2\frac{1}{2}$ | — | 57 | $4\frac{2}{3}$ |
| | З $6\frac{1}{2}$ локцей . . . . | — | $\frac{1}{3}$ | | | |
| 3 | З 27 мер цыншовых ральлі . | 42 | — | 18 | 54 | — |
| 4 | З 54 мер марговых сенажаці . | 1 | — | — | 54 | — |
| 5 | З 18 мер марговых навозных . | 3 | — | — | 54 | — |
| 6 | З засьценкаў марговых 40 . | — | $18\frac{2}{3}$ | 1 | 19 | $4\frac{2}{3}$ |
| 7 | За сенажаці на 12 вазоў пры засьценках . . . | — | 4 | | | |
| | Разам . . | — | — | 24 | 15 | $9\frac{1}{3}$ |

З прыведзенае табліцы відаць, што з сьвіслацкіх мяшчан спаганялася 24 капы 15 грошаў і $9\frac{1}{3}$ пенязі [2]), або разам 1456 грошаў.

Калі прыняць пад увагу, што гэтая сума спаганялася ў гаспадарскі скарб з 75 мяшчанскіх сядзіб двароў, то на кожную сядзібу-двор атрымаецца ў сярэднім (1456 : 75=) 19,4 грошаў.

Таварная вартасьць гэтага падатку, паводле тагочасных цэн [3]), будзе наступная : $=\frac{1}{2}$ бочкі (або 10 пуд.) жыта або бочка (20 пуд.) аўсу, або 19 вазоў дроў, або 19 вазоў саломы, або $6\frac{1}{2}$ вазоў сена.

---

[1]) Гл. „Наш Край“ 1927 г. № 12, стар. 28-29, 32-33.

[2]) Капа=60 грошаў, 1 грош=10 пенязяў.

[3]) Гл. „Наш Край“ 1927 г. № 12, стар. 22, наш артыкул „Сьвіслацкая воласьць“.

І ўсё-ж такі падатак трэба лічыць невялікім. Мы бачылі, што, згодна тэй-жа рэвізіі 1560 г., сяляне Сьвіслацкай воласьці несьлі падатак у суме 89 грошаў з двара (45,306 грош. : 510 двор.)*). Такім чынам, з кожнае меставае сядзібы (двару) спаганялася па 70 грошаў меней, чымся з двара вясковага, або ў кратных адносінах у чатыры разы менш за апошняе.

Мы лічым неабходным падкрэсьліць гэты рэальны памер падатку, які спаганяўся скарбам у 1560 годзе з места і вёскі. Але падстаў гэтага факту высьветліць покуль што ня можам, хаця і лічым яго вельмі цікавым з экономічнага боку.

**Адміністрацыя.** Цяпер спынімся на організацыі меставае адміністрацыі ў Сьвіслачы ў 1560 г. Для адказу мы маем ў нашай крыніцы толькі паасобныя рыскі.

Першая рыска—гэта паказаньне на асобу „войта места Сьвіслацкага“, якім быў Сьцяпан Сечка (л. 4 адв. параўн. л 7 адв.). Як мы заўважылі вышэй,—ён меў сядзібу на Бабруйскай вуліцы. Паколькі сядзіба войта нічым не адрозьнівалася ад суседніх, трэба думаць, што гэта быў звычайны, сярэдні па маёмасьці мешчанін. Ён нават не карыстаўся ільготай па падатковым абкладаньні.

Апрача войта, сустракаем ў нашай крыніцы абзначэньне „Тівуна Тараса“ (л. 4). Таксама і цівун—звычайны Сьвіслацкі мешчанін, які меў аднолькавы з суседзямі кавалак зямлі і нёс аднолькавы падатак.

Аб правох і абавязках войта і цівуна ніякае заўвагі рэвізія не дае.

Вышэйшая ўлада над местам, як і над воласьцю, знаходзілася ў руках намесьніка Сьвіслацкага дзяржаўцы.

Затым, вышэйшая ўлада ў замку належала да гараднічага.

Аднак і адносна гэтых урадавых асоб у Сьвіслачы маем у нашай крыніцы толькі наступныя заўвагі:

„Мыта головного водяного и земленого нет. Одно хто водою идет, тогды от судна обшие (відаць—мытныя спагнаньні) наместнику Свислоцкому по полгрошу дают. А хто землею идет по тому-ж от воза дают“ (л. 8).

**Заключэньне.** 1560-ы год у гісторыі м. Сьвіслачы і Сьвіслацкай воласьці зьяўляюцца надзвычайна цікавым у гісторыі гэтае краіны. Відаць, у гэты час места было вылучана ўрадам з воласьці і пачало сваё самастойнае жыцьцё. Пад уплывам новай экономічнай політыкі Літоўска-Беларускай дзяржавы пачаўся новы пэрыод іх гісторыі. Стары адвечны парадак аджыў. Жыцьцё пашло па новым шляху.

---

**Л. Ганжоўскі і Н. Канавальчык.**

# Аб прыладах для лову рыбы ў ваколіцах Рагачэву.

На працягу прыблізна двухсот вёрст ад Рагачэва па Дняпры, уверх і ўніз па цячэньні, рэзкай розьніцы ў пародах рыб не назіраецца. У Дняпры паказанага раёну, а таксама прылягаючых да яго залівах (омутах) і вазёрах, ёсьць пароды: буйналускавыя, дробналускавыя і бязлускавыя, гэта падзел на породы—мясцовы, прычым гэтыя пароды дзеляцца на драпежнікаў і недрапежнікаў:

---

*) Там-жа, стар. 26, табл. 8.

Шчупак (Esox lucius), акунь (Perca fluviatilis), сом (Silurus glauis), судак (Lucioperca sandra), галавень (Sgualius cephalus), бялізна́ (Aspius rapax), плотка (Leuciscus rutilis), язь (Idus melanotus), краснапёрка (Scardinius crythrophtalinus), падуст (Chondrostoma asus), ялец (Leucaspius relictus), гусьцёрка (Blicea bjorkna), мірона (Barbus fluviatilis), лешч (Abramis brama), лін (Tinca vulgaris), карась (Carassius vulgaris), мянтуз (Lota vulgaris), насыр (Acerina rossica), ерш (Acerina cernua), рыбец (Abramis vimba), сінец (Abramis sapa), кліпец (Abramis sallerus), уюн (Misgurnus fossilis), пячкур (Gobia fluviatilis), падкаменшчык (Gottius gobio), уклейка (Alburnus lucidus), чэшка (Pelecus cultratus) верхаводка (Leucaspius delincatus), сіква (Petromyjzon fluviatilis).

Месцам збыту рыб, большай часткай, зьяўляецца мясцовы рынак. Пры вялікіх уловах рыбу накіроўваюць у гарады: Бабруйск і Менск. Гэтай справай займаюцца гандляры. Самі-ж рыбакі абмяжоўваюцца тутэйшым рынкам.

Цяжка сказаць, колькі рыбы ловіцца за сэзон і за адзін раз рознымі спосабамі лоўлі і колькі раней лавілася. Улоў рыбы залежыць ад становішча вады ў рацэ і вазёрах. Калі вады больш, то як-бы і рыбы больш. Наогул, з падыходам лета рыба вылаўліваецца рознымі спосабамі, апроч рыбакоў-профэсыяналаў яшчэ аматарамі.

Вудаю ў сярэднім за адзін раз можна злавіць каля 3-х кл., але-ж гэта ў сярэднім. Бываюць уловы значна большыя.

Сецьцю ў адну тоню можна загнаць і фунт і пуд. Невадам у сярэднім можна выцянуць 42-50 кл.

*Лоўля вудаю.* Вуда ўецца з конскага хваставога воласу. Тутэйшыя вуды (лёска) хістаюцца ад 1-30 валос. Лёска прывязваецца да вудзільны, а на канцы яе ёсьць кручок. Бліжэй да кручка надзяваецца паплавок. Зроблен ён з хваёвай кары, або гусінага пяра. З паплаўком ловяць больш дробную рыбу. Для лоўлі буйнай прывязваецца алавяны груз. На кручок надзяваюць: розную дробную рыбу, чэрві, мухі, хлеб, жукі і г. д.

*Лоўля дарожкай.* Дарожка прадстаўляе сабой доўгі шнурок каля 25 мэтраў. На адным з канцоў яго ёсьць груз і дарожка. Дарожка падобна да рыбкі і вельмі бліскучая. Другі канец дарожкі ў рыбака ў зубах. І вось калі рыбак едзе на чаўне, дарожка пачынае вярцецца і сваім блескам прываблівае рыбу. Яны пачынаюць яе хапаць і зацэпліваюцца на кручок.

*Шнур.* Шнур таксама, як і дарожка, зроблен з вяроўкі, толькі больш таўсьцейшай і даўжэй (павінен быць праз усю раку). Па ўсім шнуру прывязаны, прыблізна на адлегласьці адзін ад аднаго $1^1/_2$—2 мэтры, аднамэтровыя шнурочкі з кручкамі. На кручкі насаджваюць розную нажыву, гледзячы для якой рыбы; для драпежнікаў жывую прыманку, а для мянтуза нават кавалкі мяса ці няжывой рыбы. Да канцоў шнура прывязваюць каменьні і так апушчаюць на ўсю ноч на дно.

*Таптуха.* Робіцца таптуха з трох кіёў, якія прывязаны да абруча (гл. мал. № 3).

Паверх кіёў нацягваецца сетка. Ловяць ёй на неглыбокім месцы наступным чынам: апушчаюць яе на дно і трымаюць аднэй рукой, каб не падымалася кверху, потым нагамі пачынаюць таптаць і такім спосабам заганяюць у яе рыбу.

*Сак.* Сак падобен да падсачка, што ловяць матылькоў, толькі большых разьмераў (гл. мал. № 2). Ловяць ім выключна ў ночы і на добра зрывістых берагох.

*Крыга* (гл. мал. № 4). Зроблена крыга з двух сагнутых палазоў (кручовін), на якія нацягнута сецъ з вялікім адвісам унізу. На заднім канцы ёсьць доўгі шост (дзед). Ловяць так: за два крылы бярэцца па адным чалавеку і ззаду адзін, які націскае за шост кнізу. Цягнуць яе малую адлегласьць, а потым падымаюць і дастаюць рыбу з адвісаў (мяшкоў).




5—Нерат. 13—Ложка. 8.—Невад. 4—Крыга. 7—Брэдзень.

*Нерат і жак*. Робяцца яны з абручоў большых і меншых, паверх іх нацягваецца сецъ (гл. мал. № 5). У ўхадным канцы сецъ увальваецца ў сярэдзіну і робіць маленькую дзірачку, так што рыба, папаўшы туды, назад ня можа выйсьці. На нашым малюнку намалёваны нерат. Жак сьпераду мае крыльлі, як у брэдні. Па канцох іх, а таксама і ззаду, ёсьць па адным кіі, якія ўтыкаюцца ў зямлю і падтрымліва-

юць жак у вадзе ў пэўным стане. Жакі і нераты ставяцца толькі на ноч.

*Сеці*. Сеці бываюць плывучыя і донныя. Розьняцца яны тым, што плывучыя маюць большую колькасьць паплаўкоў, што дапамагае ім плысьці і захопліваць рыбу. Паплаўкі робяцца з бярозавай кары. Донныя-ж маюць большую колькасьць грузкоў і апускаюцца на дно. Калі




1—Восьці. 6—Сець. 3—Таптуха. 2—Сак. 12—Скрыпка. 10—Старожны. 9—Каробка. 11—Бот. 14—Восьці.

яна затоне, рыбак пачынае брохаць ботам у вадзе і так заганяе рыбу. Сеці маюць тры рады ачок. Першы і трэці рад маюць буйныя ачкі і завуцца „рэжай". Сярэднія дробненькія*). Гэтая частка сеці шмат шырэй за „рэжы". Рыба, прайшоўшы буйныя ачкі, затрымліваецца ў провезі і сядзіць там, як у завязаным мяшку. Сець (мал. № 6) і бот (мал. № 11).

*) Сярэдняя частка завецца „провезьзю".

*Невад*—тая самая сець толькі вялікіх разьмераў і мае адзін рад буйных ачок. Калі яе закінуць у ваду, то рыбакі пад'яжджаюць да берагу і пачынаюць цягнуць за вяроўкі з двух канцоў (мал. № 8).

*Восьці* (мал. № 1). Ловяць восьцямі тут толькі ў ночы. Каб можна было ўбачыць рыбу, на насу чаўна раскладваюць агонь. Паляць смалістыя карчы ці добра памочаную цэгліну ў газе. Апошняя ляпей, бо ўвесь час гарыць роўны агонь. Рыба, заўважыўшы сьвет, падплывае да чаўна, рыбак б'е яе васьцямі.

*Старожны* (мал. № 10). Зроблены яны з драўляных вілачак, на якія наматаны шнурок з кручком. На кручок адзяецца абавязкова жывая рыбка. Ловяць імі зімой. Уся гэтая прылада ўстаўляецца ў пельку (пробуб). Рыба драпежнік, убачыўшы жыўцо—пачынае яго хапаць, а слаба наматаны шнурок разматваецца, і рыба глытае жыўца разам з кручком. Старожны ставяцца на ноч.

*Скрыпка.* Зроблена скрыпка з лучыны (мал. № 12). У нашай мясцовасьці мала распаўсюджана. Застаўляецца яна ў гразі. Лезуць туды галоўным чынам уюны.

*Каробка.* Робіцца яна з ліпавай кары (лубу). У верхняй частцы—сетка, або такі самы луб з дзірачкай, якая апушчана кнізу (мал. № 9). Ставіцца ў гразі выключна на ўюноў.

*Брэдзень* (мал. № 7). Прадстаўляе сабой сетку, у якой на пярэдняй частцы ёсьць маленькія крыльлі, а на задняй—куль. Куль падобен да таптухі, толькі бяз кіёў. Цягнуць яго два чалавекі за крыльлі і пры беразе іх злучаюць у адно і падымаюць уверх, каб рыба не ўцякла з куля.

**У. Уладзіміраў.**

# Рыба ракі Бярозы, Барысаўскай акругі *).

Рака Бяроза, або Бярэзіна, добра вядомая кожнаму беларусу, пачынаецца ў сучаснай Польшчы каля Докшыц і ўпадае ў Дняпро. Вышэй ад возера Пялік Бяроза злучана канаваю з вадазборам Заходняе Дзьвіны і, такім чынам, зьяўляецца злучам паміж Чорнаморскім і Балтыцкім вадазборамі. Апошняе адбіваецца на відах тых рыб, якімі насялена гэтая рака: адны з рыбных прадстаўнікоў зьяўляюцца спэцыфічнымі відамі вадазбору Чорнага мора, другія—Балтыцкага. Акрамя таго Бяроза на працягу тэрыторыі Барысаўскае акругі мае цэлы шэраг затокаў, віроў, вазёраў і прытокаў, якія вызначаюцца глыбінёю, чым і вабяць да сябе рыбнае насельніцтва.

Галоўнымі відамі рыбы, з якімі прыходзіцца больш-менш зацікаўленаму аматару ў нас сустракацца, зьяўляюцца наступныя: лешч—Abramis Brama, язь—Idus melanotus, плотка—Squalius rutilus, уклейка—Alburnus lucidus, Alburnus birunctatus, Leucaspius delincatus (тры віды), карась—Carassius vulgaris, піскур—Gobio fluviatilis, ёрш—Acerina cernua, вокунь—Perca fluviatilis, судак—Lucioperca Jandra, біручок—Acerina rossica, шчупак—Esox lucius, падуст—Chondrostoma nasus, марона—Barbus fluviatilis, бялізна—Aspius rapax, мянтуз—Lota vulgaris, сом—Siluris glanis, уюн—Misgurnus fossilis, галец—Nemachilis barbatulus, карп—Cyprynus Carpio, шчыпаўка—Corbitis taenia, гарчак—Rhodeus amarus, краснапёрка—Scardinius erythrophtalmus, галавень—Squalius cephalus, ялец—Squalius leuciscus, верацяніца—Petromyzon Planeri.

*) Сьпіс рыб няпоўны. Рэдакцыя.

Частка з тых відаў, якія тут пералічаны, прадстаўлены малою колькасьцю і, бязумоўна, і ў шырокай рыбнай прамысловасьці ня маюць значэньня і ў аматарскай практыцы больш прыкметны прыродазнаўцу або краязнаўцу. Некаторая частка, як напрыклад: галец—Nemachilis barbatulus, шчыпаўка—Corbitis taenia, гальян—Phoxinus laevis, асобныя віды уклеек—Alburnus lucidus, Alburnus birunctatus, Leucaspius delincatus па сваім росту зусім невялічкія, і патрэбна зацікаўленасьць і асобая ўвага, каб іх прыкмеціць.

Рыба ракі Бярозы на Барысаўскай акрузе, за невялікім выключэньнем, належыць да атраду касьцістых. Значная частка прадстаўнікоў—драпежнікі: шчупак—Ecox lucius, судак—Lucioperca Jandra, ерш—Acerina cernua, вокунь—Perca fluviatilis, сом—Siluris glanis, марона—Barbus fluviatilis, падуст—Chondrostoma nasus, бялізна—Aspius rapax.

Галоўную масу рыбнага насельніцтва, якое мае прамысловае значэньне, складае: лешч—Abramis Brama, язь—Jdus melanotus, шчупак—Ecox lucius, судак—Lucioperca Jandra, сом—Siluris glanis, карась—Carassius vulgaris, лінь—Tinca vulgaris, плотка—Squalius rutilus, марона—Barbus fluviatilis, бялізна—Aspius rapax, падуст—Chondrostoma nasus, а радзей і карп—Cyprynus Carpio. Зімою ў сьнежань і студзень—мянтуз—Lota vulgaris.

Некаторыя віды рыбы дасягаюць значнае велічыні. Так: сом—Siluris glanis бывае ў 32-48 а то і 80 кілё, лешч—Abramis Brama 5, 6 кілё, язь—Idus melanotus 3-3$^1/_2$ кілё, шчупак—Ecox lucius 10-12 кілё плотка—Squalius rutilus $^1/_2$ кілё, бялізна—Aspius rapax 8 кілё, лін—Tinca vulgaris да 3 кілё.

Сэзонам масавага паяўленьня відаў рыбы служаць: для язя—Jdus melanotus раньняя вясна; мянтуза—Lota vulgaris—месяцы сьнежань, студзень; ляшча—у канцы лета.

Нераст нашае рыбы праходзіць прыблізна ў наступныя срокі: вокунь—Perca fluviatilis у канцы красавіка і пачатку траўня. Ерш — Acerina cernua з сакавіка да траўня ў залежнасьці ад тэмпэратуры вады. Судак—Lucioperca Jandra—у канцы траўня і пачатку чэрвеня. Карп—Cyprynus Carpio—у сярэдзіне траўня, але значна залежыць ад тэмпэратуры вады, якая павінна быць значна цёплай. Піскур—Gobio fluviatilis амаль што на працягу ўсяго лета па частках. Плотка—Squalius rutilus у пачатку траўня. Язь—Jdus melanotus з канца сакавіка і да сярэдзіны красавіка. Карась—Carassius wulgaris—з сярэдзіны траўня пры тэмпэратуры ня менш як +13°. Уклейка—Alburnus lucidus з канца траўня і амаль што да канца чэрвеня. Гарчак—Rhodeus amarus—красавік, травень. Краснапёрка — Scardinius erythrophthalmus—у канцы траўня і пачатку чэрвеня. Верхаводка—Leucaspius delincatus у красавіку або траўні. Бялізна — Aspius rapax у канцы сакавіка. Падуст—Chondrostoma nasus у першай палове траўня. Галавень—Squalius cefalus пачатак траўня. Лешч—Abramis Brama—пачатак траўня. Ялец—Squalius leuciscus—у сакавіку і красавіку. Шчупак—Ecox lucius у канцы сакавіка або ў красавіку. Уюн—Cobitis fassilis—прыблізна каля сакавіка. Галец — Nemachilis barbatulus—у красавіку або траўні. Шчыпаўка—Cobitis taenia—красавік-травень. Мянтуз—Lota vulgaris—сьнежань-студзень. Сом—Siluris glanis—канец красавіка і пачатак траўня. Руччавая мінога—Petromyzon Planeri—красавік-травень.

Я зусім далёкі ад думкі даць веды рыбалову ў яго рыбнай прамысловасьці, але ня лічу лішнім памянуць аб тых даступнейшых прыманках, на якія прыродазнаўца ў час экскурсіі з вучнямі на раку могбы практычна здавіць жывы матар'ял для назіраньняў. На дажджавіка Lumbricus terrestris ловіцца: вокунь—Perca fluviatilis, ерш—Acerina

cernua, біручок—Acerina rossica, мянтуз—Lota vulgaris, піскур—Gobio fluviatilis, карась—Carassius vulgaris, лін—Tinca vulgaris, краснапёрка—Scardinius erythsophtalmus, ялец—Squalius leuciscus, плотка—Leuciscus rutilus, уклейка—Alburnus lucidus, лешч—Abramis Brama, верхаводка—Leucaspius delincatus. На вараны гарох белы: плотка, асабліва язь, ялец. На вараную бульбу: плотка асабліва галавень—Squalius dobula. На чорны хлеб: плотка, краснапёрка, уклейка, верхаводка. На прасяную кашу: язь, лешч, плотка, краснапёрка. На жыўца (піскура, плотачку): судак—Lucioperca Jandra, сом—Silurus glanis, марона—Barbus fluviatilis, падуст—Chondrostoma nasus, бялізна—Aspius rapax, шчупак—Ecox lucius, сом—Silurus glanis добра бярэцца на маладога соміка.

У аматарскім лове існуе цэлы шэраг іншых прыманак, але гэта ня ёсьць мэта данага кароткага нарысу.

**Т. С. Мікалаеў.**

# Вясельле.

*(Запісана ў Касьцюковіцкім раёне Калінінскай акругі*).*

Вясковае вясельле ў Касьцюковіцкім раёне зьяўляецца важнай падзеяй ня толькі для ўдзельнікаў яго, але і для ўсяе вёскі: яно абстаўлена абрадамі, забабонамі, рознага роду рытуаламі, песьнямі і скокамі куды больш, чымся іншыя сьвяты і моманты чалавечага жыцьця. Невыкананьне дзедаўскіх звычаяў, па погляду прыхамотлівых людзей, лічыцца як-бы парушэньнем закону. Нават суседзі, якія прымаюць удзел у вясельлі, калі па беднасьці ці з якіх-небудзь іншых прычын вясельле не сьвяткуецца з адпаведнымі абставінамі, выказваюць часта сваё нездавальненьне: „Бяз стуку, бяз грюку павязьлі, як суку“.

Праўда, у апошні час, пад уплывам прасоўваньня новага быту, выкліканага рэволюцыяй, і ў цёмныя закуткі, гэтыя звычаі з кожным годам адміраюць, і паступова павялічваецца лік вясельляў па новаму—бяз шлюбу. Вясельле з поўным выкананьнем усіх звычаяў можна спаткаць яшчэ толькі ў больш глухіх вёсках раёну.

Усё вясельле, пачынаючы сватаньнем і канчаючы самым шлюбам, праводзіцца паводле ўсталеных данай мяцовасьцю звычаяў і традыцый.

Бацькі, якія зьбіраюцца жаніць свайго сына, звычайна робяць сямейную раду. Першым пачынае бацька, зварочваючыся да свае жонкі.

Б а ц ь к а. Ну, што, баба? уремя б ужо жаніць сына нам? Дакуль ён будзіць валачыцца? І ў дваре ні работнік і па начам валочыцца. А калі мы яго ажэнім, тады ён будзіць двара пілнаваць.

М а т к а. Я аб етым сама даўно думала, ды ўсё гляджу на вас?

Б а ц ь к а. Кылі так, дык каго-ж мы яму будзім сватыць, штоб было падхадзяча? Табе нявестка, а яму жонка была, ды нас ні лаіла, а паважала.

---

*) Вясковае вясельле ў Касьцюковіцкім раёне вывучалася мною ў 1926 годзе, у адным з самых глухіх куткоў раёну, галоўным чынам у в. Дубяйцы, куды яшчэ мала пранікнулі ўплывы новага быту, дзе ў той час ня было ні школы ні комсамольскіх арганізацый, дзе захаваліся яшчэ амаль непарушна ўсе звычаі і забабоны старасьветчыны. Вывучэньне я рабіў нэпасрэдна і шляхам запытаньняў у няпісьменных жанчын, якія добра ведаюць вясельныя абрады. У гэтай справе асабліва багата мне дапамагла гр-ка вёскі Дубянца М. Агурцова.

Пры вывучэньні я даслоўна запісваў ня толькі зьмест песень і іх мэлёдыі, але і тыя шаблёнавыя размовы, якія ўжываюцца пры сватаньні і на вясельлі, што можа паслужыць пэўнаю крыніцаю для вывучэньня асаблівасьцяй мовы Касьцюковіцкага раёну.

*Т. М.*

Пасьля гэтага бацькі пачынаюць пералічваць амаль што ўсіх знаёмых дзяўчат.

Бацька. У Барiса дзеўка падхадзячая.

Матка. А йдзі ты! няўжо-ж ты ня ведыіш, што яе матка ласкатуха?

Бацька. Ну дык Зьмітракову дзеўку?

Матка. Ну штой-та ты кажыш? тая йдзець—ні дайдзець, і гаворыць—ні дагаворыць; паходжа і на работу так.

Бацька. Ну дык у Ягора дзеўка, здаецца, нічога?

Матка. Ета-такі харошая, толькі яе матка троху пышная. Досыць табе! абы мы былі харашы, а людзі ўсі харашы. Сыбірайся ды йдзі папытай у сына, што ён скажыць пра Ягораву Параску?

Пасьля гэтага бацька ідзе па сына і прыводзіць яго ў хату.

Бацька. Ну што, мой сын! Цябе жаніць пара. Ці думаеш ты аб етым?

Сын (саромяючыся). Я во-усі жаніцца ня думаю. Вазьмі дый жанісь сам, кылі табе нада.

Бацька. Дык ты нікалі жаніцца ня думаеш? Ці баісься чаго, ці так што, дык ты мне скажы, Зьмітрок?

Матка. Што ты пытаіш? Ці ён табе скажыць? Зьбірайся ды йдзі!

Бацька. Дык што-ж „зьбірайся"? Нада схадзіць за яго хрёсным бацькам. (Праз некаторы час зьяўляецца і хросны бацька жаніха).

Бацькі. Садзісь, кум! (жаніх ставіць хроснаму касюдку пад ногі).

Хросны. Спасіба! Нічога (Садзіцца).

Бацька. Ну што, кум? Задумалі абурiць твайго хрёсьніка.

Хрос. Ну дык што-ж? Калі задумалі, дык ніхай бог пымагаіць Што нада, то треба.

Бацька. Ну дык во шта, кум! Мы родныя, а ты хрёсный. Парай, можа ты ведыіш падхадзячую нявесту? Мы тутыцькі з бабаю гаварылі, каб Ягораву дачку пасватаць.

Хрос. А дык што-ж? Дзеўка харошая. Ніхай бог даець. А як-жа на ета жаніх глядзіць?

Бацька. Дык ён-жа во ён! Ніхай скажыць. Мы пыталі, пыталі, дык ён ні тоя, ні сёя.

Хрос. Ну дык што-ж ты, мой белька, маўчыш?

Матка. Чаго вы вяжыцісь к яму? Ён несмысіль. Калі ён нам ні казаў, а прі хрёсным бацьку ён сароміцца, нічога ні скажыць.

Хрос. Ну калі так, палі, кум сьвечку!

У гэты час ужо чуткі разьнясьліся па сяле, што NN выбіраюцца ў сваты. Дзяўчаты зьбіраюцца пад вокнамі, ціха гаворапь паміж сабою: „Гляньці-ка, Дзевычкі! ужо молюцца богу"—„К каму яны йдуць?"— „К Ягоравый Парасьцы". Памаліўшыся богу, хросный бярэ сваю шапку, тушыць ёю сьвечку і гаворыць: „Штоб етым ветрам забіла галавы тым сватам, куды мы йдзём, штоб яны нам доўга галавы ні марочылі".

Бацька. Ну кум, садзісь за стол!

Хрос. А ніхай сабе: Я й тут с краю пасяджу. (Бацькі жаніха з вялікаю просьбаю, амаль што сіламоцьцю садзяць кума за стол).

Бацька бярэ пляшку з гарэлкаю і налівае першую чарку сабе. Чарку трымае леваю рукою, а праваю хрэсьціцца і кажа: „Дай-жа, божа, што мы задумалі і загадалі было ўсё благапалучна! Кылі-б наша пышня у пуць пышла!" Яшчэ раз хрэсьціцца і гаворыць: „Будзь, кум, здароў!" Выпівае. Другую чарку налівае куму. Той таксама бярэ чарку ў рукі і кажа: „Хазі-ка, кума, сюды пабліжый, дый будзь здарова! Няхай бог даець нам усё харошая!" Выпівае.




З дададзеных тав. Мікалаевым да апісаньня вясельля 51 мэлёдыя варта адзначыць толькі № № 1—6, на якія сьпяваюцца амаль усе вясельныя песьні. Калі ў якой з гэтых мэлёдый і робіцца нязначная зьмена ў паасобных выпадках, дык яна цалком залежыць ад большага памеру тэксту сьпяванай песьні, як гэта можна бачыць па другой штрофцы тэксту пад 1-ай мэлёдыяй.

(Вышэйшая заўвага а таксама і музычная корэкта зроблена навук. супрац. І. Б. К. *А. Грыневічам*).

Матка. На добрае здароўя, кумочык! (Бацька налівае чарку жонцы. Тая бярэць чарку, хрэсьціцца і кажа). Дай-жа, бажычка, нам усё харошае!" (Выпівае, здароваючыся да ўсіх).

Бацька (ставіць пляшку на стол). Можа, кум, яшчэ вып'іш?"

Хрос. Не, спасіба, кум! Гарелка яшчэ ў перядзі. Выпіць яе многа—дабра мала. А вэн, калі тоя, дык хрэсьніку налі чарку.

Бацька (налівае чарку сыну). Ідзі мой сын, выпі: вісялей будзіш.

Жаніх. Я ні хачу.

Хрос. Несмысіль, выпі! Дакуль ты будзіш сароміцца? (Ледзь нясілком прымушаюць яго выпіць).

Бацька (да кума). А можа, кум, вып'іш чарку?

Хрос. Ды не, спасіба! Досыць. Дывайці-ка к дзелу скарей. Сабірайця хлеб-соль.

Бацька (да маткі). „Лянь, таж ты шчэ нічога ні прігатавала? А й ты ўжо забаўталась? Сказана то бабшчына. Ідзі скарей!"

Жонка пасьпешна ідзе ў клеці, прыносіць адтуль кашэль, сплецены з лыка, 2 кавалкі лепшага сала і кладзе ўсё гэта на стол, а потым бацька, адразае палавіну хлеба і кладзе яго ў кашэль, а таксама кладзе туды прынесенае сала і дзьве пляшкі гарэлкі; зачыняе кашэль і кажа да кума: „Ну, кум, на дарогу вып'ім!"—„А ўжо як хочыш", кажа кум: „выпіць, дык і выпіць". Выпіваюць і закусваюць. Пасьля гэтага апранаюцца і хрэсьцяцца. Бацька жаніха кажа да хроснага: „Ня сердзіся, кум! табе кашэль несьць, як свату". Выходзяць з хаты. Калі дзяўчына, якую задумалі сватаць, жыве ў чужым сяле, дык запрагаюць каня і едуць, а калі яна з свайго сяла, то ідуць пехатою.

Калі сватаюцца ў іншай вёсцы, то, прыехаўшы ў вёску, дзе жыве дзяўчына, сваты зразу не заходзяць у хату яе бацькі, а да аднаго з яго суседзяў. Тут яны пакідаюць адзін кавалак сала і адну пляшку гарэлкі, апошняе з кашалём забіраюць з сабою і йдуць ужо да хаты, дзе жыве бацька нявесты. Там звычайна ўжо сьпяць (у тых выпадках, калі бацькі дзяўчыны чакаюць сватоў, кладуцца спаць раней наўмысьля). Сваты, прышоўшы да хаты, ня ідуць проста ў хату, нават і ў тым выпадку, калі вароты, адчынены, а абавязкова пад вакно з вуліцы. Пастукаўшы ў вакно, кажуць: „Добрый вечыр!"—„Добрае здароўя",—адказваюць з хаты. „Ці ня пусьціця на̀ нач?"—гавораць сваты. —„Можна",—зноў адказваюць з хаты.

У хаце падымаецца маленькая суматоха. Матка дзяўчыны (нявесты) ўпаўголаса да свайго мужа кажа: „Падажджы, ні адчыняй! ета-ж сваты йдуць". Потым да дачкі: „Скарей, мая дачка, дай белую скацірсьсць стол зысляць". Матка засьцілае настольнікам стол, дачка (калі яна тут прысутнічае), падаўшы настольнік, барджэй на печ, а бацька йдзе адчыняць вароты. Сваты ўваходзяць у хату. Бацька нявесты запытвае іх: „Што-ж вы к нам ходзіця так позна?" Сваты адказваюць: „Мы спазьніліся ў дарозі. Вы ні сымлівайцесь: нам ваша ні вячэря... ні што ня треба. У нас усё ёсьць—і хлеб, і сала і гарелка. Кылі вы добрыя людзі, дык і вам па чарцы дадзім". У гэты час сваты вынімаюць з кашэля хлеб, сала і гарэлку і ставяць на стол. Сваты пачынаюць зноў: „Мы хацелі-б вашу нявесту пабачыць і пасватыць яе. Як бы вы нам пыказалі яе".

Пасьля некаторага перапынку сваты гавораць: „Дык што-ж, сват, аддасьцё за нашыга сына сваю дачку, ці не?"

Бацька нявесты, калі ён чакаў іх і жадае аддаць, адказвае: „Дык што-ж? ні зы намі: кылі, друг другу пыдыбаюцца, і мы к таму. Ніхай з богам жывуць! Ніхай бог пымыгаіць!"

Калі жаданьня няма, то адказвае так: „Ня ведую", і, зварачваючыся да жонкі, кажа: „Ну, баба, што будзім дзелаць?" Жонка гаворыць: „Ну ніхай сабе хлеб-соль пастаіць да вечыра, а тут пыраімся,

абрадзімся. Можа хто вам атраіць нашу нявесту, а можа нам вашыга жыніха хто атраіць". У апошнім выпадку сваты зараз-жа ідуць да дому да наступнага вечару. Часта бываюць выпадкі, калі бацькі і жадаюць выдаць сваю дачку, але згоды пакуль што не даюць, каб сваты вечары 2-3 пасваталі іх дачку.

Калі бацькі нявесты выкажуць згоду зразу, то бацька яе гаворыць так: „Ну што-ж, мая дачка, ляжыш на печы? Злазь! пыгаварі з жыніхом. Калі адзін другому падыбаіцісь, ніхай бог пымыгаіць, і мы к таму". Дачка адказвае, (калі згодна): „Што там гываріць з жыніхом, кылі аддасьцё, я й пайду". Бацька кажа: „Ну дык злазь, мая дачка! Мяці хату, ды й богу будзім маліцца. Ідзі, заві матку хрёсную, бацьку хрёснага, заві людзей... Нечыга людзям ночі караціць. Пагуляім дый на оддых".

У выпадку нязгоды нявесты, апошняя на запытаньні бацькі нічога не адказвае і на яго прапанову вымесьці хату злазіць з печы і пачынае мясьці хату, пачынаючы ад стала к дзьвярам дык гэтым самым яна выказвае сваю нязгоду. А калі згодна, то мяце наадварот.

Калі бацькі нявесты і сама нявеста выкажуць сваю згоду, зараз-жа пачынаюць гуляць „заручыны", на якi запрашаюцца хросныя бацькі нявесты, ее таварышкі і родзічы.

Хросных запрашае сама нявеста з жаніхом. Уавходзячы ў хату, нявеста кажа: „Мам! (альбо „тат"), сьбірайціся ка мне на заручыны". Дзяўчат і іншых родзічаў заклікае адна з таварышак нявесты. Падыходзіць яна да вакна хаты, стукае ў вакно і кажа: „Добрый вечыр! Прасіла вас Параска на заручыны, на чарку гарелкі!" Звычайна дзяўчаты і хлопцы зьбіраюцца ў хату суседа нявесты, а ў хаце яе бацькоў, акрамя сватоў, зьбіраюцца хросныя нявесты і суседзі. Іх саджаюць за стол, на які падаецца хлеб і накрышанае сала. Бацька нявесты бярэ пляшку гарэлкі, першую чарку налівае сабе і, зварачваючыся да бацькі жаніха, кажа: „Ну-ка, сваток, дай-жа бог, штоб нашы маладыя адзін другога любілі і нас старых пычыталі, пыважалі!" Бацька жаніха адказвае: „Ніхай-жа бог даець, і мы-б етаму былі рады!"— „Ну будзь здароў!"—„Пі на здароўя". Тут-жа пакуль што прысутнічаюць нявеста і жаніх. Нявесьце даецца першая чарка пасьля сватоў. Пасьля гэтага жаніх з нявестаю ідуць к суседу, а там ужо сабраліся дзяўчаты і хлопцы. Пры зьяўленьні іх дзяўчаты пяюць:

(Мэлёдыя № 1).

Сягодні нам заручынкі бог нам даў (2 р.).
Заручылі дзеўку проці панядзелку, бог нам даў (2 р.).
Пашлі дары на ўсі двары, бог нам даў (2 р.).
Резалі падаркі з тонкія кітайкі, бог нам даў (2 р.).

Гэтую песьню таксама сьпяваюць і бабы ў бацькі нявесты, седзячы за сталом: „Дайце-ж і мы пець, а то ня будуць знаць, куды дзеўку весьць". У суседа, дзе знаходзіцца моладзь, сьпяваюць такія песьні:

(Мэлёдыя № 2).

Вумная дзіцятка Параска,
Ні відаўшы сьвёкра ўвызнала,
Родным бацькам нызвала:
„Татычка-ж мой родніенькій!
Спраўляла дзежу меськую,
Асталась дураку сельськаму.

(Мэлёдыя № 2).

Куды ты, яблынка, ныхілілась?
Черяз тын, черяз тын на вуліцу.

Ну куды ты, Пыраска, ды задумыла
Ад бацькі, ад маткі ды к сьвёкарьку.
Сьвёкраў хлеб пірагом пахніць,
А сьвякровіна капуста сыціцаю.
Бацькаў хлеб пылыном пахніць.
А маткіна капуста гарчыцыю.

А ў хаце сватоў вядзецца такая гутарка.

Бацька жаніха (зварачваючыся да аднаго з гасьцей). „Сват! схадзі, брат, за дзеўкамі! Дакуль нам тут сядзець. На табе пляшку гарелкі, ідзі, вядзі ўжо іх“.

Той ідзе ў хату, дзе дзяўчаты, аддае нявесьце гарэлку (без закускі). Нявеста бярэ гарэлку і чаркаю абносіць сваіх таварышак і хлапцоў і раздае ўсю. У гэты час матка нявесты запальвае сьвечку, ставіць яе ў цэлы хлеб, кладзе на хлеб падарункі: сватам „шырінкі“ (хусткі хатн. вырабу), а жаніху паркалёвую хустку. Нявеста ў кампаніі дзяўчат ідзе ў хату да маткі. Дзяўчаты ў гэты час пяюць:

(Мэлёдыя № 2).

Ляцелі гусычкі, ні крычалі; (2 р.)
Толькі адна гусачка пракрычала, (2 р.)
Чуючы зімычку халодную, (2)
Чуючы марозы траскучыя. (2)
А йшлі дзевачкі—ня плакалі; (2)
Толькі адна Параска заплакала, (2)
Чуючы сьвякрову журлівую, (2)
Чуючы сьвёкурьку клыпатлівага (2)

Калі ўваходзіць нявеста ў хату маткі, дзяўчаты сьпяваюць:

(Мэлёдыя № 2).

Ступіла Пыраска ны парог,
Махнула рукавом ны падруг.
„Раступіціся, падружкі,
Чым мяне сьвёкырька даруіць?
Ці хлебым-сольлю ны пярёд,
Ці мілым другым на ўвесь век?“

Матка аддае ёй хлеб з падарункамі. Нявеста стаіць з хлебам непарушна, а той, хто хадзіў за дзяўчатамі, па чарзе падводзіць дзяўчат да сватоў і запытваецца ў іх: „Ці харош тывар?“ Сваты адказваюць: „Харош то, харош! ды ні наш. Пашукайце-ка там нашыга тывару! наш чысьцей ды ясьней“ (нявеста з сьвечкаю). Потым другую дзяўчыну падводзяць: „Ну, а ета ваш тывар? Я шукаў, шукаў ня мог луччага найціць“. Яму адказваюць: „Ета таксама харошый тывар, толькі ні наш. Як ня можна, пышукай нашыга тывару! Хадзі-ка ты, во выпій чарку гарэлкі ды пашукай хырашэнька нашыга тывару“. Той выпівае і гаворыць: „Цяпер я, луччы буду стырацца, штоб ваш найціць“. Потым зноў ідзе да дзяўчат і хлопцаў, раіцца з імі. Дзяўчаты абматваюць аднаму хлопцу галаву хусткаю і падводзяць яго да сватоў: „Ну чысьцей етага ўжо нільга сыскаць“. Сваты кажуць: „Ну во што, сваток, выпій-ка ты яшчэ чарку ды вядзі ўжо наш тывар“. Той выпівае і падводзіць ужо нявесту з хлебам: „Ну, а ета ваш тавар?“.

—„Во ета наш тавар!“ За гэта наліваюць яму яшчэ чарку.

Пасьля гэтага нявеста раздае падарункі, якія ляжаць на хлебе.

Першы падарунак падносіць будучаму сьвёкру. Сьвёкар перадае ёй чарку і налівае гарэлкі. „Ну, тат, будзьця здаровы!“ Каштуе гарэлку, але ня п‘е і перадае сьвёкру. Той таксама каштуе і аддае назад і гэтак тры разы. За трэцім разам нявеста вылівае гарэлку цераз сваю галаву. Гэта называецца „піріпіваць“. Потым дае сьвёкру пада-

рунак. Сьвёкар, прымаючы падарунак, у сваю чаргу кладзе ёй на хлеб грошы і падарункам абводзіць тры разы вакол свае галавы, прыгаварваючы: „Дай-жа, божа, каб у нашых маладых жыта ў трубы вілося"! Сьвёкар перадае бутэльку свату. Той зноў налівае нявесьце гарэлкі ў чарку. Яна таксама „піріпівае" і з ім вылівае гарэлку цераз галаву і перадае яму падарунак з тэй-жа цэрамоніяй. Нарэшце сват налівае гарэлкі жаніху. Той, зварачваючыся да нявесты, гаворыць: „Будзь здарова!" і „піріпівае" з ёю. Нявеста за трэцім разам вылівае гарэлку цераз правае плячо. Пасьля гэтага нявеста перадае падарунак жаніху, апошні прыняўшы падарунак з рук нявесты таксама абводзіць ім 3 разы вакол свае галавы і кладзе ёй на хлеб грошы.

Дзяўчаты ў гэты час сьпяваюць:

(Мэлёдыя № 2).

Пыраска Зьмітраку хустку дала,
Ныкрыхмаліўшы крыхмалым.
„Стой, мая хустычка, кілясом
Пад Зьмітраковым пыясом".

Пасьля гэтага дзяўчаты зьбіраюцца ісьці да дому. Сьвёкар нявесты, зварачваючыся да яе, гаворыць: „На табе бутылку гарелкі і крошку сала, пычастуй сваіх паднявесьніц". Нявеста тут просіць 2-3 дзяўчат, сваіх таварышак, быць у яе паднявесьніцамі і з жаніхом вядуць іх да суседа на „чэсьць" (пачастунак).

Сваты ў гэты час зварочваюцца да бацькоў нявесты і кажуць: „Ну, сват і свацьця, спраўляціся тут, а мы пойдзім за „дабрыднім!" Ідуць дамоў альбо ў той двор, дзе раней застанавіліся, па гарэлку і сала. А матка нявесты, застаўшыся ў хаце, смажыць яечню. Сваты вяртаюцца, прычым уваходзячы ў хату вітаюць гаспадароў незалежна ад часу сутак: „Добрый дзень!"

Свацьця (матка нявесты) ставіць на стол яечню і пачынаюць гуляць „дабрыдзень", на якім застаюцца толькі запрошаныя госьці. Тут, у гэты час, за сталом сваты вызначаюць дзень вясельля і гавораць аб пасагу: „Ну што-ж, сват, я за сваёю дачкою дам тое, што людзі даюць: карову, авечку, сьвіньню"... і г. д.

Згаварваюцца таксама з чыйго боку колькі будзе „прічэтнікаў" (удзельнікаў на вясельлі), каб ведаць, колькі каму рыхтаваць трэба гарэлкі і іншага.

„Я думыю, што с тэй рукі двары два і с тэй рукі двары два і будзіць: на што нам багата". Гэтым і заканчваюцца „заручыны".

Паміж заручынамі і вясельлем звычайна праходзіць тыдзень. Як у нявесты, таксама і ў жаніха ідзе падрыхтоўка да вясельля. Папершы за ўсё бацькі жаніха абіраюць для вядзеньня вясельля „дружка" (кіраўніка вясельнага сьвята), здольнага, які добра ведае ўсе вясельныя абрады; бо ад таго, які будзе „дружок", залежыць і парадак і ўрачыстасьць вясельля. Калі хросны, які хадзіў сватаць, уладае такімі здольнасьцямі, то запрашаюць яго. У адваротным выпадку абіраюць другога. Потым дагаварваюцца з папом, „скамарохамі" (музыкамі). Рыхтуецца гарэлка і розныя стравы.

У бацькоў нявесты таксама ідзе падрыхтоўка: нявеста і яе паднявесьніцы шыюць жаніху бялізну, „вянчальнае плацьця" нявесьце, вышываюць рушнікі, нарыхтоўваюць падарункі і г. д. Тут работа ідзе з песьнямі: паднявесьніцы і іншыя дзяўчаты сьпяваюць нявесьце і жаніху вясельныя песьні, як-бы робяць пробу да вясельля. Нават дзяўчынкі-падлеткі на вуліцы, або каля вёскі, пасучы цялят, сьпяваюць жаніху і нявесьце вясельныя песьні. Словам, вясельле ўносіць ў аднастайнае жыцьцё вёскі шмат ажыўленьня і ахоплівае ўсіх.

Матка жаніха на працягу гэтага тыдню 2-3 разы возіць, або носіць нявесьце „заўтрыкі“—ежу і гарэлку.

**Вясельле.**

У вечары, напярэдадні шлюбу, у доме жаніха зьбіраюцца запрошаныя госьці, асабліва тыя, якія павінны будуць паехаць („паежджані“) з жаніхом да нявесты, а потым к „вянцу“. Гасьцей саджаюць за стол, „часьцяць“ гарэлкаю і закускаю, а бабы сьпяваюць:

(Мэлёдыя № 7).

Блыгаславі, божа, блыгаславі, божа,
Прачыстыя маці, (2) вясельля гуляці.
Першым разым блыгаславіла, (2 разы)
Як я яго нарадзіла.
Другім разым благыславіла, (2 р.)
Як я яго узрасьціла.

Трэцьцім разым блыгаславіла, (2 р.)
Як я яго за столічык пысадзіла.

(Жаніх сядзіць за сталом).

Потым сьпяваюць другую песьню:

(Мэлёдыя № 3).

Гарнастай, Зьмітрачочык, гарнастай мыладзенькій!
Па застольліку ходзіць,
Свайго татычку просіць.
„Жані мяне, татычка,
Жані мяне, родніенькій!
Ні пазьні мяне ў домі,
Мыя цёшчухна горда,
Ды ня ўспусьціць мяне на двор
І с канём і с поіздым.
І с канём і с поіздым.
І с чырвоным поясым“.
—„Зьмітрачочык, мой сыночык!
Прыламі тынінычку,
Успусьці радзінычку,
Прыламі і другую.
А і ўзьедзь с канём на двор,
І с канём і с поіздым,
І с чарвоным поясым“.

Прыблізна аб адзінаццатай гадзіне, з такім разьлікам, каб быць у нявесты прыблізна ў поўнач, жаніх з дружком і „паязджанямі“ едуць на „сугляды нявесты“.

„Сугляды нявесты“. У нявесты таксама ў вечары, напаперадні шлюбу, гуляюць „сугляды“. Бацькі нявесты зьбіраюць сваіх родзічаў, асабліва хросных нявесты і тых, хто павінен прыняць удзел у вясельнай царамоніі („паезджані, вячэрнія“ і г. д.). Родзічы зьбіраюцца ў хаце бацькі, п‘юць гарэлку і закусваюць. А нявеста ў гэты час зьбірае сваіх таварышак і наогул моладзь у хату суседа, дзе дзяўчаты, асабліва паднявесьніцы, прыбіраюць нявесту да шлюбу і сьпяваюць песьні.

Бабы ў бацькі за сталом таксама сьпяваюць:

(Мэлёдыя № 4).

Пыраска мамычку вон высылала (2 р.)
„Выйдзі, мамычка, за вароцікі!
Пріляж, мамычка, к сырой зямлі!
Паслухай, мамычка, вярнёшынька,

Ці ні шуміць дуброва зялёныя,
Ці ня стогніць дарога шырокая;
Ці ня едуць быярі палкавыя,
Ці ні вязуць к нам князя мыладога?"
—„ Сыбірайся, дачушка, пыскарей!
Шуміць дуброва зялёныя,
Стогніць дарога шырокыя.
Едуць быярі пылкавыя,
Вязуць к нам князя мыладога".

А дзяўчаты ў суседа, прыбіраючы нявесту, сьпяваюць:

(Мэлёдыя № 2).

На морі вутычка купалыся, (2 р.)
Ны бярёзі вутычка сушылыся.
Пріляцеў сілязенька, паў кыла яе.
„Ці сусім, вутычка, пакупалыся?"
—„ Я ўжо цябе, сілязенька, прыждалыся"
У каморі Пыраска сыбіралыся,
Сыбраўшыся за стол села.
Пріехаў Зьмітрачок, сеў кыла яе.
„Ці сусім, Пыраска, сыбралыся?"
—„ Я ўжо цябе, Зьмітрачок, прыждалыся".

Прыблізна каля гэтага часу рушыцца „поізд" ад жаніха к нявесьце са сьпевамі. Едучы па вуліцы, бабы пяюць:

(Мэлёд. № 4).

Як пусьцім стрялу пы сялу, (2 р.)
Праб'ём сьценычку каменну,
Возьмім Пыраску мыладу.
Каменна сьцяна гнісьць будзіць,
А наша Пыраска жыць будзіць.
Каменна сьцяна нагніецца,
А наша Пыраска нажывецца.

Едучы полем сьпяваюць так:

(Мэлёд. № 4).

Ворын, ня ворын, чорнінькій! (2 р.)
Не перелітай дарогі: (2 р.)
Падтопчым цябе пад ногі (2 р.)
Пад чырвоныя чабаты,
Пад здаровыя жываты.
Чырвоныя чабаты гнісьць будуць,
А нашыя жываты жыць будуць.

Пад'яжджаючы к двару нявесты, пяюць:

(Мэлёд. № 2).

Літаў саколік кругом шатра,
Пытаў саколік, куды ў шацёр.
Цяперя езьдзіў Зьмітрачок,
Пытаўся ў Пыраскі,
Куды на двор!
Дурачок, Зьмітрачок, неразумнінькій,
Атчыні вароты ўзьедзь на двор.

У гэты час дзяўчаты ў нявесты пачуўшы прыезд жаніха, пяюць:

(Мэлёд. № 2).

На церем Пыраска зыбніць, зыбніць, (2 р.)
Сь церема Пыраска бяжком бяжыць.
„Зыпірай, мамычка, вароцікі,
Ай едзіць к табе вайна на двор.
Тая цябе воінка развоюіць,

Мяне маладую ў палон возьміць.
Ай палын, палыночык, Замітрачочык.
Палынянка, палынянка, Пырасычка".

Калі „поізд" жаніха ўзьедзіць к нявесьце на двор „свацьці" (бабы, прыехаўшыся з жаніхом) сьпяваюць:

(Мэлёд. № 4).

Пусьці свацюхна, ў хатыхну (2 р.)
Ай, будзім сядзець у запечку,
Ай будзім глядзець праўдычку.
Як люб я госьцікі мядок п'юць,
А нялюбыя гарелку, што пріехалі па дзеўку.

А бабы, якія сядзяць у хаце за сталом, адказваюць ім песьняю:

(Мэлёд. № 5).

Мы думалі, што прыехалі, (2 р.).
Ажно пяшком прішлі (2 р.).
Жыніха ў мяшку нясьлі (2 р.).
А ногі тырчалі, і сыбакі бурчалі.

Матка нявесты выварачвае хутра шэрсьцю ўверх, апранае яе, на галаву шапку; бярэ ў рукі хлеб цэлы, у які ставіць манэту і запаленую сьвечку і разам з мужам ідуць сустракаць жаніха. У час зьбіраньня маткі нявесты прыехаўшыя бабы-свацьці на двары сьпяваюць:

(Мэлёд. № 1).

Выйдзі, выйдзі ты, цёшчухна гырбата,
Сустрень, сустрень свайго зяця багата.
або: Выйдзі, выйдзі ты, цёшчухна сапліва,
Сустрень, сустрень свойго зяця шчасьліва.

А ў хаце бабы сьпяваюць:

(Мэлёд. № 3)

Чэріз шчыр-бор ехалі,
Чаму хвошчу ні нарвалі,
Чаму князя ні ўмывалі?
Ай ваш князь, як пень, чорный
А наша княгіня, як сыр, яна бела,
Як сыр бела, як папера.

З прыехаўшых ніхто не павінен яшчэ ўваходзіць у хату. Калі матка прыбярэцца, яна з мужам ідзе сустракаць, трымаючы ў руках хлеб, а муж трымае бутэльку гарэлкі і чарку. Спатканьне робіцца на парозе дзьвярэй. Бацька нявесты налівае чарку гарэлкі і, зварочваючыся да жаніха, гаворыць: „Будзь здароў!" і „піріпіваецца" з жаніхом Пасьля трэцяга разу жаніх вылівае гарэлку цераз плячо.

Гэтакая самая царамонія і з маткаю нявесты. Пясьля гэтага бацька нявесты гаворыць: „Ну просім к сабе ў хату!" Ідуць у хату цёшча з сваім хлебам, а зяць з сваім, ставяць хлябы на стол. Усьлед ідуць дружко і жаніховы родзічы і сваткі, якія пяюць:

(Мэлёд. № 5).

Дружко на парог лезіць, (2)
Ды ў печ пыглядаіць: (2)
Ці густа капуста, (2)
Ці бальшэй гаршчох кашы
Ці пайдаюць нашы.

Далей пяюць так:

(Мэлёд. № 5).

Ай, свацюхна міла, (2)
Расшырь хату шырэй (2)

Калі мы ня ўлезім, (2)
Пылавіна барады ўрежым (2).

Госьці жаніха пакуль што стаяць, а госьці нявесты сядзяць за сталамі і прапануюць прыехаўшым адкупіць у іх „застольля“. Дружко налівае чарку гарэлкі з уласнае бутэлкі, выпівае і па чарзе дае па чарцы тым, хто сядзіць за сталом. Апошнія вылазяць з-за стала. На куце да вуліцы засьцілаюць лаўку хутрам шэрсьцю ўверх, і дружко садзіць жаніха з „паджанішнікам“, прычым дружко бярэ за руку паджанішніка, а апошні жаніха: вядзе іх вакол стала і садзіць жаніха на хутру, пакідаючы з левага боку месца для невесты, а паджанішніка садзіць побач з жаніхом, з правага боку, на голую лаўку.

Калі жаніх садзіцца, яго сваякі пяюць:

Кылі-б мы знали, дзе Зьмітраку сесьць, (2)
Лаўку-б памылі і шоўкам слалі.
Калі-б мы знали, дзе Пырасцы сесьць,
Лаўку-б ня мылі, гвозьдзя набілі.

Дружок дае свайму памоцніку бутэльку гарэлкі і пасылае яго па нявестку. Пасланец, прышоўшы ў хату да суседа, дзе нявеста з моладзьдзю, аддае ёй гарэлку, і яна па чарцы налівае сваім таварышкам і хлопцам. Пасьля гэтага памоцнік дружка хача ўвясьці нявесту, а хлопцы ня пускаюць, каб больш далі гарэлкі. „Мы за ету гарэлку нявесты ні дадзім!“. Часта бываюць выпадкі, што ім прыносяць яшчэ гарэлкі.

Калі нявесту вядуць у хату бацькі па вуліцы, дзяўчаты паюць:

(Мэлёдыя № 2).

Ляцелі гусычкі чэріз сад,
Крікнулі, гукнулі на ўвесь сад.
Пыра вам, гусычкі, сесьць ны пасад.
Ішлі дзевычкі церез двор,
Крікнулі, гукнулі на ўвесь двор.
Пыра вам, дзевычкі, сесьць за стол.

Увайшоўшы ў хату пяюць так:

(Мэлёдыя № 2).

Пыглядзі, Пыраска, я ў вяршок,
Твой Зьмітрачок, як мяшок.
Пыглядзі, Зьмітрачок, у ваконца!
Вэн твая Пыраска, як сонца.

Дружок бярэ нявесту за руку і вядзе яе за стол, а нявеста вядзе за руку сваіх паднявесьніц, садзіцца сама на падрыхтаванае месца, на хутру („каб багата жылі маладыя“), а паднявесьніцы побач. Такім чынам, жаніх і нявеста сядзяць побач на хутры, паміж паджанішнікам і паднявесьніцамі. Тады дружок гаворыць жаніху: „Бярі нявесту сваёю леваю нагою за правую нагу нявесты і дзяржы крепка, штоб сабака ні пралез“. Маладыя сядзяць так за сталом да канца. Дзяўчаты, сеўшы за стол, пяюць:

(Мэлёдыя № 2).

Як пашоў сад-віныград па заявільлю, (2)
Сьцелючы лісточык па сырой зямлі. (2)
Як пышла Пыраска па застольлейку,
Сьцелючы скацерьсьці бялёвыя,
Ронючы сьлёзычкі гарючыя.
Сьлёзычкі з скацерьсьці капыюцца,
Пырасцы ат мамычкі ня хочыцца.
Сьлёзычкі з скацерьсьці пыкаціліся,
Пырасцы ат мамычкі захацелыся.

Пачынаюцца „сугляды“. Матка нявесты падносіць у рэшаце падарункі ад нявесты, дае дружку „тарелку“ (кружок), абматаную ў палатняную хустку; кладзе на гэтую „тарелку“ ад імя нявесты падарунак жаніховай матцы—будучай сьвякрусе. Дружок, трымаючы гэты падарунак, як і іншыя, на „тарелцы“, крычыць: „Ці ёсьць, ці німа тут жаніховыя маткі *), нявесьціныя сьвякровы! штоб яна ласкыва была, сюды прішла ды етый пыдарык пріняла, мыладым добрый атвет аддыла! А калі яе тут німа, можа хто з яе родзічаў ёсьць?“ І так па чарзе ўсім сябрам сям'і жаніха, а потым і апошнім гасьцям, каму падрыхтаваны былі падарункі. Падарункамі служаць: кусок палатна, хусткі, „шырінкі“. За адсутняючых атрымліваюць іх сваякі. Атрымаўшы падарунак атрымліваў яшчэ чарку гарэлкі, а падарункам тры разы абводзіў у паветры вакол свае галавы. У час раздачы падарункаў паднявесьніцы пяюць:

(Мэлёдыя № 2).

Казалі, Пыраска—нігадзяй,
А яе пыдаркі, як кітай,
Яна ранінька ўставала,
Тонінька вытряхала.
Яна бялёшынька бяліла
Зьмітраковый радзіні гадзіла.

Калі падарункі раздадзены, тады нявесьціна матка гаворыць дружку: „Ну, сьваточкі, зы мае падаркі наліця мне ета решыта гарелкі“.— „Як-жа свацьціка, мы ў ета судзенца можым гарелкі наліць? Мы ета судзенца можым залатым пызалаціць“. Дружко кладзе ў рэшата грошы (1—2 рублі), і яна ідзе ад стала.

Пасьля гэтага пачынаюць дарыць нявесту. Дружок, падымаючы тую-ж талерку, крычыць: „Свацьця, хадзі сюды! (падыходзіць). Ну чым жа ты будзіш сваіх дзяцей дараваць? Ці канём, ці валом, ці хлебым-сольлю, ці добрым здароўім?“ Матка нявесты нясе цэлы хлеб і кладзе яго на талерку, а дружок гэтую талерку нахіляе перад нявестаю, і хлеб лажыцца перад ёю. Дружок кажа: „Даруіць вас ваша матка клебым-сольлю і добрым здароўім“. Такім чынам заклікаецца і бацька нявесты, які таксама кладзе на талерку тый самы альбо другі хлеб, з тэй-жа царамоніяй.

Пасьля гэтага дружок, зварачваючыся да ўсіх гасьцей і падымаючы талерку, крычыць: „Даруйця, спамагайця, мыладога князя, мыладую княгіню! Хто будзіць дыраваць, таму будзім пабагату гарелкі дываць! А хто ня будзіць дыраваць, дык у таго будзім коз грабіць!“ Паднявесьніцы ў гэты час пяюць:

(Мэлёдыя № 2).

Даруйця, дзядзічкі, даруйця!
Пы палціньнічку гатуйця.
Даруйця, цётычкі, даруйця!
Пы намётыцы гатуйця.
Мыладога князя спымыгайця,
Я ў шчасьлівую гадзіну,
Пы харошую дружыну.

Госьці звычайна даруюць грошы (5—50 к.), кладуць іх на талерку, дружок нахіляе яе перад нявестаю, грошы кладуць перад ёю на стол, а дружок гаворыць да нявесты: „Даруіць цябе жаніхова цётка NN етым красным, ясным пыдаркам, штоб вы ласкавы былі, етый пыдарак прінялі, а ім добрый атвет аддалі“. Такая царамонія пры

*) Дружко кожнага называе імя і імя па бацьку.

кожным падарунку. Калі даруюць слаба, дружок крычыць ува ўсю глотку: „Хто забыў! Хто забыў! Хто прібыў! Даруйця, спамагайця, мыладога князя, мыладую княгіню! Хто будзіць дыравацъ, таму будзім па 10 чарык гарелкі дывацъ!“ Часта даруюць і незапрошаныя госьці, якіх на вясельлі вельмі багата, з мэтаю выпіць гарэлкі, а некаторыя прыходзяць паглядзець ды паскакаць.

Дараваньне самы шумны момант вясельля: дружок крычыць сваё, дзяўчаты сьпяваюць песьні, музыка йграе, сваткі скачуць з прыпеўкамі. І ўсё гэта ў адзін і той самы час.

Прыпеўкі.

1. Я гуляю вісялюся (2 р).
Ды нікога нібаюся (2).
Ў мяне мужа німа (2)
Я хызяічка сыма (2)
2. Якій скамарох,
Такое іграньне
Павёў казу у лазу на цэлыя раньня (2).
3. Водыль, водыль ні стапчы мае нагі (2),
Водыль, водыль ні надзелай мне бяды (2).
4. Я-ж была дзеўка хырыша (2),
Я забіла цыцкаю пырася (2).
5. Я-ж была, як бель бела,
Цяперь мяне маладую журьба з‘ела,
Цяперь мяне пылавінкі німа
Зы табою растак тваю ма.
6. Іграй скріпка ды ня дзёргыйся
Пап‘ём, пыядзім ды разойдзімся
7. Іграй не дурі (2)
Дырма грошы ні бярі (2).

Пасьля таго, як аддаруюць, дружок закідвае пояс на шыю нявесьце, а паднявесьніцы рукамі 2 разы адкідваюць яго. Ужо за 3-м разам дружок закідвае пояс, а паднявесьніцы пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Кызалі, сваты быгаты; (2)
Прівязьлі паясок, як матузок. (2)
Наша нявеста тыўстая. (2)
Пылавіна пояса ні стала. (2)
Дайця лычычка ныдвізаць, (2)
Хуць Зьмітраку штаны пыдвізаць (2).

Дружок падпяразвае нявесту і хоча надзець ёй на галаву шапку, а паднявесьніцы 2 разы адбіваюць, але за 3-м разам надзявае.

Паднявесьніцы пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Знаць тваё, Пыраска, нішчасьця,
Што твая шапычка ні красна.

Пасьля гэтага паднявесьніцы вылазяць з-за стала і пачынаецца продаж нявесьцінай касы. Брат нявесты (часта хлопчык-падлетак), або суседа хлопчык становіцца за плечы нявесты з лучынкаю ў руках, а дружок пагражае яму пугаю: „Я цябе пугаю буду сеч!“—„А я табе шаблію галаву атсяку“,—пагражае ў сваю чаргу хлопчык. Дружок ставіць на талерку чарку гарэлкі і кладзе грошы. А хлопчык гаворыць: „Мала! Ні аддам касы пакуль ні паложыш большы“. Дружок кладзе яшчэ грошы. Хлопчык бярэ грошы выпівае гарэлку і вылазіць з-за стала. Гэтым заканчываецца „сугляды“. Маладыя вылазяць з-за стала і ідуць да суседа, дзе яны з паджанішнікамі і паднявесьніцамі

„абедаюць“. У бацькі нявесты саджаюць за стол сваякоў жаніха і нявесты і частуюць бяз песень. Гэта бывае звычайна ўжо раніцаю. Пасьля закускі рыхтуюць вясельны „поізд“ да царквы. На двары ўперадзі ставіцца фурманка для дружка, другая для жаніха з паджанішнікам, трэцяя для нявесты з братам („павозьнікам“), чацьвертая для паднявесьніц, пятая для сватак, шостая для музыкаў і г. д.

А ў гэты час у хаце бацькі нявесты зьбіраюцца маладыя і ўсе тыя, хто павінен ехаць да царквы. Дружок гаворыць да нявесты: „Кланійся, нявеста, ў землю перад вобразым, а тады кланійся маццы, бацьку і хрёсным і родным!..“ Нявеста кланяецца, а за ёю і жаніх. Паднявесьніцы ў гэты час пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Стань, мая мамычка, ў парозі!
А ўжо мы ў цябе ў дарозі.
Пріступ, мамычка, блізінька!
Пыкланюсь табе нізінька.
Ай, нізка, нізка—ды зямлі.
Коскаю зямельку ўсьцялю,
Сьлёзкымі ножычкі абальлю.

Дружок крычыць: „Ацец і маці! блыгаславіця сваіх дзяцей да божжыга храму ехаць!“ Бацькі адказваюць: „Бог блыгаславіць“. Дружко: „Другім разым, добрым часым благословіця!“—Бог блыгаславіць“.— „І трэцьцім разым, добрым часым блыгаславіця!“ (Такім-жа чынам благаслаўлялі і жаніха ў яго бацькоў, калі ён ад‘яжджаў да нявасты).

Далей дружок гаворыць: „Ну, ацец, і маці! станьця ў парозі, а мы ўжо ў вас дарозі“, і рушацца з хаты. Дзяўчаты пяюць:

(Мэлёдыя № 5).

Зыгрібай, маці, жар, жар! (2)
Кылі табе дачкі жаль, жаль. (2)
Зыгрібай, маці попіл! (2)
А мы тваю дачку ўхопім.
Кладзі, маці, дровы! (2)
Бывайця здаровы! (2).

Нявеста і яе матка плачуць, як і пры некаторых іншых момантах вясельля. Вышаўшы з хаты, усе садзяцца на павозкі, акрамя дружка, якога павозка становіцца ў самых варотах. З хаты выходзіць нявесьціна матка ў шапцы і ў хутры шэрсьцю ўверх, з падвязаным хвартухом, з якога яна бярэ зерне ячменю і „абсеваіць“ ім „поізд“. Абходзіць тры разы вакол „поізду“ і кідаець на фурманкі зерне, а дружок бяжыць за ёю, ляскае пугаю і крычыць: „Дыганю! дыганю!“ Тады дружок перад сваім канём пугаўём на зямлі тры разы робіць крыж і далей выпівае з маткаю нявесты.

Пасьля гэтага „поізд“ рушыцца з двара, а паднявесьніцы пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

У варот бярёза стыяла, (2)
Параска з двыра з'езджала. (2)
У бярёзы вярьхушку сырвала. (2)
Стой, мыя бярёза, бяз верьху! (2)
Жыві, мыя мамычка, без мяне! (2)
Бяз русый касы бяз мае, (2)
Бяз шаўковыга ўплёта, (2)
Без шаўковыга без майго. (2)
Павесіла ўплёт ны піряплёт, (2)
Куды маей маміццы ў клець хадзіць. (2)
У клець ідучы зыбачыць, (2)
А с клеці ідучы зыплачыць. (2)

То мае дачушкі уплёт, (2)
Павесіла мне на сьлёзы. (2)
Яна етыя уплёты, (2)
Яна етыя насіла, (2)
Падворья маё красіла.
Цяпер некыму насіці,
Падворья маё красіці. (2).

Калі „поізд“ выяжджае з двара, цёшча хутка зачыняе вароты і лічыць тых, хто застаўся на двары. Калі цотны лік людзей застаўся, значыць дачка будзе жыць з мужам; а калі няцотны лік—дачка будзе ўдавою.

Вуліцаю „поізд“ едзе шыбка, з музыкаю і сьпевамі. Пачуўшы шум васельля, з усіх хат выбягаюць глядзець амаль што ўсе, як на якое-небудзь надзвычайнае дзіва. Дзяўчаты і сваткі пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Ехыла кызакоў сем палкоў, (2)
А ўперадзі Зьмітрачок. (2)
Ныэад пужкаю мыхаіць, (2)
Усіх казакоў здзержаіць: (2)
„Стойця, пастойця, паноўя! (2)
Усё Зьмітраковы братоўя! (2)

У час царкоўнага абраду паджанішнік трымае вянец над жаніхом, а паднявесьніцы па чарзе над нявестаю.

Калі выходзяць з царквы, сваткі пяюць:

(Мэлёдыя № 1).

Спасіба папу і паповічу (2 р.)
Скорінька зьвянчаў ды ня дорага ўзяў.

Пасьля вянца „поізд“ едзе да жаніха, на „жаніховы сугляды“. Едучы па вуліцы да жаніха, асабліва пад'яжджаючы да двара, пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Узьмітаўся рой над гумном, (2 р.)
І нявестычка грім на двор. (2 р.)
А ці рой, раёчык, агрябаць,
Ці нявестычку сустрікаць?
А мы раёчык агряблі,
І нявестычку сустрелі.

Пры ўезьдзе ў двор, пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Атчыняй, мамычка, новый двор!
Ай едзіць к табе сын на двор.
Атчыняй, мамычка, каморку,
Вязець табе сын патворку.

Зьлезшы з павозак і стаўшы каля дзьвярэй, пяюць:

(Мэлёдыя № 5).

Зыпалі, маці, сьвечу, (2)
Выхадзі на сустречу! (2)
Сынок сыкалок едзіць, (2)
Піряменычку вязець (2)
Піряменычка-ж мыя, (2)
Ты-ж нявестычка-ж мая!
Туды, сюды пашлю,
А сыма пыпярёд пайду.

Сьвякруха выходзіць з хаты ў хутры шэрсьцю ўверх і ў шапцы на галаве, з хлебам-сольлю, монэтаю і сьвечкаю ў хлебе. Потым „періпіваюцца“—сьвякруха з нявестаю, а бацька з сынам тры разы, як у нявесты раней. Пасьля гэтага дружок вядзе маладых у хату і, зварачваючыся да бацькоў жаніха, гаворыць: „Ацец і маці! блыгаславіця сваіх дзяцей за стол сесьць!“—„Бог блыгаславіць!“ адказваюць бацькі. „Другім разым, добрым часым, блыгаславіця!“—„Бог блыгаславіць“— „І трецьцім разым, добрым часым, блыгаславіця!“—„Бог блыгаславіць“. Дружко бярэ за рукі маладых, абводзіць іх вакол стала і садзіць іх на лаўку, на якую як і ў нявесты, расьцілаюць хутра. Потым маладым даюць мёду есьці („каб маладым салодка жылося“). Праз хвіліну бацька жаніха гаворыць: „Ну, мой сын, бярі нявесту і вядзі к суседу на прігатаваный абед“. Маладыя ўстаюць і ідуць да суседа, а з імі паджанішнік і паднявесьніцы. Там яны разам абедаюць. А ў хаце сьвёкра садзяць за стол „паязджань“ і даюць ім абед. Пасьля абеду іграе музыка, сваткі, а таксама зьявіўшыяся з вуліцы дзяўчаты і хлопцы, скачуць. Сваткі скачуць з прыпеўкамі, таксама як у нявесты.

„В я ч э р ь н і я“. Перад вечарам ад бацькоў нявесты прыяжджаюць або прыходзяць „вячэрнія госьці“ (без бацькоў) і прывозяць ці прыносяць пасьцелю для маладых. Ідучы па вуліцы, яны пяюць:

(М э л ё д ы я № 2).

Хадзілі, брадзілі два браты,
Шукалі, пыталі сястріцы:
„Дзе наша сястріца дзелыся?“
Ні на галоўцы вяночка,
Ні ў русый касе шнурочка.

Падышоўшы да двара, пяюць:

(М э л ё д ы я № 1).

Вы, кумычкі, галубычкі, чалом вам! (2)
Ці ні заляцела наша курычка ўчора к вам? (2)
Вы ня кышкайця, ні шугыкайця, ніхай вам,
Круп пысыпайця, вады пылівайця,—прівыкніць:
Вашы воды крынішныя,—прівыкніць,
Вашы крупы пшанішныя—прівыкніць.

Дружок выходзіць да іх і гаворыць: „Прашу, госьцікі, у хату“. „Вячэрьнія“ ідуць у хату і кладуць прынесеныя вузлы на „пол“ (нары). Іх саджаюць за стол, даюць гарэлкі і закускі.

Пасьля гэтага пачынаюцца „сугляды жаніха“. Маладых саджаюць за стол з паджанішнікам (паднявесьніц ня садзяць). Даруюць жаніха таксама, як раней нявесту, толькі без падарункаў жаніха. З тымі-ж песьнямі і прыказкамі. Калі „аддаруюць“ жаніха, маладыя вылазяць з-за „стольля“. Тады бацька маладога запрашае ўсіх гасьцей, як нявесьціных, таксама і сваіх, сесьці за сталы і ім выдаюць „вячэрю“, без усялякіх абрадаў і прыказак.

Пасьля вячэры адбываецца абрад „вярчэньня“ маладухі. Дружок запытваецца ў нявесты: „Ну штож, мыладая, хочыш сесьць на дзяжу, штоб цябе вярьцелі? (завівалі валасы). А можа ты ні дастойна, штоб цябе вярьцелі?“ (Калі дзяўчына згубіла дзявочую непарушанасьць, то гэтага абраду ня робяць). Калі нявеста была непарушана, то адказвала: „Хачу“. Я нічога ні баюся“, А калі маладая ня мае непарушанасьці, то замінаецца і кажа: „Ня ведую, што мне тут дзелаць?“ У першым выпадку выкачваюць калодку на хату, ставяць на гэтую калодку дзяжу, пакрываюць яе хутрам ўверх шэрсьцю, і маладая садзіцца на хутра. Дружко бярэ грэбень, рашчэсвае ёй валасы і прыпальвае

іх „вянчальнаю“ сьвечкаю накрыж (каля лобу, патыліцы і віскоў). Дружку падаюць дзьве прадзі ільну для „тканкі“. Дружок перадае гэты лён сваткам і гаворыць: „Ну, бабы, вярьціця выласы мыладой“. Сваткі скручваюць з ільну жгут і вакол яго завіваюць валасы маладухі сьпяваючы:

(Мэлёдыя № 5).

Зывяжым мыладушычку
Зьмітраку на йгрушычку.
Іграй, Зьмітрок, іграй!
Ды нікому ні дывай!.

Надзяваюць на галаву маладой чапец, а потым абвязваюць яе галаву намёткаю, канцамі назад. Свахі пяюць:

(Мэлёдыя № 3).

Ай, там, там, ды па ельнічку,
Ай, там, там па бярезьнічку.
Ай, там жаўнер жаўну вядзець,
Замытаўшы ў бярёсьцінку.
Ай, стук, грюк ды па сенічках,
Ай, стук, грюк ды па новіňкіх.
Ай, там Зьмітрок ды Пыраску вядзець,
Зывярьцёмшы у намётычку,
Як белую лябёдычку.

Свахі сьцелюць маладым пасьцелю ў клеці або ў хаце. Туды перадаецца і сарочка маладой, прынесеная „вячэрнімі“ ад яе маткі. Гэтую сарочку маладая надзяе ў прысутнасьці сватак і сваячак жаніха. Свашкі пяюць:

(Мэлёдыя № 6).

Саўём мы, саўём мы
Сылавейку гняздо,
Штоб яму, штоб яму,
Цёплінька было.

Паклаўшы маладых, пакідаюць іх адных і расходзяцца па дамох.

Назаўтра раніцай маладыя ўстаюць. Малады ідзе да свае маткі і кажа ёй: „Ну, матка, ідзі маю бабу абгледзь!“ Матка з свашкамі ідзе сьведчыць ложа маладых. Далей дзеяньне адбываецца ў залежнасьці ад таго, была ці ня была непарушана маладая. У першым выпадку, перадаюць дружку, што „дзёла харашо“. Тады дружок і малады едуць па цешчу, пры гэтым дружка ўхарашваюць чырвоным поясам, прычэпліваюць да дугі чырвоныя істужкі. Прыехаўшы да цешчы, малады ёй і цесьцю кланяецца ў ногі. Дружок мые рукі і гаворыць: „Ну-ка, сваццяця, дай-ка рушнік!“ Цешча падае „шырінку“ або кусок палатна. (Гэта ўва ўласнасьць яму). Цешча таксама рада; смажыць яечню, каўбасы і частуе свайго маладога зяця і дружка. Пасьля гэтага дружок гаворыць: „Ну зьбірайцесь-ка самі, завіцця сваіх гасьцей ды пріезджайця к нам!“ Дружок і малады зварачваюцца назад, да бацькі жаніха.

А цёшча, сабраўшы „прыда́ных“, многа частуе іх; потым бярэ з сабою мужа, а таксама „заўтрік“—хлеб, сала, бутэльку гарэлкі, парасёнка смажанага; міску, лыжку, лубку, маладой у грыбы хадзіць,—і з гасьцямі едуць да маладога гуляць далей вясельле. Едучы па вуліцы, сьпяваюць:

Мяцеліца дарожычку зымела,—(2)
Пыраскіну радзінычку заўняла.
Ускоч, ускоч, Зьмітрачочык на каня,
Пралож, пралож дарожычку ды сяла.

Ай да села, да сьцёвыга ды двара
А штоб мая радзінычка тут была
А хуць рана, хуць ні рана
А я рада, што радня.

Прыехаўшы на двор, пяюць:

(Мэлёдыя № 1).

Выйдзі, выйдзі, Пырасычка, з церяма! (2)
Выведзь, выведзь радзінычку з сарама. (2)

Параска выходзіць з вобразам на галаве і кланяецца ў ногі матцы і бацьку, яны яе падхапліваюць, а з другімі Параска цалуецца. Тады вядуць гасьцей („приданых") у хату, саджаюць іх за стол разам з жаніховаю раднёю. Гэта ўсё робіцца так у тым выпадку, калі маладая была непарушна.

Зусім іншае бывае ў адваротным выпадку. Калі сваткі, зрабіўшы агляд пасьцелі маладых, абвяшчалі, што „дзе́ла" дрэнна,—дружку вешаюць на плечы старыя разьбітыя лапці, а ў некаторых вёсках надзяваюць яму на шыю хамут. Малады ходзіць насупіўшыся. А сваткі пяюць крыўдныя песьні:

(Мэлёдыя № 3).

1. Чыя ета хата з краю?
—Ета цёшчы мае,
Калі-б ёй скульля села
І з дачкою яе.
2. Ці пад ельлю спала?
Ці шышка ўпала?
Ці кароў даіла?
Ці на рог прабіла?

А калі едуць па цёшчу, то дугу так не ўхарашваюць, як у першым выпадку. На дугу вешаюць разьбітыя старыя лапці („ашмёткі"); і дружок едзе толькі адзін, без жаніха.

З прыездам „приданых" вясельле адбываецца далей. Прыехаўшыя ставяць прывезенае на стол і дзеляць гэты „заўтрік" усяму жаніховаму роду. Аддаюць маладой міску, лыжку і лубку. Маладых таксама саджаюць за стол. Бацькі маладога дзеляць каравай гасьцям. Сваткі пяюць:

Каравай-жа наш маляваный, маляваный.
Малявалі яго стыляры, стыляры.
І з дальныя стараны, стараны.

Караваем называецца белы пшанішны хлеб, сьпечаны раней, або куплены на рынку і прыбраны папяровымі кветкамі. Пячэньне караваю ў Касьцюковіцкім раёне адбываецца без асаблівых царамоній.

Пасьля караваю маладую прымушаюць пячы аладкі. Пасьля гэтага маладую ганяюць да калодзежа па ваду. Перад гэтым дружок, калі маладая была непарушна, бярэ аладкі ў чырвоную хустку, а ў адваротным выпадку ў рэшата, і кажа: „Ну, маладая, бяры-ка вёдры, пойдзім па ваду!"

Маладая бярэ вёдры на плечы і йдзе за дружком да студні, а за ёю ўсе госьці. Сваткі пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Пагонім Пыраску пы ваду, (2)
Паб'ём вядзёрцы ны ляду. (2)
Наш Зьмітрачок бондар быў, (2)
Пабіў вядзёрцы ны ляду, (2)
Узяў Пыраску мыладу. (2)

Прышоўшы да калодзежа, маладая раскідае аладкі, а дзеці хапаюць іх. Маладая бярэ ваду і нясе яе ў двор сьвёкра.

Пасьля гэтага ходзяць па „банкетам“ сваякоў маладога, г. зн. усе госьці, з музыкаю, сьпевамі, скокамі і прыпеўкамі ходзяць па хатах сваякоў маладога. Там частуюцца і вяселяцца. З гасьцямі ходзяць і маладыя.

На другі дзень да цешчы вязуць „пірагі“: тры буханкі хлеба, кавалак сала і пляшку гарэлкі. Хлеб кладуць на чырвоную хустку і потым у лубку ў тым выпадку, калі маладая была непарушана. У адваротным выпадку на хустку не кладуць, а проста ў лубку. Калі „пірагі“ кладуць у лубку, а таксама калі едуць па вуліцы да цешчы, у першым выпадку пяюць:

(Мэлёдыя № 4).

Ні ўцішайціся, урагі, (2)
Што ны вязець Пыраска пірагі. (2)
Чарвоным сукном аббіўшы,
Кітаічкаю накрыўшы.

Узьехаўшы на двор цешчы, у першым выпадку сваткі пяюць „вялічча“:

(Мэлёдыя № 2).

А вялічча наша Пыраска
Узьвялічыла два двары:
А першый-жа двор татычкаў,
А другій-жа двор сьвёкарькаў.

У другім выпадку „вялічча“ не пяюць, на дугу чыпляюць „ашмёткі“.

У першым выпадку прыехаўшым насустрэчу выходзяць бацькі маладой і гавораць: „Просім гасьцей к нам у хату!“ А ў другім выпадку бацькі ня выходзяць, і гасьцей вядзе ў хату сам дружок, якому на шыю надзяваюць хамут.

Калі маладая была непарушана, сваткі, увайшоўшы ў хату, становяцца на лаўкі і пяюць:

(Мэлёдыя № 3).

Ай гоцнім, гоцнім ды на гарніць віна!
Далей: А вялічча наша Пыраска... і г. д.

Потым пяюць такія песьні:

(Мэлёдыя № 4).

1-я. Спасіба, свацьця, зы дачку,
Што блюла дачку ў хвартучку!
2-я. Ці ня было на яе прічыны,
Калі яна добрыя радзіны?,
Ці ня было на яе славычкі,
Кылі яна добрыя мамычкі.

Свахам гэтым даюць гарэлкі і яны злазяць з лавак і гуляюць разам з іншымі: дзеляць прывезенае, п‘юць і скачуць з прыпеўкамі.

У другім выпадку свахі ня лазяць на лаўкі і не сьпяваюць добрых песень, а ўсё дрэнныя, крыўдныя.

У першым выпадку бацькоў маладой саджаюць на кут і частуюць іх, а ў другім—становяць ступу і за яе саджаюць бацькоў маладой.

Пасьля гэтага ходзяць па „банкетам“ сваякоў маладой, таксама як і ў сваякоў маладога.

Гэтым і заканчваецца вясельле. Пры разьездах гасьцей да дому яны пяюць:

(Мэлёдыя № 2).

Паедзім двору, да дому, (2)
Што паелі коні салому, (2)
І ўсю яшную аторю. (2)
Што сена клачок—пятачок (2)
Саломы былінка—грівінка (2).

---

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

## Плян курсу краязнаўства ў вышэйшых вучэбных установах і тэхнікумах*).

### Тлумачальная запіска.

Ці патрэбен асобны самастойны курс краязнаўства ў нашых вышэйшых школах і тэхнікумах? Патрэбен, дзякуючы наступным меркаваньням.

1) Запатрабаваньні нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў галінах гаспадарчай і культурнай высоўваюць неабходнасьць мець людзей, якія вывучалі-б свой край, прыродныя багацьці яго, культурны ўзровень, быт, мінулае, і гэта вывучэньне адбывалася-б з мэтай скарыстаньня багацьцяў, павышэньня культурнага ўзроўню, паляпшэньня быту.

2) Шырокае разьвіцьцё краязнаўства, як грамадзкага руху, які ахапляе самыя рознастайныя пласты насельніцтва—рабочых і сялян, культурных работнікаў розных спэцыяльнасьцяй—пэдагогаў, агрономаў, дактароў, неабходнасьць паглыбленьня краязнаўчай працы на месцах—усё гэта вымагае ўтварэньня значных кадраў мясцовых краязнаўцаў-работнікаў, дасьледчыкаў організатараў. Са шляху аматарства краязнаўства павінна перайсьці ўжо на шлях плянавага вывучэньня краю і яго асаблівасьцяй.

3) Сучаснае вытворчае краязнаўства зьяўляецца сынтэтычным па мэтоду і мэтах. Яно ня можа абмежавацца аднэй толькі пастаноўкай асобных краязнаўчых проблем, як гэта ўжываецца ў некаторых пэдагогічных вучэбных установах. Розныя мэтодыкі асобных дысцыплін (прыродазнаўства, грамадазнаўства) звычайна абмяжоўваюцца ўстанаўленьнем сувязі паміж данай дысцыплінай і краязнаўствам, а спыняцца больш падрабязна не дае магчымасьці самая пастаноўка курсу данай дысцыпліны. Устанаўленьне-ж аднэй толькі сувязі між дысцыплінай краязнаўства засланяе вельмі важны бок краязнаўства, гэта—комлекснасьць і сынтэтычнасьць, якія могуць быць дасягнуты толькі шляхам самастойнага праходжаньня курсу краязнаўства.

4) За апошнія гады краязнаўчы мэтод у якасьці дасьледчага ўсё больш ужываецца ў розных дысцыплінах. Ня кажучы аб прырода-

*) Плян уложаны па даручэньні ЦБК тт. Аляксандравым (часткі мэтодычная, спэцыяльная і практычная для пэдагогічных вучэбн. устаноў), А. Смолічам (практычная частка для сельска-гаспадарчых вучэбн. устаноў) і А. Цьвікевічам (практычная частка для мэдыцынскіх вуч. устаноў).

знаўчым цыклі дысцыплін, праходжаньне якіх ужо і ня мысьліцца без краязнаўства, але і гуманітарны цыкль усё больш і больш прасякаецца краязнаўчым мэтодам. Гісторыя асобных гарадоў, паселішч цэлых краін займае ўсё большае месца ў агульнай гісторыі краю; лінгвістычныя навукі, углыбляючыся, павінны зварочваць вялікую ўвагу на самыя дробныя дыялектычныя асаблівасьці, іх геаграфічнае пашырэньне; вывучэньне літаратуры і яе гісторыі ўсё больш спыняецца на вывучэньні асяродзьдзя, літаратуных гнёздаў і г. д. Усё гэта паказвае на тое, што пара ўжо краязнаўства высоўваць як асобную мэтодычную дысцыпліну.

Пералічаныя заўвагі вычэрпваюць у сутнасьці задачы і мэты курсу краязнаўства, якімі зьяўляецца: 1) неабходнасьць мець на месцах сьвядомага самастойнага будаўніка соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, 2) падрыхтоўка кадру мясцовых краязнаўцаў, дасьледчыкаў і організатараў і 3) уменьне карыстацца краянаўчым мэтодам, як сынтэтычным, у тэорэтычных і практычных дысцыплінах, а таксама ў штодзённай гаспадарчай і культурнай рабоце ў галінах навуковых дасьледваньняў.

Асазнаньне важнасьці паказаных момантаў прывяло да ўводу ў вучэбныя ўстановы РСФСР краязнаўства ў якасьці асобнай дысцыпліны (2-гі Маскоўскі Дзяржаўны Унівэрсысэт, Варонескі Унів., Вяцкі Інстытут Народнае Асьветы і інш). У асобных пэдтэхнікумах БССР у бягучым акадэмічным годзе выкладаецца краязнаўства, але фактычна бяз цьвёрдага пляну і програмы, знаходзячыся ў залежнасьці ад густу выкладчыка, калі выкладчык географ, дык яго курс краязнаўства зьяўляецца як-бы мэтодыкай географіі, калі выкладчык прыродазнаўца— дадаткам да мэтодыкі прыродазнаўства і г. д. Усё гэта пацьвярджае, што пытаньне аб пляне курсу краязнаўства для вышэйшай школы і тэхнікумаў БССР зьяўляецца сваечасовым.

Згодна пляну, які тут прапануецца, курс краязнаўства падзяляецца на тры часткі: агульную, спэцыяльную і практычную.

1. Агульная частка курсу краязнаўства павінна складацца з двох разьдзелаў—а) мэтодычнага, які ахапляў-бы найбольш сур'ёзныя пытаньні мэтодыкі краязнаўства, організацыі краязнаўчых нагляданьняў і дасьледваньняў, скарыстаньня краязнаўчага матар'ялу для вытворчых і культурна-асьветных мэтаў, а таксама пытаньні мясцовай бібліографіі. б) Організацыйнага разьдзелу, які ахапляў-бы пытаньні краязнаўства, як грамадзкага руху, закранаў-бы стан краязнаўства ў Заходніх дзяржавах, гісторыю краязнаўства на Беларусі, краязнаўства ў СССР і яго частках, грамадзка-організацыйныя пытаньні краязнаўчай справы.

2. Спэцыяльная частка курсу краязнаўства павінна даць узоры і формы ўжываньня краязнаўчага мэтоду пры вывучэньні краю і яго асобных частак акруг, раёнаў, паселішч. У якасьці матар'ялу тут лепш за ўсё ўжываць: а) прыклады мясцовай прыроды, экономікі, гісторыі матар'яльнай і духоўнай культуры, якія даюць магчымасьць надаць прапрацоўцы чыста дасьледчы характар, б) літаратуру, якая заключае ў сябе прыклады монографічных апісаньняў і якая зьяўляецца мэтодычным узорам для сваёй акругі, раёну, паселішча. Прыняць пад увагу пры разьмеркаваньні тыпаў песелішч мястэчка, як асобны тып соцыяльна-экономічнага організму,уласьцівы для Беларусі.

3. Практычная частка павінна быць відазьменнай у залежнасьці ад тыпу вучэбнай установы. Спэцыяльнасьць вучэбнай установы індывідуалізуе гэтую частку курсу. Мы зацікаўлены ў тым, каб культурныя працаўнікі розных спэцыяльнасьцяй былі ўцягнуты ў краязнаўчую справу і каб яны маглі ўзгадніць сваю работу з краязнаўствам. Адсюль і featureнастайнасьць практычнай часткі нашага курсу.

Практычная частка дадаецца да нашага пляну ў трох варыянтах: а) для пэдагогічных, б) для сельска-гаспадарчых і в) для мэдыцынскіх вучэбных устаноў.

Адносна мэтаду прапрацоўкі прапануемага курсу лічым патрэбным заўважыць, што найбольш адпавядаючым мэтадам зьяўляецца такі, на якім базуецца сама краязнаўчая работа—гэта дасьледчы. Лекцыйны спосаб тут павінен займаць самае найменшае месца, дамінаваць жа павінна ляблраторнасьць і сэмінарыі. Апрача гэтага неабходна пастарацца так арганізаваць курс, каб можна было-б зрабіць некалькі экскурсый, хоць бы ілюстрацыйнага характару. Асабліва гэта датычыцца спэцыяльнай і практычнай часткі. Існуючая багатая краязнаўчая літаратура (як апісаўчага, так і мэтодычнага характару) дае поўную магчымасьць паставіць курс краязнаўства глыбока і сур'ёзна*).

Прапануючы курс краязнаўства ў якасьці асобнай дысцыпліны, мы гэтым ня хочам яго зусім абасобіць ад мэтодычных дысцыплін, з якімі яно датыкаецца (гутарка ідзе ў даным выпадку аб пэдагогічных вучэбных установах), а наадварот дапушчаем, што краязнаўства будзе дапамагаць ажыўленьню нашых мэтодык, якія ў большасьці маюць тэорэтычны характар. Асабліва гэта можна сказаць адносна спэцыяльнай часткі, дзе асобныя пункты дапоўняць мэтодыку прыродазнаўства, грамадазнаўства ілюстрацыйнасьцю. Тут неабходна ўстанавіць адпаведную корэляцыю, што ў большасьці лёгка ўдаецца на практыцы.

У заключэньне лічым патрэбным заўважыць, што мы прапануем пакуль што плян курсу, які разьлічваецца на самастойную прапрацоўку кожным выкладчыкам краязнаўства. Наступным этапам нашай работы ў гэтым кірунку павінна зьявіцца падрабязная програма, якая і складае адну з бліжэйшых задач.

---

### А. Агульная мэтодыка.

I. Сутнасьць краязнаўства і розныя яго разуменьні. Краязнаўства, як мэтад і як дысцыпліна.

II. Краязнаўства як мэтодычны прынцып, што праводзіцца ў розных навуковых дысцыплінах. Прынцып лёкалізацыі матар'ялу ў прыродазнаўчых і гуманітарных навуках.

III. Краязнаўства і марксызм. Марксысцкая мэтодолёгія і дынамічны прынцып у краязнаўстве.

IV. Об'екты краязнаўчага дасьледваньня і форм яго прапрацоўкі (дыяграмы, графікі, колекцыянаваньне, фотографаваньне і д. т. п.).

V. Організацыя краязнаўчых дасьледваньняў. Экспэдыцыі, экскурсыі, стацыянарнае нагляданьне. Тыпы дасьледваньняў—прыродазнаўчыя, экономічныя, культурна-гістарычныя, этнографічныя і д. т. п. Асаблівасьці іх мэтадаў. Формы іх організацыі. Анкетны мэтад. Статыстыка і краязнаўства.

VI. Скарыстаньне краязнаўчага матар'ялу для вытворчых і культурна-асьветных мэтаў. Скарыстаньне матар'ялу ўстаноў і грамадзкіх організацый. Выстаўкі. Ахова помнікаў прыроды і культуры. Музэі—

---

*) Вельмі важна скарыстаць мясцовы краязнаўчы музэй, які зробіцца апорным пунктам, навуковай базай для прапрацоўкі ўсяго курсу.

агульна-рэспубліканскія і краёвыя; прынцыпы іх арганізацыі. Архівы агульныя і мясцовыя. Краязнаўства і навуковыя ўстановы.

VII. Краязнаўства і арганізацыя социялістычнай гаспадаркі. Прынцып раёнаваньня ў сучасным экономічным будаўніцтве.

VIII. Краязнаўства і бібліографія. Агульная мясцовая бібліографія.

## Б. Краязнаўства як грамадзкі рух.

I. Краязнаўства ў нашых заходніх суседзяў.

II. Гісторыя краязнаўства ў Беларусі.

III. Сучаснае краязнаўства ў СССР і яго асаблівасьці ў розных рэспубліках. Краязнаўства і нацыянальныя меншасьці.

IV. Організацыйныя формы краязнаўчай працы. Гурткі, раённыя і акруговыя таварыствы краязнаўства, Ц. Б. К. Зьезды і конфэрэнцыі. Краязнаўчая праца пры асьветных установах—школах, бібліотэках, хатах-чытальнях і г. д., пры профсаюзных організацыях. Краязнаўчая праца пры вышэйшых школах. Масавая краязнаўчая праца сярод розных пластоў насельніцтва. Краязнаўчыя выданьні.

## В. Спэцыяльная мэтодыка. Вывучэньне краю і паасобных раёнаў.

I. Край, як вытворча-экономічны і культурна-гістарычны комплекс. Мэтады вывучэньня краю—об'ектны і комплексны. Монографічныя дасьледваньні. Падыход і мэтавая ўстаноўка ў сучасным вывучэньні раёну.

II. Плян і мэтодыка вывучэньня раёну: а) прырода, клімат, глебы, воды, расьліны і жывёлы, карысныя выкапні, геолёгічныя адкладаньні, фэнолёгія і г. д. б) экономіка—сельская гаспадарка, прамысловасьць—буйная і дробная; насяленьне і яго склад—нацыянальны, профэсыянальны і социяльны; формы вытворчасьці і абмену—коопэрацыя, прыватны гандаль і г. д. Пэрспэктывы разьвіцьця раёну; в) гісторыя раёну—дагістарычнае мінулае; рэшткі першабытнай культуры; старажытныя насельнікі; стан раёну ў розныя часы; факты гісторыі мясцовай культуры; гісторыя рэволюцыйнага руху. Адміністрацыйна-політычны стан раёну ў сучасны момант.

III. Асаблівасьці вывучэньня гораду і вёскі, як социяльна-экономічных організмаў. Мястэчка і асаблівасьці яго вывучэньня.

## Г I. Практычная частка (для пэдагогічных навучальных устаноў).

*Краязнаўчыя мэтады ў школьнай працы.*

I. Краязнаўства і пэдагогіка. Месца краязнаўства, як пэдагогічнага прынцыпу ў гісторыі пэдагогічных ідэй (радзімазнаўства, бацькаўшчыназнаўства). Сутнасьць сучаснага школьнага краязнаўства ў комплексных програмах.

II. Формы школьнай прапрацоўкі краязнаўчага матар'ялу.

III. Об'екты школьнай прапрацоўкі.

IV. Організацыя школьна-краязнаўчай працы (школьнае краязнаўства ў нутраной працы школы і па-за ёю). Школьнае краязнаўства ў 1 і 2 концэнтры. Краязнаўства, як пэдагогічны прынцып у розных вучэбных дысцыплінах (грамадазнаўства, літаратура, прыродазнаўства і г. д.). Програмна-краязнаўчыя дасьледваньні.

V. Удзел школы ў краязнаўчай працы. Краязнаўчыя гурткі ў сельскай і гарадзкой школе.

VI. Краязнаўства і грамадзка-карысная праца школы.

VII. Мэтад проекту, як мэтад вытворча-краязнаўчы.

VIII. Падлік краязнаўчай працы школы (програмны і па-за школьны).

IX. Краязнаўства ў шольных падручніках 1 і 2 канцэнтру.

X. Краязнаўчая праца політасьветных установ (хат-чытальняў, бібліотэк, музэяў і г. д.).

**Г 2. Практычная частка для сельска-гаспадарчых навучальных установ.**

I. Аграном і краязнаўства. Што можа даць краязнаўства для аграномічнай працы.

II. Вывучэньне агрораёну сіламі агропэрсоналю і дапамога ў гэтым краязнаўчых організацый і школы.

III. Способы вывучэньня тэхнікі сялянскае гаспадаркі пры дапамозе анкетнага і монографічнага мэтаду.

VI. Бюджэтныя апісаньні сялянскае гаспадаркі.

V. Картографаваньне краязнаўчых матар'ялаў.

VI. Краязнаўчая праца сельска-гаспадарчых гурткоў.

VII. Краязнаўчая праца савгаспадарак.

VIII. Вывучэньне гісторыі мясцовае агрокультуры.

IX Вывучэньне гісторыі колектыўных пачынаньняў у гаспадарцы.

X. Роля краязнаўчых організацый у агропропагандзе.

XI. Роля агранома ў краязнаўчым таварыстве, як галоўнага консультанта па вывучэньні прыроды і сельскай гаспадаркі краю.

XII. Краязнаўства ў агрономічным габінэце, сельска-гаспадарчым музэі пры агропункце, пры саўхозе.

XIII. Сялянскія выстаўкі і краязнаўства.

XIV. Сяляне дасьледчыкі, як краязнаўцы.

XV. Лесавод, як краязнаўца.

XVI. Лесаўпарадкаваньне і яго выкарыстаньне краязнаўчымі організацыямі.

XVII. Ахова прыроды (лясоў, фауны і г. д.) пры дапамозе краязнаўцаў.

XVIII. Выкарыстаньне гідролёгічных работ краязнаўчымі організацыямі і іхні ўдзел у гэтых работах (гідролёгічныя нагляданьні).

**Г 3. Практычная частка для мэдычных навучальных установ.**

I. Мэдыка-санітарнае вывучэньне краю як аснова і прадпасылка профіляктыкі.

II. Саніт.-статыстычныя і соцыяльна-гігіенічныя дасьледваньні.

III. Клінічна-статыстычныя дасьледваньні.

IV. Вывучэньне мінэральных крыніц і лекавых траў.

V. Вывучэньне мясцовай народнай мэдыцыны.

VI. Вывучэньне фольклёру датычнага мэдычна-санітарных пытаньняў і зьбіраньне народнай мэдычнай тэрмінолёгіі.

VII. Вывучэньне гісторыі мэдыцыны ў краі.

VIII. Роля мэдыка-санітарнага працаўніка ў мясцовым краязнаўчым руху.

IX. Мэдыка-санітарныя выстаўкі і краязнаўства.

X. Мэдыка-санітарныя музэі і дамы санасьветы і краязнаўства.

XI. Санітарныя асьветныя куткі хат-чыталень і краязнаўства.

---

**Рак Р. П.**

Сакратар камісіі для вывучэньня хатніх рамёстваў пры ІБК.

# Інструкцыя для вывучэньня базараў*).

Праца па вывучэньню базараў зьяўляецца надзвычайна ўдзячнаю, як па свайму характару, так і па лёгкасьці выкананьня. Школы, раённыя краязнаўчыя організацыі, краязнаўчыя гурткі могуць лёгка з ёю справіцца. Разам з тым, даная праца, пры сыстэматычным яе выкананьні, зможа даць каштоўны матар'ял. Яна можа выявіць характар данага базару, суму яго продажаў і пакупак, характар гаспадаркі раёну, які цягнецца да данага базару, і выявіць экономічную моц таго паселішча, дзе адбываюцца базары—гэта значыць даць адказ на тыя пытаньні, якія, пакуль што, застаюцца мала высьветленымі для гаспадарчых органаў, асабліва ў галіне вясковага гандлю. Гэта праца і з пункту гледжаньня пэдагогікі ня толькі зьвяжа школу з сучаснасьцю, надасьць навучальнаму пляну гастрату дню, але, што яшчэ важней, прывядзе вучняў да грунтоўнага вывучэньня карты свайго раёну і яго экономічнага становішча, да практычнага азнаямленьня з сутнасьцю статыстычнага мэтаду і дапаможа разьвіцьцю сьвядомасьці колектыўнай адказнасьці за працу, якая выконваецца. Для гарадзкіх-жа вучняў такая праца каштоўна тым, што азнаёміць іх з характарам гаспадаркі нашае вёскі і дасьць ім орыентыроўку ў куплі, продажу і цэнах.

### Організацыя працы.

Вывучэньне лепш усяго правесьці ў парадку гурткавой працы (гурток грамадазнаўства, краязнаўства, экономічнай географіі і інш.) альбо з старэйшымі групамі вучняў. На агульным сходзе гуртка, альбо групы кіраўнік павінен зрабіць інформацыю аб мэтах і значэньні вывучэньня, а таксама і абраць камісію, для правядзеньня падрыхтоўчай працы.

Падрыхтоўчая праца абымае наступныя моманты: 1—атрыманьне ад адміністрацыйных ворганаў дазволу дзеля выкананьня данае працы, 2—складаньне проекту досьледу, 3—складаньне працоўнае інструкцыі да проекту досьледу, 4—падрыхтоўка неабходнага ліку блянкаў, картак, сьпісаў.

Сябры данае камісіі ў далейшым будуць кіраваць і самай распрацоўкай матар'ялу. Лепш усяго правесьці пробнае вывучэньне якога небудзь аднаго пункту для высьвятленьня розных непрадбачаных перашкод. Адначасова з гэтым гурток, альбо група прапрацоўваюць наступныя дзьве тэмы: „Межы раёну і яго адміністрацыйны падзел“ і „што такое статыстычны мэтад“. Тэмы, бязумоўна, могуць быць разьбіты і на падтэмы ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

Калі камісія падрыхтуе проект досьледу і неабходныя інструкцыі, тады зноў склікаецца агульны сход гуртка для іх разгляду і зацьвярджэньня. На гэта паседжаньне павінен быць заклікан прадстаўнік статыстычнага воргану (раённы статыстык ці статыстык па сельсавету) для ўзгадненьня проекту з заданьнямі апошняга. На гэтым жа сходзе вызначаюцца рэгістратары і кіраўнікі, якія разьбіваюцца на групы ў залежнасьці ад ліку пунктаў вучоту. Адначасна абіраецца ка-

*) Інструкцыя напісана паводле артыкула В. В. Панятоўскага „Из практики обследования базаров „Краеведение“, том 4 за 1927 г.

місія па назіраньню за пагодай і станам дарог (калі не вядзецца пастаянных назіраньняў), а таксама камісія па рэгістрацыі цэн у дзень базару.

Пасьля гэтага кожная група знаёміцца: 1—з сваім пунктам, дзе яна будзе праводзіць рэгістрацыю; 2—грунтоўна вывучае карту тэй мясцовасьці, адкуль ідзе рух, галоўным чынам азнаёміцца з залюднёнымі пунктамі, сьпіс якіх лепш усяго скласьці ў альфабэтным парадку з паказаньнем адлегласьці да рынку; 3—падрыхтаваць бланкі для рэгістрацыі; 4—навучыцца скарочана пісаць назвы тавараў; 5—даскана вывучыць інструкцыю; 6—папрактыкавацца ў лікавым азначэньні тавараў, прыкладам: пэўна вызначыць вагу мяшка жыта, аўса, бульбы, лік яек у кошыку вызначнага памеру і гэтак далей. Такая падрыхтоўка будзе мець надзвычайнае значэньне пры вучоце ліку тавараў; 7—перад выхадам на працу кожны кіраўнік павінен скласьці сьпіс членаў сваёй групы і ўстанавіць парадак дзяжурства; 8—кожная група павінна мець аловак на рэгістратара, ножык і што небудзь, на чым можна было-б пісаць; 9—калі вывучэньне адбываецца зімою, дык неабходна мець запас дроў для вогнішча; 10—кожны рэгістратар павінен ясна ўяўляць сабе адказ на запытаньне селяніна аб мэтах рэгістрацыі; 11—камісія па нагляданьню за пагадою зараз жа прыступае да працы (чым раней, тым лепш), адзначае тэмпэратуру, ападкі, напрамак вятроў і г. д. (у залежнасьці ад наяўнасьці адпаведных прылад), а таксама вывучае стан дарог. Перад самым днём досьледу яна робіць справаздачу аб сваёй працы агульнаму сходу і вызначае мажлівую пагоду на наступны дзень. 12—камісія па рэгістрацыі цэн разьбівае рынак на вучасткі, калі базар адбываецца ў некалькіх мясцох, і прымацоўвае рэгістратараў да кожнага вучастка, альбо па роду тавараў (адзін рэгіструе цэны на жывёлу, другі—на хлеб і г. д.). Камісія абавязкова знаёміцца па матар'ялах статыстыкі з цэнамі, якія раней стаялі на розныя тавары. Гэта неабходна для таго, каб, у выпадку няправільнага адказу, не зарэгістраваць няіснуючай цаны і ўнесьці адпаведную папраўку.

### Праца ў дзень рэгістрацыі.

У дзень рэгістрацыі школа павінна быць месцам штабу. Там павінен абавязкова дзяжурыць адпаведны кіраўнік на выпадак непрадбачаных інцындэнтаў і які-б у любы момант змог даць неабходныя тлумачэньні месцам. Надзвычайна пажадана, каб адказны працаўнік (пэдагог альбо хто небудзь іншы) пабываў на мясцох рэгістрацыі і там унёс адпаведныя паказаньні. Нявыпраўленыя своечасова памылкі могуць патрабаваць шмат часу на выпраўленьні пры распрацоўцы, альбо, наогул, якасна пагаршаць матар'ял. Неабходна таксама прасачыць, каб усе рэгістратары своечасова пачалі працу і не пакідалі пункту без дзяжурных.

На мясцох рэгістратары павінны выбраць найбольш падыходзячае месца. Пажадана мець столік. Пытаньні павінны задавацца каротка і ясна. Лішніх пытаньняў ня трэба задаваць. Калі рэгістратару відаць, што і колькі вязе селянін, дык няма ніякага сэнсу і задаваць пытаньні. Калі рэгістратар сумняваецца ў ліку тавараў, дык неабходна запытаць: „Колькі вязеш?“ Калі селянін гаворыць вачавідную няпраўду, дык трэба пастарацца растлумачыць значэньне правільнага адказу. Калі-ж ён упарта не жадае даваць правільнага адказу—прыставаць не патрэбна. У такім выпадку неабходна ў сьпісу адзначыць „адмовіўся“. Наогул рэгістратар павінен быць далікатным, бойкім, хутка знаходзіць адказы на розныя запытаньні і г. д. Пры такіх адносінах можна лёгка заваяваць

сымпатыі насельніцтва, што ў сваю чаргу зьяўляецца абавязковай умовай атрыманьня дабраякаснага матар'ялу.

**Організацыя распрацоўкі.**

Распрацоўку лепш за ўсё весьці ў клясе, чым дома. Пры распрацоўцы ў клясе лягчэй кіраваць, лягчэй дасягнуць большай аднолькавасьці ў прыёмах працы, большай організаванасьці, адным словам— паставіць працу з карыстаньнем прынцыпаў навуковай організацыі працы. Пры распрацоўцы абавязкова ўжываць шчоты, ня лічучыся з тым, што частка вучняў ня зусім добра імі ўладае. Неабходна пераканаць вучняў, каб яны з пашанай адносіліся да статыстычных падлічэньняў. Усякая „падтасоўка" недапусьціма, бо яна робіць зусім некаштоўным матар'ял і патрачаную працу не карыснай. Пры разыходжаньні падрахункаў абавязкова трэба знаходзіць памылкі. Пасьля атрыманьня падрахункаў па асобных пунктах кіраўнікі груп зводзяць іх у агульныя табліцы. Лікавыя даныя заносяцца на дыяграмы і картаграмы. Пажадана зрабіць наступныя дыяграмы: 1—Разьмеркаваньне фурманак і сёл у залежнасьці ад адлегласьці да рынку. 2—Лік фурманак парожніх і з таварам. 3—Разьмеркаваньне па кошту тавараў, якія прывозяцца і вывозяцца. 4—Разьмеркаваньне фурманак па сельсаветах альбо вёсках. 5—Па карце адзначыць усе вёскі, з якіх прыяжджалі на рынак. 6—Зварот па сельсаветах альбо па вёсках. 7--Лік людзей па с-саветах. 8—Цэны на галоўныя тавары. Непажадана прымушаць вучняў рысаваць розныя малюнкі, бо часу на гэту справу затрачваецца шмат, а вынікаў ад яе з пэдагогічнага боку амаль ніякіх.

Калі падлік і дыяграмы будуць гатовы, складаецца справаздача аб зробленай працы, у якой неабходна адзначыць організацыю вывучэньня, лік удзельнікаў, затрачаны час, спрыяючыя і неспрыяючыя ўмовы, недахопы ў працы і г. д. і даць падрахункі вывучэньня ў табліцах з адпаведнымі вывадамі аб стане рынку. Справаздачу неабходна зрабіць на агульным сходзе і паслаць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце, Райвыканком і інш.

**Складаньне проектаў.**

Посьпех працы ў значнай меры залежыць ад таго, як будзе складзен плян працы. Асноўныя пытаньні проекту, якія патрабуюць грунтоўнай распрацоўкі, наступныя: 1—*Выбар дня вывучэньня.* Днём вывучэньня лепш за ўсё пажадана мець дзень звычайнага базару. Пры наяўнасьці сіл вельмі пажадана вывучэньне базару праводзіць кожны месяц. Калі-ж гэта не мажліва, дык можна абмежавацца атрыманьнем падрахункаў па сэзонах (восеньню, зімою, вясною і летам). Ня менш важна вывучаць і ярмаркі, калі такія бываюць. 2—*Пункты рэгістрацыі* неабходна вызначыць так, каб па мажлівасьці не прапусьціць ні воднага пешахода і ні аднэй фурманкі і, з другога боку, не рабіць падвойнай рэгістрацыі. У вялікім паселеным пункце павінны быць вывучаны ўсе маршруты руху, як пешаходаў, так і фурманак. На першы погляд усё гэта здаецца простым, але ў сапраўднасьці па географічных і топографічных умовах досыць часта сустракаюцца вялікія перашкоды правільнай рэгістрацыі. Калі пункт рэгістрацыі вызначан далёка ад базарнай плошчы, дык атрымаецца недавучот тавараў, бо жыхары слабодаў, якія таксама дастаўляюць продукты на базар, у рэгістрацыю не пападуць. Калі ж пункт выбран каля самага базару, дык можа здарыцца збыт продуктаў да застаў і пры рэгістрацыі атрымаецца вялікі процант парожных фурманак і людзей без тавараў. Лепш для застаў выбіраць масты, бо на іх лягчэй сустракаць і фур-

манкі і пешаходаў. Вызначаныя пункты неабходна нанесьці на схэматычную карту. 3—*Час рэгістрацыі.* Працу пажадана распачаць па мажлівасьці раней. Але дзякуючы таму, што ў нашых умовах і пры добрай пагодзе звычайна едуць і ноччу, дык нейкі лік фурманак у рэгістрацыю усё-ж не пападзе. Дзяжурыць-жа з вечару няма сэнсу, а зімою і наогул немагчыма. Летам фурманкі, якія прыехалі ноччу, часьцей за ўсё спыняюцца на самым рынку, дзе іх і можна зарэгістраваць у пачатку працы, напрыклад:—калі рэгістрацыя вызначана ў 5 гадзін раніцы, дык у гэты-ж час неабходна абыйсьці ўсе плошчы і запісаць, тых асоб, якія там ужо будуць. Гэтак сама неабходна будзе зрабіць і па сканчэньні рэгістрацыі, адносна тых асоб, якія яшчэ не паехалі з базару. Пытаньне, калі пачынаць працу, вырашаецца ў залежнасьці ад пары году, пачатку базара і ліку рэгістратараў. 4—*Програма вывучэньня.* Зьмест програмы вывучэньня можа быць самы розны, усё залежыць ад сіл. Як мінімум можна абмежавацца наступнымі пытаньнямі: 1—Адкуль едзе ці ідзе, 2—што вязе і колькі? Пры гэтым мажліва рэгістраваць толькі прыбываючых, альбо выбываючых, можна абмежавацца толькі ходкімі таварамі і г. д. Пры наяўнасьці сіл лепш за ўсё рэгістраваць, як прыбываючых, так і выбываючых. У пашыраную програму можна ўнесьці і такія пытаньні: як-дзе купіў (у дзяржаўнай краме, коопэратыве, у прыватніка і г. д.), лік непрададзенага тавару і г. д. 5—*Форма сьпісу.* Рэгістрацыя можа адбывацца спосабам унясеньня кожнай фурманкі ў сьпіс, альбо на картку. Сьпіс больш лёгкая форма для школ, бо яна не патрабуе лішніх выдаткаў на друкаваньне, але за тое пры сьпісавай форме адымаецца шмат часу на распрацоўку матар'ялаў. Пры рэгістрацыі па сьпісках трэба мець наступныя формы: № 1 для прыбываючых і № 2 для выбываючых фурманак, для прыбываючых і выбываючых пешаходаў форма № 2 і 4. Пад кожным нумарам заносіцца толькі адна фурманка. Графы 2 і 4 (глядзі дадатак) пры рэгістрацыі не запаўняюцца. Неабходныя весткі ў гэтыя графы ўносяцца ў час распрацоўкі. Пры рэгістрацыі пешаходаў пад адным нумарам можа значыцца група ў 2-3 асобы, але ў гэтым выпадку ў адпаведную графу трэба паставіць—колькі чалавек у групе.

Пры апытаньні надзвычайна вялікае значэньне мае тэхніка запаўненьня бланкаў. Непавінна быць ніводнага лішняга слова і ні аднэй лішняй літары. Павінна быць складзена добрая інструкцыя і праведзена неабходная падрыхтоўка да досьледу. Іначай будзе шмат пропускаў, альбо затрымак, што можа выклікаць у сваю чаргу нездавальненьне насельніцтва. Вывучэньне трэба паставіць так, каб яно, памажлівасьці, менш выклікала клапот у сялян. 6—*Лік рэгістратараў* вызначаецца лікам застаў, лікам зьмен на заставах і зьместам програмы, для аднаго пункту—бойкасьцю руху. Пры пастаянным руху ў абодвы бакі пажадана, каб працавала ня менш 4-х асоб, прычым кожнаму вызначаецца адно якое небудзь заданьне. Звычайна бывае досыць двух рэгістратараў. Групы, якім даручан вучот цэн, ходзяць па базару і адзначаюць у раней падрыхтаваныя бланкі цэны. У мэтах пасьпяховасьці кожная група запісвае пэўныя гатункі тавараў. Прычым у час базару яна павінна зарэгістраваць адзін і той-жа тавар 3 разы: спачатку базару, у самы разгар і пры раз'езьдзе.

**Распрацоўка.**

Распрацоўка сабраных даных распадаецца на тры процэсы: контроль і падрыхтоўка матар'ялу, падлік і складаньне табліц, складаньне справаздачы.

*Падрыхтоўка.* Кіраўнік данага пункту па атрыманьні матар'ялу перш за усё на кожным запоўненым аркушы ставіць лічбы: рымскія для вызначэньня пункту рэгістрацыі і арабскія для вызначэньня катэгорый тых, хто рэгіструецца: 1—выежджаючыя фурманкі, 4—адбываючыя пешаходы; правярае па сутнасьці запоўненыя графы; запаўняе прапушчаныя графы; 2 (назва сельсаветаў) і 4 (адлегласьці ад базару, карыстаючыся сьпісам населеных месц, калі ён маецца).

Пры гэтым неабходна сачыць, каб назвы сельсаветаў альбо сёл былі правільна напісаны. Усе заўважаныя памылкі і пропускі кіраўнік выпраўляе сам, альбо з дапамогай рэгістратара, які запаўняў аркуш. Калі памылкі выправіць нельга, дык увесь радок падкрэсьліваецца каляровым алоўкам і ў разруханак не бярэцца.

*Падлік.* Перад падлікам неабходна ўстанавіць клясыфікацыю тавараў. У залежнасьці ад раёну клясыфікацыя можа быць самая розная. Але для таго, каб можна было рабіць падагульненьне ў маштабу раёну, альбо акругі, неабходна ўстанавіць наступныя групы тавараў:

I—Хлеб (жыта, жытняя мука, пшаніца, пшанічная мука, проса, пшано, грэчка, авёс, каноплі, сем'е, бульба і інш.).

II—Сена, салома, віка.

III— Пянька, лён, (валакно), воўна.

IV—Жывёла (коні, жарабяты, каровы, цяляты, авечкі, сьвіньні, парасяты, козы, а таксама і куры, гусі, качкі індыкі).

V—Продукты жывёлагадоўлі: мяса, ялавічына, сьвініна, бараніна, сала, малако, розныя малочныя продукты, шкуры, аўчына, шэрсьць, яйкі.

VI—Апал (дровы, торф).

VII—Вырабы хатніх рамёстваў: апрацоўка дрэва (бароны, сохі, граблі, абады, колы, дугі, палазы, начоўкі, бочкі, баклажкі, цабры і інш.). Апрацоўка валакна (палатно розных гатункаў, ручнікі, абрусы, коўдры, пасьцілкі, сукно і інш.); апрацоўка жалеза (лапаты, сякеры і інш.); апрацоўка гліны (гліняная пасуда і інш.).

VIII—Хатняе начыньне (самавары, пасуда, машыны і інш.).

IX—Сэзонныя тавары (садавіна, агародніна і інш.).

X—Лес (бярвеньне, дошкі і інш.).

Купленыя ў крамах тавары прамысловасьці можна падзяліць так: мануфактура, мэталёвыя рэчы, скуры, запалкі, табак, пасуда, мыла, газа, галянтарэя, соль, рыба і інш.

Падлік вядзецца паводле запоўненых табліц. Пры сьпіскавай форме для падліку неабходна карыстацца рыскамі. Сутнасьць гэтага прыёму ў наступным—напрыклад, трэба падлічыць лік тавараў: у такім выпадку бярэцца чысты аркуш паперы, і на ім пішуцца назвы тавараў у прынятым парадку. (На аркушы неабходна зрабіць адпаведную адзнаку, да якога пункту і да якой групы тавараў адносяцца даныя тавары). Далей адзін рэгістратар чытае запоўнены аркуш: напрыклад, жыта 50 кілёграм, аўса 20 і г. д., а другі насупраць адпаведнай назвы ставіць лік. У выніку проціў кожнай назвы, можна падвесьці два падагульненьні: лік партый і лік прывезенага тавару. Прыблізна ў такім парадку можна весьці ўсю распрацоўку. Дзякуючы таму, што пры распрацоўцы можна рабіць самыя розныя комбінацыі, дык раней неабходна вызначыць мінімум пытаньняў, на якія трэба атрымаць падрахункі пры ўсякім вывучэньні. Да гэтага мінімуму адносяцца наступныя пытаньні: 1—лік заселеных пунктаў, з якіх прыехалі на базар, 2—лік фурманак з таварамі і парожных, 3—лік пешаходаў з таварамі і без тавараў, 4—лік асоб, якія справаджаюць фурманкі, 5—лік тавараў (вагою і коштам) прывезеных і вывезеных,

і вывезеных не праданых купленых 6—разьмеркаваньне сёл, фурманак як парожніх, так і з таварамі, справаджаючых фурманкі і пешаходаў у залежнасьці ад адлегласьці (да 5 кілёмэтраў, 6-10, 11-15, 16-20 і г. д.) 7—разьмеркаваньне тавараў, якія прывозяцца і вывозяцца па сельсаветах, альбо па вёсках 8—сялянскі зварот базару наогул і паасобку для хлеба, жывёлы і інш. Данымі пытаньнямі бязумоўна ня можа быць вычарпана праца па вывучэньню. Пры наяўнасьці сіл можна ўзяць для распрацоўкі і іншыя пытаньні.

Чым хутчэй заканчываецца распрацоўка, тым каштоўней атрыманы матар‘ял.

Форма № 1.

Вывучэньне базару__________„ “ дню 192 г.

## Рэгістрацыя прыяжджаючых фурманак.

Пункт (застава)__________Рэгістратар__________

| № чарговы | Сельсавет | Вёска | Кілёмэтраў да базару | Лік справаджаючых | Што вязе | Лік | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Кілёграмы | Штукі | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | | | |

Форма № 2.

Вывучэньне базару__________„ “ дню 192 г.

## Рэгістрацыя прыбываючых пешаходаў.

Пункт__________Рэгістратар__________

| № чарговы | Сельсавет | Вёска | Кілёмэтраў да базару | Лік асоб у групе | Што нясуць | Лік | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Кілёграмы | Штукі | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | | | | |

Форма № 3.

Вывучэньне базару ______ „ " дню 192 г.

## Рэгістрацыя выяжджаючых фурманак.

Пункт ______ Рэгістратар ______

| № чарговы | Сельсавет | Вёска | Адлегласьць ад базару | Лік асоб справаджаючых | Што вязе купленае | Лік | | Што не прадана | Лік | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Кілёгр. | Штукі ці мэтры | | Кілёгр. | Штукі ці мэтры | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

Форма № 4.

Вывучэньне базару ______ „ " дню 192 г.

## Рэгістрацыя пешаходаў, якія пакідаюць базар.

Пункт ______ Рэгістратар ______

| № чарговы | Сельсавет | Вёска | Адлегласьць ад базара | Лік асоб у групе | Што купілі | Лік | | Што не прадана | Лік | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Кілёгр. | Штукі ці мэтры | | Кілёгр. | Штукі ці мэтры | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

Форма № 5.

## Папярэднія весткі.

Вывучэньне базару ______ „ " дню у вёсцы ці мястэчку ______

| № чарговы | Пункты рэгістрацыі | Насялёных пунктаў | | Фурманак усяго | | У тым ліку парожн. | | Лік справаджаюч. | | Пешаходаў усяго | | У тым ліку без тав. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У горад | З гораду | У горад | З гораду | У горад | З гораду | У горад | З гораду | У горад | З гораду | У горад | З гораду | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | | | | | | | | | |

Форма № 6.

## Разьмеркаваньне даных па сяленьнях.

Вывучэньне базару ____________ „ “ дню 192 ____ г.

| № чарговы | Вёскі | Адлегласьць да базару | Лік фурманак | | | Лік справаздж. | Жыта | | Авёс | | і г. д. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | З таварам | Парожных | Разам | | Партый | Кілёграм | Партый | Кілёграм | Партый | Кілёграм | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | | | | | | | | |

Форма № 7.

## Разьмеркаваньне сяленьняў і фурманак па адлегласьці.

Вывучэньне базару ____________ „ “ дню 192 ____ г.

| № чарговы | Пункты рэгістрацыі | Лік вёсак | Лік фурманак | да 5 кілём. | | ад 6 да 10 | | 11—15 | | 16—20 | | 21—25 | | 26—30 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | сяленьн. | фурманак | сяленьн. | фурманак | сяленьн. | фурманак | фурманак | фурманак | сяленьн. | фурманак | сяленьн. | фурманак |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | | | | | | | | | | | |

Форма № 8.

## Весткі аб прывозе і вывазе тавараў.

Вывучэньне базару ____________ „ “ дн. 192 ____ г.

| № чарговы | Сельсавет альбо сяло | Прывезена | | | | % | У сярэдн. на 1 парт. | | Вывезена не праданым | | | % | У сярэдн. на 1 парт. | | Прадана | | | % | У сярэдн. на 1 парт. | | Куплена | | | % | У сярэдн. на 1 парт. | | Куплена | | Зварот | | % | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Партый | Кілёграм | Цана | Сума | | Кілёграм. | Сума | Партый | Кілёгр. | На суму | | Кілёгр. | Сума | Партый | Кілёгр. | Сума | | Кілёгр. | Сума | Партый | Кілёграм | Сума | | Кілёграм | Сума | Больш | Менш | У кілёгр. | У рубл. | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

*Пасяджэньне 20/4—28.*

Заслуханы і прыняты пад увагу пратаколы Навукова-мэтодолёгічнага камітэту Наркамасьветы ад 14/4, Прэзыдыуму ІБК ад 9/4, праўленьньня Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства, ліст старшыні Беларускага навуковага гуртка ў Рызе гр. Езавітава аб высылцы часопісу „Наш Край“. Прынята пастанова аб абмене выданьнямі ЦБК з 5 нямецкімі краязнаўчымі часопісамі. Зацьверджаны плян працы ЦБК на 1928-29 г.

*Пасяджэньне 27/4.*

Зацьверджаны пэрспэктыўны плян працы ЦБК на 1928/29 1932/33 акад. гады і каштарыс на гэты час. Заслуханы пратаколы праўленьня Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства і 4 Аршанска-Акруговай Краязнаўчай конфэрэнцыі ад 25/26 сакавіка г. г. Намечаны плян № часопісу „Наш Край“, прысьвечанага згодна конкурсу падпіскі Мазырскай акрузе. Прынята пастанова паведаміць аб гэтым Мазырскае акруговае т-ва.

*Пасяджэньне 4/5.*

Былі заслуханы даклады: 1) т. Касьпяровіча аб маршрутах экскурсій па фабрычназаводзкіх прадпрыемствах Менску, 2) Шашалевіча аб „нескарыстаных матар‘ялах рэдакцыі „Нашага Краю“, 3) т. Аляксандрава аб пляне курсу краязнаўства ў Вузах. 5) т. Бядулі аб зьмесьце чарговых №№ „Нашага Краю“. Інформацыі аб сутнасьці першых чатырох дакладаў ухвалена зьмясьціць у „Нашым Краі“. Разгледжана згодна інформацыі Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі пытаньне аб заснаваньні Краязнаўчай перасовачнай бібліотэкі пры Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы. Даручана т. Казаку, умовіцца з бібліотэкай аб спосабах забясьпечаньня мясцовых краязнаўцаў кнігамі з перасовачнага фонду. Заслуханы і прыняты да ведама пратаколы Віцебскага і Бабруйскага акруговых т-ваў.

*Пасяджэньне 11/5.*

Заслуханы даклады: т. Макарэўскага аб працы сеткі мэтэоролёгічных станцый на БССР і т. Жураўскага яб працы сеткі фэнпунктаў на БССР. Прынята пастанова даклад т. Макарэўскага заслухаць увосені на пашыраным пасяджэньні ЦБК (пленуме) з удзелам прадстаўнікоў ад зацікаўленых устаноў. Даручана фэнкомісіі ў бліжэйшы час дасканала выявіць існуючыя фэнпункты, дабіцца сваячасовага паступленьня фэннагляданьняў і надрукаваць у бліжэйшым № „Нашага Краю“ абагульненьні фэнматар‘ялаў за ліпень-сьнежань—1927 г. Зацьверджаны плян экспэдыцый ЦБК на 1927-28 ак. год (проект т. Касьпяровіча). Падтрымана перад Наркамасьветы хадайніцтва старшыні Магілеўскага Акруговага т-ва краязнаўства т. Вянюкова аб навуковай яго камандыроўцы ў Нямеччыну. Быў зачытаны ліст старшыні Мазырскага акр. т-ва т. Крукоўскага аб матар‘ялах т-ва для № „Нашага Краю“, прысьвечанага Мазыршчыне. Заслуханы пратаколы прэзыдыуму ІБК, 4 Віцебскай Акруговай Краязнаўчай конфэрэнцыі і Гомельскай Акруговай Краязнаўчай конфэрэнцыі. Прынята пастанова запытацца ў Гомельскага акр. т-ва аб прычынах незапрашэньня ЦБК на конфэрэнцыю і камандыраваць прадстаўніка ЦБК у Гомель у часе працы настаўніцкіх курсаў для прачытаньня лекцый па краязнаўству і наладжваньня ў акрузе краязнаўчай працы. Прынята пастанова аб высылцы зборніка „Асіпавіцкі раён“ ч. І усім раённым т-вам краязнаўства, якія зьяўляюцца падпісчыкамі „Нашага Краю“. Прынята пастанова аб камандыраваньні ў Полацкую акругу інструктара А. Шашалевіча.

*Пасяджэньне 25/5.*

Разгледжана пытаньне аб экспэдыцыі ЦБК летам 1928 г. Прынята пастанова аб уключэньні ў склад экспэдыцыі т. Сербава. Зацьверджаны зьмест № 6-7 „Нашага Краю“ за 1928 г. Прынята пастанова аб неабходнасьці ўнясеньня краязнаўчых пытаньняў у праграму летніх перападрыхтоўчых курсаў для настаўніцтва, для чаго прапанована акруговым т-вам узгодніць гэта пытаньне з Інспэктарыятамі Асьветы. Заслухана інформацыя аб пяцігадовым юбілеі працы Слуцкага т-ва краязнаўства. Прынята пастанова ра-

іць т-ву з дню гадавіны пачаць выданьне свайго краязнаўчага часопісу.

*Пасяджэньне 8/6.*

Заслухана справаздача аб працы Слуцкага раённага т-ва краязнаўства — даклад т. Мікіцінскага. Праца т-ва прызнана здавальняючай. Прынята пастанова прасіць Мэдбюро высьветліць пытаньне аб організацыі ў Слуцку мэдстанцыі, прасіць РВК даць пад Слуцкі музэй лепшае памяшканьне. Заслухана справаздача т. Шашалевіча аб яго командыроўцы ў Полацкую акругу. Згодна запрашэньню, прадстаўніком ад ЦБК на пленум камісіі па вывучэньні вытворчых сіл вылучаны т. Казак. Заслуханы протаколы праўленьняў Слуцкага і Бабруйскага т-ваў краязнаўства і прэзыдыуму ІБК за № 34, 33, 35.

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя „Нашага Краю“ у траўні і чэрвені м-цах.

Ад М. Бялугіна (в. Пацэнкі Лядн. р.) дапоўненая програма па вывучэньні асаблівасьцяў беларускіх гаворак.

Ад М. Караленкі (Мокрае, Бых. р.)—запоўненая програма па вывучэньні асаблівасьцяў бел. гаворак.

Ад Х. Клімянка—слоў жывой мовы 20 і некалькі прыказак.

Ад Даўнара Болеся (Плоскае, Вузьдз. р.)—прыказкі 20.

Ад П. Котава (Езярышч. р., в. Панкры)—нар. песьні 22.

Ад А. Длугаканскага (Мсьціслаў)—вясельных песень 169.

Ад Аўгена Галадкоўскага (Быхаў) песень 120.

Ад Ф. Дзянісенкі (Наркі, Чэрык. р.), С. Шандарэўскага (в. Панкры, Езярышч. р.) і В. Багданава (Межынскі р., в. Гараватка)—песень 40.

Ад Коханаўскага раённага т-ва краязнаўства зборы вучняў Коханаўскае 7-кі песень 244, прыпевак 337, загадак 227, пагаворак 188, казак 12, загавораў 5.

Ад Мазырскага акруговага т-ва краязнаўства артыкулы: 1) М. Асьвяцінскі. „Дзяржаўная прамысловасьць Мазыршчыны“, 2. М. Шакін. „Сельская гаспадарка Мазыршчыны за 10 год“, 3) С. Кацнэльсон. „Лясная гаспадарка Мазыршчыны за 10 год“.

Ад Барысаўскага раённага т-ва краязнаўства артыкул В. Самцэвіча і Стрыгуцкага „Прамысловыя прадпрыемствы г. Барысава“.

Ад В. Канцавога (Магілеў). „Апісаньне в. Галалобаўкі Дрыбінскага р.

Ад т. Абрамовіча (Мозыр) „Аб лячэньні людзей, пакусаных шалёнымі сабакамі“.

Ад С. Марозава. „Шкоднікі садоў г. Пятрыкова Мазыр. акр“.

Ад М. Архіпава. „Праца Круглянскага т-ва краязнаўства“.

Ад Волынецкага раённага т-ва краязнаўства „Апісаньне Волынецкага кірмашу“.

Ад т. Мікіцінскага. Аб дзейнасьці Слуцкага раённага т-ва краязнаўства з 1/1-1/6-28 г.

## Матар'ялы Рэдакцыі „Нашага Краю“, якія не надрукаваны.

### I. Грамадзка-экономічнае вывучэньне краю:

1. І Ягуноў. *„Границы экономического обследования минерального сырья“*. Артыкул намячае прынцыпы сыстэматычнага вывучэньня запасаў карысных выкапняў і з прычыны свайго вельмі агульнага характару ня зьмешчаны ў „Нашым Краі“.

2. **Курыловіч**. *„Харчаваньне вясковага насельніцтва Беларусі“*. Актуальная тэма аб тым, чым корміцца народ, што ён есьць, аўтарам разьвязваецца ў вельмі агульных і ня новых рысах. Значная частка артыкулу занята высьвятленьнем пытаньня аб умовах нормальнага, здаровага кармленьня. Што датычыцца кармленьня вясковага насельніцтва Беларусі, дык яно характэрызуецца 11 табліцамі, пададзенымі аўтарам, і 2 параўнальнымі табліцамі кармленьня насяленьня ў іншых краінах і ў РСФСР. Адносна табліц і іх крыніц можна спрачацца, з прычыны чаго і артыкул набывае спрэчны характар.

3. №. *„Абсьледваньне насельнасьці і пісьменнасьці Сьмілавіцкага раёну“*. Кароткая заметка, няма зусім прынцыпаў правільнага статыстычнага абсьледваньня.

4. **Т. Пяскоўскі**. *„Лекарственное сырье“*. Артыкул зьмяшчае цікавыя і каштоўныя даныя, але ня мае пэўнага, выразнага пляну і мясцовай (беларускай) орыентацыі. Артыкул неабходна перапрацаваць, надаўшы яму краязнаўчы характар і прынцыповай установкі.

5. **Я. Тараноўскі**. *„Аб беларускіх прозьвішчах“*. Вельмі цікавы артыкул, грунтоўна аналізуючы пахаджэньне і зьмест беларускіх прозьвішчаў. Разьмер артыкулу, а таксама і агульнасьць пытаньня ня далі магчымасьці зьмясьціць у чыста краязнаўчым часопісе, якім ёсьць „Наш Край“.

6. **Е. Цэхановіч**. *„Жыльлёвы крызіс і акрархівы“*. Аўтар узьнімае вельмі гострае пытаньне аб стане акруговых архіваў, якія часта гінуць з прычыны адсутнасьці належных памяшканьняў і ўвагі органаў улады. У прыватнасьці аўтар дае жудасны малюнак катастрофічнага стану, у якім знаходзіцца перавезены з Горак у Воршу вясною 1927 г. Горацкі павятовы архіў. Артыкул па свайму характару падыходзіць да газэты, як патрабуючы непасрэдных, тэрміновых, неадкладных мерапрыемстваў. ЦБК у свой час зрабіла ўсё, што залежала ад яго, каб вырашыць пытаньне, зачэпленае т. Е. Цэхановічам.

7. **І. Шыпіла**. *„Рэлігійныя сьвяты ў беларускіх прыказках і песьнях“*. Кароткае апісаньне абрадаў на дзяды, радаўніцу, вялікодных абрадаў і песьняў. Усё гэта не датавана. Як цікавыя матар'ялы, перададзены ў этнографічную камісію.

8. **Я. Гарасімовіч**. *„Сьвяткаваньне купальля“*. Павярхоўнае і кароткае апісаньне.

9. **М. Гарэцкі**. *„Усправе слоўніка І. Насовіча“*. Аўтар паведамляе, што ў Мсьціслаўлі ў каморніка Драздова захаваліся два сшыткі—рукапісы Івана Насовіча. У канцы аднаго сшытка Насовіч зьмясьціў гэткі верш: „Явка Бѣлорусскаго Словаря по выходѣ изъ печати къ своему въ Мстиславлѣ Автору.

Словарь

Здоровъ, панъ!

Авторъ

Ба! Изъ Петербурга.
Что жъ это? Ты, братъ, сталъ курносъ!
Неужто ты въ рукахъ хирурга
Оставилъ свой кривичскій носъ? (Предисловіе).

Словарь

Мой носъ сорвалъ къ какой то цели
И спряталъ у своей портфели
П . . . . . зоилъ (месца выскрабана, увага М. Г.)
Къ моей же сжалясь кто то рожѣ,
На носъ кривическій не похоже,
Красивый носикъ приклеилъ.

Авторъ

Пусть так! Ты въ немъ похожъ на франта-Физіономія ж не та!“

**II. Прыродна-географічнае вывучэньне краю.**

1. **Проф. П. Салаўёў**. *„Пахаджэньне фаўны Беларусі“*. Аўтар у сваім артыкуле ставіў сабе дзьве мэты: 1) давесьці думку, што пахаджэньне фаўны Беларусі абавязана фізычна-географічным умовам краіны і 2) даць кароткі нарыс фаўны Беларусі ў сувязі з фаўнай суседніх краін. З пункту погляду аддзелу прыроды ІБК артыкул больш разьлічаны на прыродазнаўчы часопіс агульнага характару і з гэтае прычыны передаецца ў аддзел прыроды ІБК.

2. **Віцебская сэкцыя сьветазнаўства.** *„Солнечная деятельность в 1925 г. по наблюдениям отдела „Солнце“*. Кароценькая заметка.

3. **У. Мікіцінскі**. *„Возера „Князь“ і яго ваколіцы“*. Нічога новага праца не дае.

4. **Ц. Гурба**. *„Што я даведаўся аб вёсцы Навасёлках і яе ваколіцах“*.

5. **А. Стрэльчык**. *„Вёска Слаўнь і яе ваколіцы“*. Матар'ялы невыстарчаючыя. Праца А. Стрэльчыка цікава данымі аб існаваньні старых вуніяцкіх архіўных матар'ялаў пры Слаўнянскай царкве.

6. **П. Фралоў**. *„Міласлаўшчына Калін. акругі“*. Аўтар хацеў даць кароткі нарыс р. Іпуці, але даў шмат лірычных заўваг і мала фактычнага матар'ялу.

7. **Е. Цэхановіч**. *„Балота ля рэчкі Ясы“*. (Барысаўшчына). Вельмі агульнае апісаньне“.

8. **Я. Савіцкі**. *„Крушынаўскае возера „Зазер'е“*. (Рагачоўскі р.) Заметка цікава толькі заўвагамі аб курганох каля возера, аб цэглах, што там знаходзілі, аб драпежнай рыбалоўлі на возеры. Аўтар не дае фотоздымкаў і неабходных карт.

9. **І. Перадня**. *„М. Астрашыцкі Гарадок“*. Апісаньне не дае вычарпальных даных аб мястэчку, але рэдакцыяй намечана ў зборнік „Меншчына“ і перададзена ў аддзел прыроды ІБК.

10. **П. Красавіцкі**. *„К истории дендрологических начинаний в Витебщине“*. У заметцы падаюцца цікавыя і новыя весткі аб дзеячох Віцебшчыны А. П. Сапунове і В. К. Стукалічы.

11. **Проф. П. Салаўёў**. „Кароценькая заметка аб фаўне Бабруйшчыны“.

12 N. *„Балід 5 студзеня 1925 г. на Беларусі і баліды наогул“*. Спэцыфічны характар артыкулу ня даў магчымасьці зьмясьціць яго ў „Нашым Краі“.

13. **Гр. Варапаеў**. *„Буеўскае возера“. Вельмі кароткая заметка.*

**III Культурна-гістарычнае вывучэньне краю,**

1. **Ю. Лешчанка**. *„З гісторыі Быхава“*. У артыкуле ёсьць цікавыя весткі: 1) аб падземным ходзе, які быццам выкрылі ў 1919 г. недалёка ад палацу Сапегі, дзе знайшлі пакой 7 арш. удоўжкі, 6 арш. ушыркі і 5 сажняў (?) вышынёю; 2) аб існаваньні ў касьцёле ў адным з пакояў значнага ліку старадаўніх друкаваных і рукапісных польскіх кніг, портрэтаў і г. д. Рэдакцыі цікава ведаць, у якім стане ўсё гэта знаходзіцца цяпер? З прычыны таго, што рэдакцыя мае працу Е. Галадкоўскага аб Быхаве (поўны гістарычны нарыс), якую, магчыма, будзе друкаваць—праца Ю. Лешчанкі пакуль што адкладзена

2. **Г. Лапіцкі**. *„Магілеў на Дняпры“*. У артыкуле ня толькі няма нічога новага, але ёсьць і недарэчнасьці. Аўтар сам прызнаецца, што пісаў працу на падставе старога „дзіравага“ часопісу за 1901 г.

3. **Н. Тычынін**. *„Магілеў на Дняпры“*. Кароткая заметка нічога новага ня ўносіць у існуючую літаратуру пра Магілеў і яго мінулае. Апрача гэтага, самая гісторыя гораду высьвятляецца з пункту погляду расійскай вялікадзяржаўнасьці, што зусім пазбаўляе артыкул навуковай вартасьці.

4. **Д. Вітэнь**. *„Скарбы—паказчыкі мінулага“*. Заметка, якія даюць некаторыя цікавыя весткі аб ужываньні сялянамі „пяруновых стрэлаў,“ перапоўнена агульнымі разважаньнямі.

**IV. Экскурсіі. Экспэдыцыі. Вандраваньні.**

1. **Мікола Душэўскі і Алесь Каліта.** *„Менск—Лысая гара на лыжах“*. Гэта—хроніка экскурсіі, дадзена апісаньне маршруту і няма ніякіх заметак дасьледчага характару. Аўтары імкнуліся даць „поэтычнае“, а не „краязнаўчае“ апісаньне экскурсіі. Характэрны словы дзеньніка: „Ня толькі сяляне, але і хвойкі з цікавасьцю паглядаюць на нас!“

2. **В. Марыновіч.** *„Экскурсія па Беларусі—ад Віцебска да Н. Быхава“*. Мэта экскурсіі—орнітолёгічныя нагляданьні. Апісаньне

передае сухую рэгістрацыю заўважаных у часе экскурсіі птушак, прычым навуковыя назвы гэтых птушак аўтар не паказвае.

3. **Проф. П. Салаўёў.** *„Из Горок Белорусских к Великому Океану"*. Мэта экспэдыцыі проф. П. Салаўёва—фаўністычныя нагляданьні. Гэта была так сказаць—„рэкогносцыровачнае фаўністычнае вандраваньне". У апісаньні ёсьць цікавыя даныя аб асаблівасьцях быту і жыцьця беларусаў на Дальнім Усходзе. Нажаль, гэтыя заўвагі вельмі кароткія, скупыя, што не дало магчымасьці рэдакцыі зьмясьціць апісаньне, вельмі значнае па разьмеры.

4. **Янка Моцны.** *„Вялікія могілкі старасьветчыны"*. (Вандраваньне па Бялыніцкаму і Чачэвіцкаму раёнах Магілеўшчыны). У апісаньні ёсьць цікавыя даныя аб знаходцы 2-х каменных сякер на гарадзішчы каля в. Нямкі Чачэвіцкага раёну, аб вялікай каменнай сякеры ў в. Ядранай Слабадзе, аб дубовым зрубе з касьцямі ў кургане каля с. Гарадзішча. Усе гэтыя весткі, нажаль, не дэталізаваны і выклікаюць шмат запытаньняў, на якія чытач у апісаньні ня знойдзе адказу.

### V. Мэтодолёгія краязнаўства.

1. N. *„Краязнаўчая праца на Случчыне"*. Артыкул кажа аб мэтах і задачах краязнаўчай працы. Няма конкрэтнага пляну вывучэньня Случчыны, няма выразнай прынцыповай і мэтодолёгічнай устаноўкі гэтага вывучэньня. Агульныя, ня новыя разважаньні ці мары, ня маючыя падставы.

2. **А. Сяменчык.** *„Настаўнік і краязнаўства"*. Праведзена думка, што настаўнік не цікавіцца ўмовамі мясцовага жыцьця. Нажаль, гэта думка слаба разьвіта, не падмацавана належнымі прыкладамі і фактамі з жыцьця.

3. **Я. Размысловіч.** *„Краязнаўчая праца ў школе"*. Некалькі каштоўных заўваг аб практычных кроках школы па вывучэньні народнага мастацтва раёну—народнага орнамэнту, узораў пасьцілак, ручнікоў і г. д. Нажаль, падазена гэта ў неапрацаванай форме.

4. **А. Куранкоў.** *„Да проблемы вытворчага краязнаўства"*. Аўтар высоўвае дзьве асноўныя думкі, якія ім, нажаль, не апрацаваны і ня прыведзены ў парадак: 1) краязнаўста ёсьць грамадзка-навуковая (?) дзейнасьць мас і 2) вывучэньня вытворчых сіл краю раней ня было!

5. **Проф. П. Салаўёў.** *„Задачи краеведения в БССР"*. Артыкул ня мае мэтодолёгічнай выразнасьці.

6. **І. Дабравольскі.** *„Манастыры і царквы, іх значэньне ў гісторыі"*. Агульныя, ня новыя разважаньні аб каштоўнасьці архіўных матар'ялаў былых манастыроў.

7. N. *„План работ, рассчитанный на ближайшие годы по теоретической и прикладной ботанике и направленный на приближение этой науки к широким массам"*. Гэта—цікавы проект садовага будаўніцтва і ботанічных досьледаў на Беларусі.

8. **Проф. П Салаўёў.** *„Краязнаўчая справа ў сельскай гаспадарцы"*. Даклад, які быў прачытаны профэсарам у С. Г. Акадэміі.

9. **Проф. П. Салаўёў.** *„Инструкция любителям природы для наблюдений по зоологии и записи их"*. Інструкцыя невялікая, элемэнтарная, няма неабходнага падзелу нагляданьняў згодна розных галін природы.

10. **Т.** *Тры музэйных заметкі.* Аб значэньні музэйнай справы для выхаваньня шырокіх мас. Агульныя „лірычныя" разважаньні.

## Праца Таварыства Краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў 1927-28 годзе.

Краязнаўчая праца з году ў год пашыраецца.

Краязнаўства захапіла шырокія колы насельніцтва. Краязнаўчыя ячэйкі, гурткі ўзьнікаюць амаль што пры кожнай установе, якія праводзяць сваю працу ў кірунку рэальных досьледаў тэй ці іншай мясцовасьці. Зьбіраюцца, апісваюцца, дасьледуюцца і вывучаюцца новыя і новыя матар'ялы аб сучасным і мінулым Беларусі. Удзельнікі краязнаўчага руху і шырокія колы працоўных узяліся ня толькі за савецкае будаўніцтва, будаўніцтва новага жыцьця, стварэньня новай грамады, але поруч з гэтым за вывучэньне і дасьледваньне краіны. Ды гэта зусім зразумела, бо будаваць дзяржаву, організоўваць экономіку, будаваць культуру нельга, ня вывучыўшы мінулых і сучасных процэсаў гаспадаркі краіны; яе прыродных і грамадзкіх асаблівасьцяў.

У сёньнешні дзень краязнаўства набывае вялікае значэньне яшчэ і таму, што шпаркая пабудова гаспадарчага процэсу на аснове індустрыялізацыі краіны патрабуе безадкладнага вывучэньня самых малых куткоў краю, яго вытворчых об'ектаў.

„Расійская рэволюцыя высунула пытаньне краязнаўства на першае месца; тыя вялізарныя задачы, якія стаяць перад Саюзам Савецкіх Рэспублік у справе гаспадарчага будаўніцтва, ня могуць быць выкананы выключна дзяржаўнымі ўстановамі без непасрэднага ўдзелу ў гэтай справе мясцовых краязнаўчых організацый".

„Усебаковае вывучэньне мясцовага краю ў нашыя дні вялікага будаўніцтва мае ня толькі тэорэтычнае значэньне, але і практычную неабходнасьць. Ня можа быць ніякае плянавае працы, калі ня вывучаны да апошняй дробезі тыя ўмовы, у якіх павінна праводзіцца гэтая праца. Мы ўжо не гаворым аб тым, што краязнаўчая праца пашырае разумовы кругазор чалавека, разьвівае прадпрыемлівасьць і зьяўляецца аднэй з спрунжын, якія прыводзяць у дзейнасьць грамадзкае жыцьцё. Краязнаўства ў асобе мясцовых дзеячоў, дасьледуе вёскі, зьбліжае горад з вёскаю,—адукоўвае селяніна, ажыцьцяўляе гэтым тую змычку гораду з вёскай, аб якой гаварыў Ленін і ажыцьцяўленьня якое дамагаецца Савецкая ўлада".

Так піша яб краязнаўстве і яго мэтах вялікі пісьменьнік Максім Горкі.

У той час, як працоўныя праводзяць вялікую працу па вывучэньні свайго краю, дык і Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт, будучы дзіцём Кастрычніка, як культурны цэнтр Беларускай Рэспублікі, у мурох якога сабраны дзеці рабочых і сялян, нямінуча павінен быў узяцца за тую-ж краязнаўчую працу. Яшчэ ў 1925 годзе былы сакратар ЦК КП(б)Б тав. Крыніцкі так ставіў пытаньне перад студэнтамі Беларусі: „Неабходна студэнцкім організацыям у сваіх шэрагах злучыць тых людзей, якія любяць Беларусь, зьвязаны з ёю, хочуць і лічаць сваім абавязкам зьвярнуцца да тых рабочых і да таго сялянства, якія іх выдзелілі на вучобу.

Неабходна ў гэтых організацыях высока падняць краязнаўчую працу, якая падрыхтуе людзей знаёмых з прыродазнаўчымі, гістарычнымі і іншымі ўмовамі Беларусі“.

Словы тав. Крыніцкага, якія былі ім сказаны ў 1925 годзе, паслужылі своечасовым напрамкам для належнае ўвагі студэнцкіх організацый Б.Дз.У. да краязнаўчае працы.

Краязнаўчая праца на Беларусі распачалася з першага году заснаваньня Унівэрсытэту ў 1921 годзе, але яна ня мела пэўных організацыйных форм для шырокага ўдзелу студэнцтва, а вялася паасобнымі адзінкамі аматарамі краязнаўцамі.

Паступова Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт разгортвае працу па краязнаўству—і пачаткам працы ў гэтым напрамку трэба лічыць момант заснаваньня унівэрсытэту. Вось як аб гэтым гаворыць заслужаны профэсар, рэктар Б.Дз.У. У. Ів. Пічэта: *) „З першых дзён, з першага моманту свайго заснаваньня Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт павінен быў зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне Беларускай краіны ў яе мінулым і сучасным, і ён у гэтым кірунку праводзіў сваю працу“. Гэта зусім праўдзіва, бо там дзе сконцантравана частка людзей, якая ставіць сваёй мэтай падрыхтоўку спэцыялістых для нашых умоў, умоў Беларусі, там дзе ў наяўнасьці ўсе мажлівасьці шырока і грунтоўна паставіць пытаньні краязнаўства (наяўнасьць прылад, лябораторый, навуковых працаўнікоў і жывой сілы студэнцтва), там паступова ўзьнікаюць і формуюцца адпаведныя організацыі.



Удзельнікі 1-ай студэнцкай навукова-дасьледчай экспэдыцыі ў Мазыршчыну разам з Праўленьнем т-ва ў 1927 г.

Масавасьць краязнаўчай працы, пэрспэктывы падрыхтаваць сябе практычна да самастойнай дасьледчай працы ў будучыне захапляе студэнтаў Бел. Дзярж. Унівэрсытэту. Студэнцтва ў 1922-1923 годзе яшчэ не організавана, ёсьць толькі некалькі аматараў-краязнаўцаў, якія імкнуцца ўжо нешта рабіць. У 1923-24 годзе ўжо назіраецца момант групаваньня гэтых аматараў у ячэйкі і гурткі, у іх працы прыймаюць удзел і навук. працаўнікі Ун-ту. Студэнты-краязнаўцы пасыўна слухаюць даклады гэтых навуковых працаўнікоў на краязнаўчыя тэмы. У 1925-26 годзе гурткі афармляюцца і робяцца больш масавымі у тым-жа годзе студэнцкімі організацыямі высоўваецца пытаньне аб утварэньні сталага т-ва краязнаўства. І толькі ў 1926-27 годзе Т-ва організацыйна ўжо канчаткова афармляецца, знаходзіць зьмест працы і выпрацоўвае статут.

Краязнаўчая організацыя Унівэрсытэту ставіць перад сабою мэты:

1) Вывучэньне Беларусі ў прыродазнаўча-

*) Часопіс „Наш Край“. № 10 за 1928 г.

географічным, социяльна-экономічным і культурна-гістарычным кірунках, шляхам зьбіраньня краязнаўчага матар'ялу, як індывідуальна, гэтак і спосабам экспэдыцый і экскурсій.

2) Навукова-дасьледчую распрацоўку ўжо сабраных матар'ялаў.

3) Мэтодычна-організацыйная падрыхтоўка сьвядомых кіраўнікоў і організатараў кр-ства з студэнцтва.

4) Популярызацыя краязнаўчага руху сярод студэнцтва, гэтак і сярод насельніцтва Беларусі.

### Першы год організаванай працы Т-ва.

Выходзячы з паказаных мэт і статуту, т-ва ўпяршыню ў 1926-27 г. намячае плян працы: засноўваюцца сэкцыі, вызначаюцца галіны працы. Але ўсё-ж такі зьмест працы па сэкцыях быў вельмі featureрознастайны, ня было пэўнага разьмежаваньня ў паасобных галінах працы. Т-ва ахоплівае ўжо досыць значную частку студэнтаў. Сяброў сэкцый налічваецца 170, сюды ўваходзяць і навуковыя працаўнікі. Удзел навуковых працаўнікоў яшчэ вельмі малы. Магчыма, гэта тлумачылася організайцыйным пэрыодам і шуканьнем формаў і зьместу працы. Былі заснаваны наступныя сэкцыі: 1. Культурна-гістарычная. 2. Прыродазнаўча-географічная. 3. Мэдычная. 4. Социяльна-экономічная і 5. Яўрэйская.

Сэкцыі Социяльна-Экономічная і Яўрэйская вельмі слаба разгарнулі сваю працу. У пераважнай большасьці сэкцыі займаліся організацыйна-мэтодычнымі пытаньнямі. Побач з гэтым у працы гэтых сэкцый назіраецца паступовае ўзмацненьне і павялічэньне ліку ўдзельнікаў, выяўленьне актыву, ёсьць ужо дасьледчыя работы студэнтаў-краязнаўцаў, якія друкуюцца ў розных часопісах. Такіх дасьледчых прац за мінулы 26-27 г. налічваецца каля 13, (падрабязна глядзі артыкул проф. Пічэты „Наш Край“ № 10 (25) за 1927 г.).

Праводзіцца 1-я студэнцкая навукова-дасьледчая экспэдыцыя ў Мазыршчыну. Праца экспэдыцыі праводзілася ў напрамку: социяльна-экономічным, прыродазнаўча-географічным, культурна-гістарычным, археолёгічным. Удзельнікі экспэдыцыі разам з навуковымі працаўнікамі Унівэрсытэту працавалі з вялікай адданасьцю справе. Апрача непасрэднай дасьледчай працы і зьбіраньня каштоўных экспонатаў і матар'ялаў вядзецца праца культурна-асьветная. Удзельнікамі была прачытана на розныя тэмы 30 дакладаў сярод насельніцтва Мазыршчыны. Мінулая экспэдыцыя дала выдатныя вынікі, паказала неабходнасьць організацыі экспэдыцый у далейшым. Яна паказала ўсе недахопы організацыйнага характару, гэтак сама высьветліла пытаньне аб тым, як трэба організоўваць экспэдыцыю, каб яна дала найбольшыя вынікі— адзначаюць старшыня т-ва проф. У. І. Пічэта і прадстаўнік ЦБК т. Жураўскі.

Партыйная організацыя Мазыршчыны па дакладу аб працы экспэдыцыі краязнаўчага т-ва БДУ адзначае*): „Організацыя экспэдыцыі зьяўляецца своечасовым мерапрыемствам, як у галіне дапамогі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве акругі, так і ў галіне наладжваньня краязнаўчае працы на мясцох.

Ня гледзячы на кароткі, двухтыднёвы тэрмін прабываньня навукова-дасьледчае экспэдыцыі ў Тураўскім раёне і на даволі цяжкае матар'яльнае становішча ўдзельнікаў экспэдыцыі, студэнтаў, дзякуючы адданасьці сваёй працы і актыўнаму ўдзелу мясцовых краязнаўцаў, удалося сабраць вялікую колькасьць маючых навуковую вартасьць экспонатаў па усіх галінах досьледаў і выкрыць новыя факты для навукі па археолёгіі і батаніцы. Лічыць патрэбным, каб сабраныя экспэдыцыяй матар'ялы досьледаў у самым хуткім часе былі навукова-апрацаваны і выданы асобным зборнікам, а папярэднюю справаздачу зьмясьціць у зборніку Акруговага Кр-га Т-ва Мазыршчыны, усе іншыя экзэмпляры экспонатаў і запісаў пасьля канчатковае апрацоўкі даслаць па 1 экзэмпляры ў мяйсцовыя музэі Мазыршчыны. „Ужо адсюль зусім відавочна, што таварыствам вядзецца організаваная работа па развязаньні практычных і жыцьцёвых проблем і пытаньняў, якія высоўваюцца сёнешнім днём. Але і ў гэты час краязнаўствам, як бачым, яшчэ не захопліваюцца шырокія колы студэнцтава. З трох тысяч студэнтаў краязнаўствам займаюцца толькі 170 асоб. Нават у гэты год краязнаўства па паасобных факультэтах скарачаецца. Так на рабфаку гурток краязнаўства зусім ліквідуецца, у той час як запатрабаваньні з боку рабфакаўцаў удзельнічаць у краязнаўчай працы маюцца. Некаторыя з іх працуюць у сэкцыях пры Унівэрсытэце. Студэнцтва, як бачым, яшчэ выкрышталізоўваецца, афармляецца ў стасунку да краязнаўства.

### Новы этап у працы т-ва 1927-28 год.

У гэты год праца т-ва ўсё больш паляпшаецца, як у сэнсе організацыйнага ўзмацненьня, гэтак і па зьместу навукова-дасьледчай працы. Штодзённая работа т-ва—дасьледваньне, вывучэньне, мэтодычная падрыхтоўка і популярызацыя краязнаўчых вед. Т-ва налічвае сталы актыў па сэкцыях і камісіях. Пытаньне выдзяленьня і ўтварэньня новых камісій дае мажлівасьць строга разьмежаваць асобныя спэцыяльныя галіны досьледаў, задавальняючы патрабаваньням студэнтаў і надае ўсёй працы вытворчы ўхіл. Уся праца вядзеццца ў больш шырокім маштабе.

Кастрычнік м-ц 1927 г. праходзіць пад лёзунгам узмацненьня кіруючага складу т-ва, асобных бюро сэкцый, організацыі актыву камісій і праўленьня. Перавыбарчыя кампаніі праходзяць пад лёзунгам: „За організацыйнае ўзмацненьне“. Сходы сэкцый і агульны сход т-ва праходзяць з зацікаўленасьцю і актыўнасьцю. Удзел прымаюць і навуковыя працаўнікі. Заслухоўваецца справаздача старшыні т-ва У. І. Пічэты аб працы т-ва і садаклад аб працы экспэдыцыі тав. А. Аніхоў-

*) Рэзолюцыя па справаздачы экспэдыцыі кр-га т-ва пры БДУ

скага. На сходзе прысутнічаюць прадстаўнікі ЦБК. Членамі т-ва студэнтамі і нав. працаўнікамі даюцца дырэктывы, якія ляглі ў аснову плянаў працы т-ва на 1927-28 г. У склад праўленьня абіраюцца: проф. У. І Пічэта, Я. Марук, Аніхоўскі, Магілеўчык, Невядомскі і інш. Старшынёй т-ва абіраецца зноў проф. У. Ів. Пічэта.

### Організацыйная пабудова т-ва.

Пленум т-ва, праўленьне, бюро сэкцый, на чале з інстытутам ідэёвых кіраўнікоў і актыў камісій. Непасрэдная сувязь трымаецца з ЦБК, праўленьнем Ун-ту, дэканатамі некаторых факультэтаў.

Сродкі т-ва складаюцца з асобных субсідый тых ці іншых устаноў і з сяброўскіх адлікаў. У гэтым годзе сродкі складаліся выключна з сяброўскіх адлікаў, ніякіх датацый і субсідый т-ва не атрымлівала, што, зразумела, адбівалася на працы. Сума сяброўскіх адлікаў не правышала 70 руб. за ўвесь час.

Стала організоўваюцца і распачынаюць сваю працу наступныя сэкцыі.

1. Соцыяльна-экономічная, якая падзяляецца на 2 комісіі: экономічная і праўная. 2. Прыродазнаўча-географічная, якая налічвае 5 камісій. 3. Мэдычная сэкцыя. 4. Культурна-гістарычная. 5. Сэкцыя мовы і літаратуры. 6. Яўрэйская сэкцыя:

Праца гэтых сэкцый праводзіцца па пляне, узгодненым з належнымі організацыямі ЦБК і Унівэрсытэтам. Плян працы г. г. падзяляецца на 3 часткі: 1) організацыйна-агітацыйная праца, 2) мэтодычная і 3) навукова-дасьледчая. У такіх трох напрамках і праводзілася праца 1927-28 г. Краязнаўчая організацыя шпарка ўзрастае. Агульны склад т-ва налічвае 258 членаў. Соцыяльны склад т-ва: рабочых—18, сялян—152, служ.—60, саматужнікаў--15.

Партыйны склад: чл. і канд. КП(б)Б—25, ЛКСМБ—30 ч., беспарт. 203. Па нац. складу: бел.—168, яўрэяў—75, палякаў – 6, расійцаў—7, іншых– 2.

Колькасны ўзрост складу т-ва ў параўнаньні з мінулым больш як у 2 разы. Павялічыўся і ўдзел навуковых працаўнікоў. Разгортваньне практычнай працы зацікавіла навуковых работнікаў Унівэрсытэту, і некаторыя з іх з ахвотаю прымаюць удзел у працы сэкцый шляхам мэтодычнай і організацыйнай дапамогі.

### Соцыяльна-Экономічная сэкцыя.

Сэкцыя канчаткова афармляецца ў кастрычніку 27 г. і падзяляецца на 2 камісіі: экономічную і праўную. Сяброў сэкцыі ў даны момант налічваецца 26 асоб. Актыў можна вызначыць лічбаю 18 асоб. Большасьць членаў—студ. факультэту права і гаспадаркі, іх—22 ч., пэдфаку соц.-гістарычнага адзяленьня—4. Калі параўнаць з мінулым годам, то сэкцыя ўзрастае на 18 асоб. Цікава тое, што рост праходзіў у большасьці за лік комсамольцаў, чаго нельга зазначыць па іншых сэкцыях пры пэдфаку і мэдфаку. Відаць, што комсамольцы іншых факультэтаў яшчэ вельмі адстаюць і несьвядома адносяцца да адказнай працы па вывучэньні краю. Распрацавана членамі сэкцыі 6 навукова-дасьледчых дакладаў.

1. Культурна-бытавы стан Тураўшчыны (па матар'ялах н.-д. экпэдыцыі).
2. Экономічны стан Тураўшчыны (па матар'ялах нав.-дасьл. экспэдыцыі).
3. Апека на Беларусі ў пачатку XVI стагодзьдзя.
4. Адміністрацыйныя пакараньні па савецкім законадаўстве.
5. Судовая рэформа 1925 г. ў БССР.
6. Права роднае мовы БССР.

Некаторыя з гэтых прац здадзены ў друк. Гэтыя даклады заслухоўваліся на паседжаньнях сэкцыі з удзелам ідэёвых кіраўнікоў. Некаторыя тэмы ўзяты для распрацоўкі, але канчаткова не распрацаваны. Такімі зьяўляюцца:

1. Аграрнае перанасяленьне БССР і перасяленьне ў іншыя рэспублікі СССР.
2. Лекавыя травы, як галіна гандлю БССР.
3. Тэхнічныя культуры ў сельскай гаспадарцы і дынаміка іх разьвіцьця на Беларусі.

Неабходна адзначыць, што зацікаўленасьць некаторай часткі студэнцтва факультэту права і гаспадаркі вялікая. Аб гэтым сьведчыць той факт, што на паседжаньнях прысутнічаюць і ня члены сэкцыі, таксама назіраецца актыўнасьць у час абгаварэньня тых ці іншых дакладаў. Але поруч з гэтым трэба адзначыць, што масавай зацікаўленасьці ў гэтай галіне працы на фак. права і гаспадаркі нельга констатаваць, ня гледзячы на тое, што вывучэньне экономікі і права займае паважнае месца ў сучасны момант. Гэта тлумачыцца слабай пастаноўкай працы па популярызацыі і краязнаўства на факультэце. У далейшым трэба гэта мець на ўвазе. Ідэёвымі кіраўнікамі зьяўляюцца проф. У. І. Пічэта, Гуткоўскі, Забела. Невялічкі ўдзел прыймае і проф. С. Л. Вольфсон. Галоўнай перашкодай у працы зьяўляецца тое, што праца ня была ўвязана з акадэмплянамі факультэту.

### Праца Прыродазнаўчай Географічнай Сэкцыі.

Склад сэкцыі:

| Нав. прац. | | Студэнт. | Усяго | Па партыйн. | | | Па соц. пахадж. | | | З якога курсу | | | | Ня студ. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Практ. кір. | Ідэёв. кір. | | | КП(б) | КСМ | Бесп. | Раб. | Сял. | Інш. | I | II | III | IV | | |
| 5 | 3 | 60 | 68 | 9 | 6 | 53 | 9 | 33 | 26 | 5 | 21 | 19 | 8 | 7 | 5 |

Удзельнічаюць у працы камісій:

| | Гідробіолёгічная камісія | Флёрычная камісія | Біолёгічная | Зоолёгічная | Геолёгічная | Усяго | У %% | Удзельнічаньне ў каміс. на сябр. т-ства | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго . . | 6 | 8 | 15 | 5 | 3 | 37 | 56,9 | 34 | 71 |
| Актывістых | 6 | 8 | 9 | 3 | 3 | 29 | 44,6 | 5 | 34 |

*Гідро-Біолёгічная Камісія.* Праароблена: Падрыхтоўчая праца сярод камісіі па азнаямленьні як з фактычнымі матар'яламі об'ектаў дасьледваньня, так і з мэтодамі і з організацыйнымі прынцыпамі правядзеньня гідро-біолёгічных досьледаў вадаёмаў гор. Менску. Праведзена мэтодычна-тэхнічная падрыхтоўка сяброў па вывучэньні біолёгічнага запрудненьня ракі Сьвіслачы. За ўвесь час ад пачатку 1927/28 нав. году адбылося 19 пасяджэньняў. Заслухана два грунтоўныя даклады.

Амаль што ўсе пасяджэньні былі заняты мэтодычна-тэорэтычнай падрыхтоўкай сяброў камісіі. У далейшым камісіяй намечана: сталае навуковае вывучэньне мікрофлёры ракі Сьвіслачы (час летніх вакацый).

*Флёрыстычная камісія*: Праароблена: Мэтодычна-тэорэтычная падрыхтоўка сяброў камісіі да дасьледчай працы па флёры. Прапрацаваны даклады:

1. Аб тутавым дрэве і шаўкаўніцтве на БССР.
2. Аб гэрбарызацыі.
3. Аб прыладах для шаўкоўніцтва.
4. Аб выкармленьні шаўкавічных чарвякоў.
5. Аб разьвядзеньні тутавага дрэва на БССР.

Распрацавана частка гэрбарый Ботанічнага габінэту. Падрыхтаваны матар'ялы Навук.-Дасьледч. экспэдыцыі. Частка надаслана ў мясцовыя музэі. Праведзена праца сябрамі камісіі на мясцох у час зімовых вакацый па популярызацыі разьвядзеньня тутавага дрэва і распаўсюджаньня насеньня гэтага дрэва. Наладжана сувязь з некаторымі краязнаўцамі-аматарамі на мясцох.

У далейшым камісіяй намечана правядзеньне 2-х экскурсій па вывучэньні флёры ваколіц Менску з мэтай дапамогі вывучэньня флёры Менскай акругі ІБК. Удзельнічаньне ў экспэдыцях і практычная праца сяброў у час летніх вакацый.

*Зоолёгічная камісія*: Праароблена—мэтодычна-тэорэтычная падрыхтоўка сяброў да дасьледчай працы. Азнаёмлена з мэтодамі азначэньня птушак. Вызначана частка мышэй, крыс і іншых грызуноў і частка яшчарак. Вызначаны молюскі Мазырскае акругі ў ваколіцы Менску і зроблена іх апісаньне.

Праца ў будучым: Далейшая мэтодычна-тэорэтычная падрыхтоўка сяброў камісіі. Удзельнічаньне ў экпэдыцыі і збор матар'ялаў на мясцох у час летніх вакацый.

*Біолёгічная камісія*: Організавана ў сакавіку мес. г. г. Праароблена: Прапрацаваны мэтодычны даклал кіраўніка камісіі. Праведзены 2 экскурсіі на раку Сьвіслач па зборы плянктонаў. Праведзены 4 пасяджэньні, на якіх прапрацоўваліся матар'ялы экскурсій. У далейшым сэкцыя намячае заснаваць прымітыўную біолёгічную станцыю. Удзельнічаць у экспэдыцыі і зьбіраць матар'ялы на мясцох у час летніх вакацый.

*Гэолёгічная Камісія.* Знаходзіцца ў стадыі організацыі. У складзе камісіі пакуль тры асобы, якія працуюць па заданьні Дасьледчага Інстытуту. Намечана пасылка сяброў гэтай камісіі ў экспэдыцыю па вывучэньні ґеолёгіі Полаччыны, пасьля чаго, зразумела, мажліва будзе прыняць у камісію большы лік сяброў і распрацоўваць матар'ялы экспэдыцыі. Адчуваецца зацікаўленасьць у гэтай галіне з боку студэнтаў.

За ўвесь час працы гэтага году адбыліся 4 пасяджэньні; з іх 2 організацыйныя і 2 сумесныя з Навук. Т-вам, на якіх заслуханы навукова-дасьледчыя даклады. Даклады падрыхтаваны да друку.

У далейшым сэкцыя намячае зрабіць адно пасяджэньне, дзе будуць выпрацаваны прынцыпы організацыі работы і заслухан даклад Зьбіткоўскага на тэму „Рэдкія расьліны БССР і ў Мазырскай акрузе—у прыватнасьці“ (па матар'ялах экспэдыцыі).

За ўвесь час адбылося 6 пасяджэньняў Бюро па пытаньнях організацыйнага і програмнага характару.

Наведваньне посяджэньняў камісій у пачатку году было зусім здавальняючым—75--100%. У другой палове году наведваньне камісій зьнізілася амаль што на 50%. Наогул, праца сэкцыі праходзіла больш актыўна ў першай палове году і менш актыўна у другой палове.

Перашкодай у працы трэба, лічыць агульна для ўсіх сэкцый загружанасьць працай сяброў т-ва, а таксама і галоўнае—гэта адсутнасьць матар'ялных сродкаў: прыходзілася працаваць без належных прылад і інш. Малы актыў з ліку студэнтаў першых курсаў природазнаўчага аддзяленьня ставіць абавязковым уцягнененьне іх у краязнаўчую працу. Дадатным бокам зьяўляецца шырокі актыўны ўдзел некаторых навуковых працаўнікоў У-ту. Сэкцыя павялічыла свой аўторытэт і зацікаўленасьць студэнтаў да краязнаўства. Гэта зьяўляецца залогам мажлівасьці разгортваньня працы ў далейшым.

### Праца мэдычнай сэкцыі.

Да X-27 г. сэкцыя мела ўсяго 26 сяброў. Пры гэтым студэнтаў налічвалася—23. Навуковых працаўнікоў—3. Лік сяброў на сёньнешні дзень павялічыўся на 47 асоб. Студэнтаў—55, навуковых работнікаў—15. Усяго 70 сяброў. Праца вялася ў 2-х напрамках: 1) распрацоўка навукова-дасьледчых дакладаў і 2) мэтодычная падрыхтоўка сяброў сэкцыі да самастойнай дасьледчай працы. За час 27/28 г.было заслухана на паседжаньнях сэкцыі 8 дакладаў: мэтодычных—3, навуковых—5. 1) Вывучэньне народнай мэдыцыны, 2) Гісторыя мэдычнае справы на Беларусі, 3) Вывучэньне і дасьледваньне стану гораду, вёскі, мястэчка і інш. 1) Аб працы малярыйнага атраду і некаторыя з народных сродкаў барацьбы з малярыяй у Мазыршчыне. 2) Санітарна-бытавое апісаньне вёскі. 3) Спробы санітарна-бытавога апісаньня Тураўскага раёну (па матар. навукова-даследчае экспэдыцыі). 4) Спробы санітарна-бытавога апісаньня вёскі Радзілавічы Тураўскага раёну (па матар'ялах экспэдыцыі). 5) Аб вадазабясьпечаньні і вадакарыстаньні Тураўскага раёну (па матар'ялах экспэдыцыі). Некаторыя матар'ялы надрукаваны ў часопісах, а іншыя распрацоўваюцца, але не зачытаны з прычыны летніх вакацый. На гэты час сэкцыя мае паслаць некаторых сяброў у экспэдыцыю і гэтак сама праводзіла працу па раздачы інструкцый і заданьняў студэнтам на час ад'езду на вакацыі. Ня гледзячы на лічбовы рост сэкцыі, рост актыўнасьці павялічыўся на нязначны процант. Гэта вымагае ў далейшым правільнай організацыі і ўздыму аўторытэту сэкцыі сярод студэнтаў мэдфаку. Трэба больш уцягваць студэнтаў з першых курсаў.

### Праца культурна-гістарычнай сэкцыі.

Сэкцыя налічвае 36 асоб студэнтаў соцыяльна-гістарычнага аддзяленьня пэдфаку. Ёсьць моцны актыў з 14 чалавек.

Праца праводзілася пад кіраўніцтвам проф. ідэёвых кіраўнікоў. Плян працы ўключаў тэмы гістарычнага зьместу, сучаснасьці і старасветчыны.

Распрацованы наступныя навукова-дасьледчыя даклады:

1) Магілеў і Менск ў 1697 г. (паводле запісаў стольніка Талстога).

2) Аб выніках архэолёгічных досьледаў (паводле матар'ялаў навукова-дасьледчай экспэдыцыі).

3) Матар'яльная культура Тураўшчыны (паводле матар'ялаў экспэдыцыі).

Апрача гэтых матар'ялаў ёсьць і іншыя, якія будуць закончаны ў канцы лета.

У працы сэкцыі прымаюць ўдзел—проф. Пічэта, В. Д. Дружчыц, Даўгяла. На час вакацыі сябры сэкцыі атрымалі заданьні для працы па вёсках. Члены сэкцыі архэолёгі і гісторыкі рыхтуюцца да працы экспэдыцыі ў гэтым годзе. Неадбходна было сэкцыі зьвярнуць большую ўвагу на матар'ялы сучаснасьці.

### Праца сэкцыі мовы і літаратуры.

Сэкцыя організавана ў лістападзе 1927 г. У той час была абрана бюро і намечаны плян працы. Зараз сэкцыя ахоплівае 19 чал. актыву, большасьць з іх студэнты літ.-лінгвістычнага адзяленьня пэдфаку 3 і 4 курсаў. Праца сэкцыі вядзецца ў 3 напрамках: 1) мовы і дыялектолёгіі, 2) мастацкі фольклёр і 3) літаратуры. Ідэёвыя кіраўнікі сэкцыі—профэсары І. І. Замоцін, П. А. Бузук і М. М. Піотуховіч прымаюць шчыры ўдзел у краязнаўчай працы сэкцыі, вызначаюць пляны і робяць мэтодычныя даклады па кожнай асобнай галіне досьледаў. Былі вызначаны тэмы дасьледчага характару, якія распрацоўваюцца сябрамі сэкцыі. Да гэтага часу праведзена 6 паседжаньняў, на якіх заслухоўваліся мэтодычныя даклады і даклады навук.-дасьледчыя—(па матар'ялах навук.-дасьледчай экспэдыцыі). Сэкцыя з прычын вакацый не пасьпела заслухаць распрацаваныя тры даклады.

Сэкцыя карыстаецца вялікім аўторытэтам сярод студэнтаў літар.-лінгв. аддзяленьня. У сэкцыі прымаюць удзел і студэнты апошніх курсаў рабфаку.

### Праца яўрэйскай сэкцыі.

Да гэтага часу яўрэйская сэкцыя налічвае 25 чал. Склад студэнтаў наступны: літар.-лігв.—7, Соц.-гістар.—8, фіз.-мат.—5 і прыроды—5. Сэкцыя організавалася ў красавіку 1927 г. З самага пачатку ў сэкцыі існуе адзін ухіл—экономічна-гістарычны, што некаторую частку сяброў сэкцыі не задавальняе. 4 лістапада былі спробы організаваньня фольклёрна-дыялектолёгічнай камісіі, але апошняя не разгарнула працы з прычыны адсутнасьці ідэёвага кіраўніка. Гэта ставіць пытаньне аб організацыі гэткай камісіі ў будучыні.

Навукова-дасьледчая праца сэкцыі праводзілася ў двух напрамках: праца ў ІБК (члены сэкцыі займаліся складаньнем бібліографічнага матар'ялу старых яўрэйскіх часопісаў) і другі напрамак—распрацоўка тэм гістарычна-экономічнага характару па архіўных і кніжных матар'ялах.

Распрацованы наступныя даклады:

1. Рамесьніцтва яўрэяў Беларусі.
2. Рэкрутчына.
3. Становішча яўрэяў у Тураўскім раёне (па матар'ялах экспэдыцыі).

Побач з гэтым на пасяджэньнях сэкцыі былі прачытаны мэтодычныя даклады ідэёвым кіраўніком сэкцыі Аляксандравым: 1. Аб працы ў мястэчках. 2. Экономіка яўрэйскага мястэчка. 3. Як зьбіраць матар'ялы гісторыка-экономічнага характару.

### Праца т-ва па-за межамі сэкцый.

Апрача непасрэднай мэтодычна-навукова-дасьледчай працы па сэкцыях, т-вам краязнаўства праводзілася праца агульная, у кірунках популярызацыі краязнаўства сярод студэнцтва, гэтак сама і па акругох БССР у час зімовых вакацый. Студэндатамі-краязнаўцамі на мясцох была прачытана шэраг дакладаў аб значэньні краязнаўчага руху, а

таксама аказвалася і значная мэтодычна-організацыйная дапамога мясцовым краязнаўцам. З прычыны адсутнасьці сталага вучоту гэтай працы з боку праўленьня т-ва, у нас няма аб гэтым пэўных лічбаў. Адным з важных момантаў працы ў гэтым кірунку трэба лічыць адказнасьць у пастаноўцы пытаньня падрыхтоўкі краязнаўчага кадру з ліку слухачоў, студэнтаў і сяброў акр. т-ва краязнаўства ўсіх нав. устаноў гор. Менску. З гэтаю мэтаю праўленьне т-ва краязнаўства пры БДУ разам з ЦБК організавала 6-тыднёвыя нядзельныя курсы-студыю па краязнаўству. Програма курсаў-студыі будавалася па прынцыпе падрыхтоўкі слухачоў як з мэтодычнага, таксама і організацыйнага боку. Програма складалася з шэрагу дысцыплін:

1. Гісторыя і сучасны стан Краязнаўства ў БССР і за межамі.—М. І. Касьпяровіч.
2. Організацыя краязнаўчага руху ў БССР.—А. Шашалевіч.
3. Экономічнае вывучэньне краю—Аляксандраў.
4. Вывучэньне флёры краю—проф. М. М. Гайдукоў.
5. Вывучэньне біоклімату БССР—С. Жураўскі.
6. Вывучэньне гісторыі краю—проф. У. І. Пічэта.
7. Вывучэньне фольклёру краю—проф. М. М. Піотуховіч.
8. Вывучэньне мясцовых гаворак—проф. П. А. Бузук.
9. Музээзнаўства і музээбудаўніцтва — В. Ю. Ластоўскі.
10. Вывучэньне Археолёгіі краю—А. М. Ляўданскі.
11. Школьнае краязнаўства—М. І. Касьпяровіч.
12. Агульная і краёвая бібліографія—Ю. Бібіла.

Курсы мелі вялікі посьпех, аб чым сьведчыць масавае наведваньне лекцый, шырокая зацікаўленасьць слухачоў і іх настойлівыя запатрабаваньні аб пашырэньні програмы курсаў, чаго немажліва было зрабіць дзеля адсутнасьці памяшканьня, часу і сродкаў.

На курсы наведвалася 300 слухачоў наступных навуч. устаноў:

1. Бел. Дз. Унівэрсытэт. 2. Беларускі Пэдтэхнікум. 3. Польскі тэхнікум. 4. Гідра-тэхнікум. 5. 2-гадовыя пэд. курсы пры Польск. тэхнікуме 6. 6-месячныя настаўніцкія курсы пры біржы працы. 7. Настаўнікі 7-х школ вучні, агульна-адукацыйных, курсаў фабзавуча і інш.

Зраумела, курсы не маглі падрыхтаваць краязнаўцу-спэцыяліста, на гэта патрэбен час, але наогул курсы далі мінімум ведаў для агульнай масавай працы па краязнаўству ў сучасны момант. Гэты першы крок да організаванай падрыхтоўкі краязнаўцаў унясе ў шэрагі краязнаўцаў новую, жывую сілу якая зьявіцца штурхачом краязнаўчага руху на Беларусі. Вялікім недахопам у працы курсаў трэба лічыць адсутнасьць выданьня вельмі цікавых, бясспрэчна, асобных курсаў-лекцый стэнографічнымі адбіткамі, што магло-б служыць дапамогай і ў далейшай працы на мясцох. Гэты факт вымагае ў далейшым правядзеньня такога мерапрыемства пры організацыі такіх курсаў. Улічэньне вопыту першых курсаў, зацікаўленасьці шырокай аўдыторыі павінна легчы ў аснову прынцыпаў організацыі пэўнай падрыхтоўчай інстытуцыі для шырокіх колаў студэнцтва і насельніцтва. Нельга абайсьці міма і адданасьці і чуласьці лектароў, навуковых працаўнікоў Унівэрсытэту і ІБК у працы курсаў, яны з ахвотаю адгукнуліся на гэтую першую спробу падрыхтоўкі новых краязнаўцаў.

Т-ва дамагалася пасылкі профэсароў у час зімовых вакацый па акругах БССР з мэтаю популярызацыі краязнаўчага руху. На жаль, прычыны перагружанасьці іншай працай перашкодзілі правядзеньню намечанага. Такі момант трэба лічыць вельмі важным, неабходна дамагацца правесьці намечанае ў жыцьцё. Выезды на акругі навуковых працаўнікоў адыгрываюць значную ролю ў сэнсе культурнага ўздыму гушч насельніцтва.

У сувязі з надыходам летніх вакацый, тэорэтычная дасьледчая праца па сэкцыях ішла шляхам падагульненьня вынікаў усёй працы за год. З мэтаю популярызацыі вынікаў працы праўленьне т-ва праводзіла справаздачы на партыйных сходах Унівэрсытэту. Сходы з зацікаўленасьцю адносіліся да справы краязнаўства ў Унівэрсытэце, адзначаючы і дасягненьні і недахопы ў працы за навучальны год. Трэба адзначыць асаблівую ўвагу ў апошнія часы да краязнаўства бюро партыйнае ячэйкі БДУ.

### Агульныя перашкоды ў працы.

Першым і асноўным момантам, што не дало магчымасьці шырака і яшчэ больш грунтоўна паставіць працу гэтага году, трэба лічыць адсутнасьць матар'яльных сродкаў і субсідый на бягучую працу сэкцый і праўленьня, за выключэньнем сродкаў, які складаюцца з сяброўскіх адлікаў. Адгэтуль вынікі працы гэтага году трэба лічыць вынікам асабліва напружанай працы студэнтаў-краязнаўцаў. З гэтае прычыны дасьледчыя матар'ялы экспэдыцыі і экскурсіі канчаткова яшчэ не апрацаваны і не надасланы ў мясцовыя музэі. Шмат матар'ялаў тэорэтычна-дасьледчага характару залежваюцца ў праўленьні т-ва. Ня гледзячы на адданасьць і зацікаўленасьць некаторых навуковых працаўнікоў краязнаўчаю працаю і чулыя адносіны дэканата пэдфаку, на жаль, прыходзіцца канстатаваць яшчэ да гэтага часу слабы ўдзел навуковых працаўнікоў асобных факультэтаў як права і гаспадаркі, так і рабфаку.

Слабая зацікаўленасьць краязнаўчай працаю грамадзкіх студэнцкіх організацый профкомаў і выканпрофбюро. Нездавальняючая ўвязка пляну працы краязнаўчага т-ва з акадэмічнымі плянамі факультэтаў. Некаторыя сэкцыі штучна ўвязвалі сваю працу з катэдрамі.

Слабы ўдзел у краязнаўчай працы студэнтаў малодшых курсаў, у той час як падрыхтоўка актыву павінна ісьці шляхам высоўваньня з іх добрых організатараў і мэтодыстых краязнаўства, якія ў практычнай

працы набудуць неабходныя навыкі. І, урэшце, апошні момант—гэта адсутнасьць сталага памяшканьня для працы т-ва вельмі часта перашкаджала працы сэкцый. Дзеля ўсяго гэтага трэба ў далейшым ужыць наступныя меры для нормальнае працы. Першае, гэта падвесьці матар'яльную базу для працы т-ва, таксама правядзеньне экспэдыцый і экскурсій у тыя ці іншыя мясцовасьці. Асабліва важным трэба лічыць выданьне зборніку прац т-ва і экспэдыцый, пры гэтым дамагацца выдачы такіх зборнікаў штогодна. Пытаньне ўвязкі працы з акадэмічнымі плянамі паасобных факультэтаў зьяўляецца абавязковай умовай магчымасьці палепшыць гэтую працу, больш угрунтаваць, дзеля чаго сэкцыі і праўленьне т-ва павінны заранеі аб гэтым паклапаціцца і сваячасова правесьці гэта ў жыцьцё. Сэкцыі і камісіі таварыства трэба забясьпечыць дастатковым лікам ідэёвых кіраўнікоў, уцягваючы ў працу і маладых навуковых працаўнікоў, асьпірантаў і доцэнтаў. Студэнцкія грамадзкія організацыі павінны стаць бліжэй да краязнаўчай работы, згуртоўваючы грамадзкую думку студэнцтва аб значэньні краязнаўства. Чырвонае студэнцтва павінна ісьці па шляху практычнага разьвязаньня проблем і пытаньняў, якія ставяцца сучасным жыцьцём.

### Курс краязнаўства на пэдфаку, як асобная дысцыпліна.

У сувязі з тым, што краязнаўства мае вялікі грамадзка-выхаваўчы ўплыў на насельніцтва, асабліва на моладзь вучнёўскую, дамагацца шырокага ўцягненьня ў краязнаўства ўсіх студэнтаў Пэдфаку, падрыхтоўваючы іх да сьвядомай школьнай працы, бо сучасныя савецкія школы грунтуюцца на краязнаўстве, іх програмы просякнуты элементамі вывучэньня свайго краю. І калі настаўнік павінен будзе ў процэсе школьнай працы дамагацца ад вучняў сьвядомай зацікаўленасьці і разуменьня ўмоў жыцьця і гаспадаркі краю, то ён сам у першую чаргу павінен быць добра падрыхтаваны да гэтага, добра знаёмы з краязнаўчым рухам і яго мэтодамі працы. Т-ва ня зможа ахапіць вялікую колькасьць студэнцтва, гэта немажліва дзеля об'ектыўных умоў. Т-ва падрыхтоўвае краязнаўчы актыў з ліку студэнтаў, а падрыхтоўка добрых настаўнікаў, нам здаецца, можа ісьці шляхам увядзеньня абавязковай практычнай дысцыпліны краязнаўства ў курсе нашых пэдагогічных устаноў, у прыватнасьці на Пэдфаку БДУ. Адсутнасьць у пераважнай большасьці нашых студэнтаў уяўленьня аб краязнаўчым руху, яго мэтах і значэньні, цяпер асабліва ставіць востра пытаньне аб увядзеньні абавязковага курсу краязнаўства на пэдфаку. Кузьня асьветы ня можа выпускаць спэцыялістых, не знаёмых з умовамі краю і пастаноўкай працы школы ў гэтым напрамку. Па ўзоры ўвядзеньня катэдр па краязнаўству ў пэдагогічных В.Н.У. і тэхнікумах у РСФСР неабходна ўвесьці такія катэдры ў пэд.-установах БССР *), надаўшы ім практычны і жыцьцёвы кірунак. Увага Наркамасьветы і організацый Унівэрсытэту павінна быць завострана ў гэтым-жа годзе.

*) Маецца на ўвазе Пэдфак БДУ.

Вось тыя галоўныя моманты, пры якіх вялася і будзе весьціся адказная праца студэнцтва БДУ ў галіне краязнаўства. У далейшым студэнцтва павінна пайсьці шляхам умацоўваньня організацыі краязнаўства, гэта значыць, захапіцца самай сутнасьцю справы, праводзячы ў жыцьцё тыя мэты, якія былі высунуты самым жыцьцём перад організацыяй. Мы бачым, што організацыйныя формы ў нас правільны. Гэта пацьвярджаецца практыкай працы мінулага і гэтага гадоў. Паглыбленьне зьместу краязнаўства ў Унівэрсытэце, увязкі з належнымі організацыямі—шлях будучай працы.

А. Аніхоўскі—В. Невядомскі.

## Выстаўка прац краязнаўчага гуртку пры Менскай 4 Савецкай Сямігадовай школе.

Сярод Менскіх Савецкіх школ 4-ая школа прыкметна сваёй значнай зацікаўленасьцю да краязнаўчай працы. Школа яшчэ з 1923 г. пачала прывучаць вучняў да краязнаўчай працы, але толькі ў 1926 г. гэтая праца атрымала пэўныя формы і пачала разьвівацца ў плянава-акрэсьленым напрамку. Цяпер вынікі двохгадовай краязнаўчай працы школы экспанаваны на выстаўцы, якая ў Менску зьяўляецца навіной і заслугоўвае пільнай увагі настаўніцтва і грамадзянства.

Цэнтрам краязнаўчай працы школы зьяўляецца дасьледваньне прамысловасьці г. Менску. Вакол гэтага пытаньня концэнтруецца, згуртоўваецца ўсё: і практыкаваньні вучняў у стылістыцы, у лёгічным афармленьні сваіх думак, і набыцьцё навыкаў у маляваньні, рысаваньні, складаньні плянаў, дыяграм і г. д. З гэтае прычыны палова экспонатаў выстаўкі характарызуе прамысловасьць г. Менску, як яна праламілася ў успрыняцьці дзяцей. Пакажам, якія заводы знаходзяць адбіцьцё на выстаўцы: 1) Смалакурны завод саўгасу імя Будзённага—плян заводу, пляны катлоў, узоры продукцыі; 2) Мылаварны завод; 3) Ганчарны завод (Бэйліна)—выгляд сьвірану (унутраны і надворны), ганчарнае кола, зарысоўкі ганчарных вырабаў і ўзоры начыньня ва ўсіх стадыях апрацоўкі; 4) Шкіпінарны завод—схэмы перагонных катлоў, халадзільнікаў, схэмы процэсу ачышчэньня шкіпінару, узоры продукцыі, бюджэт заводу і г. д. 5) Завод „Чырвоны хэмік"—у паказаных напрамках. Аб кожным з пералічаных заводаў ёсьць кароткае паведамленьне, у якім дадзена сьціслае апісаньне заводу. Больш падрабязнае апісаньне заводаў знаходзім у школьна-краязнаўчым часопісе „Наш Край", якога з 1923 г. ужо выдадзена 14 №№. Варта ўспомніць і аб гэтым часопісе. З 1923 г. да 1926 г. часопіс яшчэ шукаў шляхоў, яшчэ набіраўся моцы і ўсяго даваў патроху. Тут даваліся кароценькія географічныя апісаньні (р. Пярэспы і р. Нямігі), шклянай вытворчасьці Беларусі, апісаньне экскурсій

на Лысую гару і г. д. З 1926 г. часопіс робіцца больш грунтоўным, матар'ялы больш апрацаваны, можна знайсьці нешта новае ў досьледах. Так напр., у № 1 (6) за 1926 г. зьмешчаны цікавыя шлюбныя звычаі Менскіх яўрэяў, апісаньне сьвятаў у Менскіх татар, гісторыя Менскіх татар па літаратурных крыніцах, даступных вучням. У № 1 за 1927 г. дадзена поўнае апісаньне ганчарнага заводу Бэйліна. Тут нічога ня ўпушчана з вока юных дасьледчыкаў: організацыя ганчарніцтва, самы процэс вытворчасьці, формавальнае аддзяленьне, побыт рабочых і г. д. У № 1 за 1928 г. пададзены цікавыя весткі аб яўрэйскай народнай мэтэоролёгіі. Наогул побач з дасьледваньнем экономікі вучні значна працуюць па вывучэньні этнографіі. Так у розных №№ іх краязнаўчага часопісу дадзены апісаньні сьвята іом-кіпура (з таленавітымі малюнкамі вуч. Валі Клімавай), коляд у вёсцы пад Менскам, сьвяткаваньня Купалы і г. д.

Быт рабочых, бюджэт іх часу, бюджэт іх выдаткаў таксама знаходзіць сваё дасьледваньне на старонках часопісу. У № 3 за 1928 г. нават апісаны падрабязна пакой, у якім жыве рабочы, паказаны парадак дня рабочай-комсамолкі і вылічаны бюджэт рабочага. Найбольш поўнае экономічна-географічнае апісаньне заводу, якога толькі можна вымагаць ад вучня, дадзена ў № 5 за 1928 г. вучнем Мэндэлем Левіным (Апісаньне шкіпінарнага заводу—44 стр.).

Другім прыкметным разьдзелам на выстаўцы ёсьць экспонаты вучнёўскіх досьледаў яўрэйскага зямляўпарадкаваньня і землякарыстаньня. Вывучаны і адбіты ў працах два яўрэйскія землеробскія пасёлкі пад Менскам: 1) Нова Апалінараўка—індывідуальныя гаспадаркі (2 яўр. сям'і і адна беларуская)—абсьледваны ў канцы 1927 г. і 2) Сморгаўка („Арцель Свабода")—калгас. Першы пасёлак адлюстраваны пекнымі з мастацкага боку малюнкамі яго зімовых і летніх пэйзажаў (працы здольных вучняў С. Гэльберга і В. Клімавай), зарысоўкамі прылад і начыньня, узорамі насеньня, сабранага ў пасёлках і г. д.

Зразумела ад чыста краёвага матар'ялу перакідваецца мост да большых маштабаў: дыяграмы зямлябудаўніцтва сярод яўрэяў, лік індывідуальных і колектыўных гаспадарак сярод яўрэйскага насяленьня і г. д. Гэтыя досьледы зямляўпарадкаваньня сярод яурэяў таксама больш поўна дадзены ў часопісе, аб якім мы ўжо гаварылі (№ 1(8)—1928 г., № 6(13) і № 7(14).

У школьна-краязнаўчы часопіс трапілі толькі тыя працы, якія гуртком прызнаны найбольш каштоўнымі і апрацаванымі. Для незакончаных прац гурток практыкаваў публікацыю гэтых прац у т. зв. „Архіве" краязнаўчага гуртку 4-ай школы. У гэтым годзе вышлі 5 №№ „Архіву". У іх зьмешчаны абсьледваньні каля 10 бюджэтаў (рабочых, служачых і беспрацоўнага). Апрача гэтага ў „Архіве" зьмешчаны: 1) Апісаньне в. Прылукі, 2) апісаньне Сьляпянскага с. с. і 3) апісаньне паказальнай гаспадаркі Я. Ф. Пянько хут. Зацішша.

На выстаўцы экспонавана і вучнёўскае краязнаўчае картаграфаваньне, якое ўжываецца і ў школьнай практыцы: пляны г. Менску, Беларусі (Этнографічнай і Савецкай) і г. д.

Урэшце на выстаўцы ў дыяграмах і плякатах паказана ўся праца краязнаўчага гуртку на працягу гэтых гадоў: гісторыя гуртку з 1923 г. (ілюстраваная), пляны краязнаўчай працы школы (пляны абсьледваньня фабрыкі, саўгасу і вёскі) і г. д.

Гурток разьмясьціў на стале і тую літаратуру, якой ён карыстаўся ў сваёй працы. Большасьць яе мэтодычнага характару (каля 30 кніжак). „Наш Край" ня поўны комплект.

„Юнат" таксама значную працу рабіў. Культуры водарасьляў, акварыумы, тэрарыумы, разьвіцьцё розных жывёл у банках—усё гэта паказвае, што лёзунг на выстаўцы „праз вывучэньне свайго краю ў шырокі сьвет" школа праводзіць у жыцьцё.

Нельга не адзначыць, што значныя посьпехі краязнаўства ў 4-ай школе залежалі і ад загадчыка школы А. М. Станкевіча, які вызначаў для гэтай працы і сродкі (бюджэт гуртку каля 20 р. у год), чаго ў іншых школах няма, і ад здольнага кіраўніка гэтага гуртку настаўніка М. Я. Валасэвіча, які працаваў з вучнямі з 1923 г.

Дзякуючы гэтаму, ня дзіўна, што ў школе вырас актыў юных краязнаўцаў: Гатаў Ш., Іваноўскі А., Кауфман А., Ліўшыц Л., Левін М., Пікус М., Юхневіч Л., Гэльберг С., Клімава В., Кірыленка і Класінскі В.

Такім чынам лёзунг „краязнаўства аснова савецкай школы" бліскуча (у нашых умовах) апраўданы на краязнаўчай выстаўцы, якую організавала 4 Менская Савецкая Школа.

## Праца Менскага акруг. т-ва краязнаўства.

Грамадзка-экономічная сэкцыя Менскага акруговага т-ва краязнаўства вызначыла да выданьня статыстычны даведачнік па Менскай акрузе.

На нарадзе раённых статыстых Менскай акругі ад 25-27 траўня т. Аляксандраў зрабіў паведамленьне аб удзеле раённых статыстых у мясцовай краязнаўчай працы. Як высьветлілася з выступленьняў у спрэчках, у большасьці выпадкаў гэтыя працаўнікі ня ўцягнуты ў краязнаўчую працу. Прынята пастанова аб заснаваньні рэгулярнай сувязі між райстатыстымі і грамадзка-экономічнай сэкцыяй акруговага т-ва. Таксама прызнана неабходным зьвярнуцца ў раённыя т-вы краязнаўства з прапановай узмацніць экономічныя досьледы і ўцягнуць у гэтую справу раённых статыстых.

# Аб дзейнасьці Слуцкага раённа-гарадзкога краязнаўчага таварыства за 5 месяцаў 1928 г.

Ліквідацыя Слуцкай акругі, якая адбылася ў канцы 1927 г., значна адбілася на дзейнасьці і ўмовах працы Слуцкага краязнаўчага таварыства. Папершае, таварыства страціла 75% сваіх сяброў (было 150, засталося 52 ч.). Страта гэтая была ня толькі колькасная, але і якасная, бо сярод выбыўшых сяброў было шмат асоб прыхільных, якія спачувалі і дапамагалі справе краязнаўства. Падругое, таварыства было пастаўлена ў значна горшыя матар'яльныя ўмовы, дзякуючы скарачэньню бюджэту (раней 1.000 р., цяпер 300 р.). Потым прышлося ўрэзаць і праграму дзейнасьці. Затым ліквідацыя акругі адбілася яшчэ і ў тым сэнсе, што прайшло шмат часу, пакуль усё ўвайшло ў сваю звычайную калею. Такім чынам пачатак 1928 г. быў няспрыяючым для працы таварыства. Перад праўленьнем пераорганізаванага Таварыства паўстала пытаньне аб прыцягненьні новых сяброў і аб пашырэньні краязнаўчай сеткі. Праграму на 1928 г. прышлося давесьці да мінімуму з разьлікам на яе выкананьне. Праграма гэтая складалася прыблізна з наступнага:

1) У давядзеньні краязнаўчай сеткі да такой ступені, каб пры кожнай сямігодцы, пры кожным сельсавеце быў заснаваны краязнаўчы гурток.

2) У пабудове мэтэоролёгічнай станцыі і наладжаньні фэнолёгічных назіраньняў.

3) У вывучэньні садоўніцтва па Слуцкім раёне.

4) У апрацоўцы карты помнікаў старасьветчыны Слуцкага раёну.

5) У пашырэньні падпіскі на часопіс „Наш Край“.

6) У вывучэньні экономічнага і культурнага стану Слуцкага раёну.

7 У павялічэньні прыродна-географічнай і грамадзка-экономічнай частак музэю і набыцьці памяшканьня, якое адпавядала-б патрэбам і шпаркаму росту апошняга.

8) І ў выкананьні тых даручэньняў, якія даюцца рознымі сэкцыямі ІБК, ЦБК і акртаварыства.

Цяпер разгледзім, што зроблена на працягу 5 месяцаў у справе выкананьня намечанай праграмы і што застаецца выканаць да канца справаздачнага году.

Па пункту першым у сэнсе пашырэньня сеткі, зроблена наступнае:

Па ўсіх сельсаветах, па ўсіх хатах-чытальнях, па сямігодках таварыства разаслала адносьнікі аб неабходнасьці заснаваньня гурткоў і аб тэй карысьці, якую яны могуць прынесьці дзяржаве. Пры адносьніках былі прыкладзены статуты і прыкладны плян працы. Трэба сказаць, што вынікі пакуль што атрымаліся здавальняючыя. К пачатку 1928 г. краязнаўчая сетка складалася са Слуцкага раённа-гар. т-ва і 2 гурткоў (Лушнікоўская сямігодка, Слуцкая сямігодка) з агульным лікам сяброў ня больш 100. У сучасны момант сетка складаецца з раённа-гар. т-ва 125 асоб і 7 гурткоў, з якіх 6 пры сямігодках і 1 пры Цэлівіцкім сельсавеце, з агульным лікам усіх сяброў больш як за 500 чал. Застаюцца неорганізаванымі 2 гурткі пры слуцкіх яўрэйскіх сямігодках, на што надзеі вельмі мала з прычыны незацікаўленасьці як настаўнікаў, гэтак і вучняў, і пры некаторых сельсаветах, але справа аб заснаваньні гурткоў пры сельсаветах у хуткім часе пасунецца. 16 чэрвеня мае адбыцца раённая настаўніцкая конфэрэнцыя, дзе гэтае пытаньне будзе пастаўлена рубам.

Па пункту 2-м. У гэтым годзе т-ва паклапацілася аб водпуску Гарсаветам неабходнай колькасьці лесаматар'ялаў для пабудовы станцыі, а таксама асыгнавала 75 руб. на прагоны спэцыялісту і зарплату рабочым, зьвярнуўшыся да мэтэоролёгічнага бюро аб водпуску неабходных інструмэнтаў, якія ў мінулым годзе былі нам прапанованы. Пакуль што адказу ніякага не атрымалася. Акрамя гэтых мерапрыемстваў т-ва ўстанавіла вадамерны пункт для назіраньняў рэжыму вод і таксама сыстэматычна вядзе фэнолёгічныя нагляданьні.

Па пункту 3-м. Садоўніцтва вывучаецца шляхам заданьняў вучням школ, але пакуль што вынікі гэтае працы вельмі слабыя.

Па пункту 4-м. У сэнсе апрацоўкі карты помнікаў старасьветчыны справа стаіць здавальняюча. Атрымана значная колькасьць матар'ялаў, так што ў канцы году мы будзем мець трохвярстовую карту помнікаў.

Па пункту 5-м. У сэнсе пашырэньня падпіскі на часопіс „Наш Край“ таксама ёсьць некаторае палепшаньне. З павялічэньнем сеткі краязнаўства павялічваецца і колькасьць падпішчыкаў. Вядома, што тры гурткі выпісалі часопіс.

Па пункту 6-м. Адносна вывучэньня экономічнага і культурнага становішча Слуцкага раёну справа стаіць здавальняюча. У недалёкім часе мы будзем мець поўнае апісаньне раёну, якую працу заканчвае кіраўнік грамадзка-экономічнай сэкцыі т. Крыцкі.

Па пункту 7-м. Павялічэньне музэю ідзе досыць шпарка. У гэтым годзе набыта значная колькасьць матар'ялаў як прыродна-географічнага, гэтак і грамадзка-экономічнага характару. У прыватнасьці апрацаваны 2 гэрбарыі, адзін дрэўных парод, якія рэдка сустракаюцца, другі расьлін, апрацавана невялічкая дэндролёгічная колекцыя, потым колекцыя птушачых яек, набыта 11 модэлей рыбацкіх прылад, якія ўжываюцца на Князьвозеры. Паступілі модэлі ткацкіх прылад, апрацавана колекцыя монэт, апрацавана больш як за 100 фотоздымкаў для музэю і паступіла значная колькасьць іншых матар'ялаў, у тым ліку гістарычнага характару.

Цяпер застаецца разгледзець, што зроблена таварыствам у сэнсе выкананьня даручэньняў ІБК.

1) Сабрана некаторая колькасьць матар'ялаў аб прыродных фарбах Беларусі, якія ўжываюцца на мясцох.

2) Сабраны веды, хоць і ня ў значным ліку, аб фарбаваньні яек-пісанак.

3) Хутка будзе адасланы сьпіс паселішч Слуцкага раёну з націскамі.

4) Выканана шмат апытальнікаў аб словах „волаты, ваўкі, асілак“.

Акрамя пералічанага ў гэтым годзе Слуцкае таварыства краязнаўства прыняла ўдзел у часопісе „Наш Край“, надаслаўшы некаторыя матар'ялы, якія і былі надрукаваны, потым прыняла ўдзел у выстаўцы краязнаўчых фотографій і зарысовак, надаслаўшы 90 экспонатаў і нарэшце мы маем невялічкі нарыс гісторыі гор. Слуцку з часоў дагістарычных і да канца XIX ст. Потым адаслана праз ЦБК 150 нум. фольклёру.

Склад раённа-гар. таварыства.

Усяго сяброў—125. Праўленьне—9 асоб. Членаў і кандыдатаў КПБ—13 чал. ЛКСМ—29 ч., беспарт —83. чал.

Беларусоў—103, яўрэяў—19, расійцаў—2, іншых—1.

Настаўнікаў—33. Палітасьветпрацаўнікоў—2. Агрономаў—2. Дактароў—1, коопэратараў—1, статыстыкаў—1, служачых у іншых установах—1, студэнтаў пэдкурсаў—76.

За гэты час адбыліся 4 агульных сходы, на якіх зачытаны 2 даклады на тэмы: 1) Аб вытворчасьці Слуцкае фабрыкі паясоў у XVIII ст. і 2) Аб падарожы па Случчыне. Потым адбылася конфэрэнцыя краязнаўчых гурткоў. Праўленьне працуе, робячы пасяджэньні досыць рэгулярна амаль што тыдзень, хаця і пры нязначным ліку членаў праўленьня.

Да недахопаў трэба аднесьці слабую працу сэкцый, а таксама вялае наведваньне пасяджэньняў праўленьня некаторымі яе членамі.

Да перашкод адносіцца немагчымасьць набыць памяшканьне пад музэй, які ўжо страціў сваё значэньне, набыўшы характар кладоўкі для складаньня рэчаў. Клопаты праўленьня перад Гарсаветам не даюць ніякіх вынікаў, з боку апошняга не наглядаецца належнай зацікаўленасьці да спраў краязнаўства.

## Полацкая акруга.

### I. Вульскае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва налічвае 180 сяброў, але ў апошні момант большасьць іх фіктыўныя сябры. Па раёне т-ва заснавала 10 гурткоў, з іх працавала 3-4. Праўленьне складаецца з 9 асоб—прадстаўнікоў ад сельсаветаў. Гэта перашкаджае наладзіць рэгулярную працу. Існуе рабочы прэзыдыум (старшыня, намесьнік і сакратар), але ўсю бягучую працу вядзе старшыня т-ва т. Палашчанка. Праца т-ва галоўным чынам культурна-гістарычная. Шмат экспонатаў такога характару т-ва пераслала ў Полацкі Музэй. Т-ва сабрала больш 1000 слоў жывой мовы, апісала некалькі гарадзішчаў, зьбірае весткі аб „Залатым Шляху“ (Лепель, Полацак, Вулла, Віцебск), колекцыі карысных выкапняў. Усё сабранае няма дзе захаваць і сабранае часта гіне. Пэрспэктыў для адчыненьня раённага музэю няма. Умовы для краязнаўчай працы ў раёне да апошняга часу былі вельмі няспрыяючыя, бо актыўныя працаўнікі (4-5) былі раскіданы па раёне. Цяпер пэрспэктывы больш спрыяючыя: Райком КПБ, да якога зьвярнуўся прадстаўнік ЦБК, абяцаў зьвярнуць увагу на пашырэньне краязнаўчае працы ў раёне, на моральную і матар'яльную дапамогу раённаму т-ву з боку савецкіх, партыйных і профсаюзных організацый.

### II. Вушацкае раённае т-ва.

У Т-ве 80 сяброў. Праца яго гуртуецца вакол Музэю. Пад Музэй РВК адлаў старую вуніяцкую царкву з яе архівам. Экспонаты Музэю пераважна культурна-гістарычныя: цікавыя каменныя прылады, скамянеласьці, старыя кнігі, рукапісныя докумэнты, старыя абразы, разьба з дрэва і г. д. Праўленьне т-ва складаецца з 5 сяброў. Уся праца праводзіцца фактычна старшынёй т. Вурбанам (сакратар РВК). РВК дапамагае т-ву і цікавіцца яго працай. Так, напрыклад, старшыня РВК ў сваім дакладзе Саўнаркому адзначыў карыснасьць працы раённага т-ва і падкрэсьліў неабходнасьць пасылкі ў гэтым летнім часе археолёгічна-гістарычнай экспэдыцыі. У сучасны момант т-ва запоўніла каля 10 анкет (монографіі паселішч), сабрала каля 2.000 слоў, заканчвае рэгістрацыю „валатовак“ па раёне, забрала летапісы мясцовай царквы і вывучае іх. У апошніх ёсьць цікавыя весткі аб паўстаньні 1863 г., статыстыка школ раёну, пачынаючы з 1857 г. і г.д. Т-ва мае і невялікія сродкі, што складаюцца з акуратна паступаючых сяброўскіх складак. Дапамагае сродкамі і РВК. Т-ва мае ў сваім карыстаньні і $1^1/_2$ гэкт. саду каля Музэю.

22/V Т-ва склікала пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК агульны сход для сяброў т-ва і наогул для сяброў саюзаў. Быў заслуханы даклад прадстаўніка ЦБК і намечаны чарговыя заданьні ў працы на летні перыод.

### III. Лепельскае раённае т-ва.

У склад т-ва ўваходзіць каля 60 сяброў, але актыўна дапамагаюць працы т-ва ня больш 10. Ня гледзячы на гэта, дзякуючы актыўнай працы Праўленьня і асабліва няўтомнай энэргіі старшыні яго т. Гарасімовіча, праца т-ва ў цэлым прыймае плянавы характар. Т-ва можа быць прыкладам для ўсіх раённых т-ваў Беларусі. Яно прыймае паступова характар даведачна-навуковага бюро. У ім паступова згуртоўваецца, концэнтруецца ўвесь неабходны ілюстрацыйны, статыстычны, экспозыцыйны матар'ял аб жыцьці раёну. Да гэтага часу т-ва сабрала наступныя матар'ялы, якія без комэнтарый характарызуюць напрамак і зьмест працы т-ва: 1) матар'ялы аб дзейнасьці ўстаноў раёну: справаздачы РВК за апошнія гады, акты абгляду сельсаветаў інспэктарам Полацкага АВК, аб дзейнасьці Лепельскага с. г. т-ва; 2) статыстычныя даныя аб Бярэзінскім водным шляху; 3) матар'ялы аб дзейнасьці раённай міліцыі і суду; 4) матар'ялы аб алькоголізьме ў раёне (весткі дзяржсьпірту); 5) апісаньне Лепельскага Агровучастку; 6) сьпіс насялённых пунктаў; 7) гаспадарчы стан раёну перад

10 гадавінай Кастрычнікавай рэволюцыі; 8) апісаньне Зацяклянскага с. с. і г. д.

Т-ва карыстаецца фотоапаратам і ўжо мае значны лік фотографій.

Праца т-ва мае рэальныя вынікі ў адчыненым у 10 гадавіну Кастрычніка музэі. Апошні цяпер налічвае каля 200 экспонатаў і мае добрую экспозыцыю. Яго пачынаюць наведваць—ужо зарэгістравана да 300 асобадзіночак. Музэй зьмяшчае цікавыя культурна-гістарычныя экспонаты, дыяграмы, ботанічныя і зоолёгічныя колекцыі. Заведзена цікавая сваёй ідэяй кніга „Лепельшчына", у якую мясцовыя краязнаўцы заносяць самае цікавае, што даведаліся пра Лепель і яго раён: творчасьць мясцовых сялян, цікавыя весткі аб знаходках на раёне, розныя інформацыі і г. д. Заведзена музэем яшчэ „кніга прапаноў", у якую заносіцца ўсё, што мае мэту палепшыць жыцьцё раёну, узьняць яго культурны ўзровень. У канцы траўня т-ва пры дапамозе ўсіх школ раёну наладжвае шырокую пэдагогічную і школьна-краязнаўчую выстаўку, прыстасаваўшы яе да трохдзённай настаўніцкай конфэрэнцыі. На організацыю выстаўкі РВК асыгнаваў 50 руб. Выстаўка бязумоўна значна папоўніць раённы музэй.

24-25 траўня пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК былі наладжаны ў Лепелі тры краязнаўчыя сходы: сход асьветнікаў, сяброў іншых саюзаў і вучняў 7-кі. Былі разгледжаны пытаньні аб спосабах ажыўленьня краязнаўчай працы ў Лепельскім раёне.

**IV. Полацкае акруговае т-ва краязнаўства.**

Пасьля 3-яй Акруговай Конфэрэнцыі па краязнаўству адбылося 3 пасяджэньні Праўленьня. Праца вядзецца ня ўсімі сэкцыямі. Больш працуе культурна-гістарычная, менш грамадзка-экономічная. Іншыя не працуюць. У горадзе краязнаўчая праца гуртуецца вакол 7-ак, у якіх заснаваны вучнёўскія гурткі. Уся праца т-ва пачынае гуртавацца вакол музэю. Апошні пачынае адыгрываць значную ролю ў культурным жыцьці. Яго з кожным днём наведвае ўсё большы лік экскурсантаў. Пры музэі ёсьць краязнаўчая бібліотэчка.

Пасьля конфэрэнцыі т-ва пачало займацца такой працай: складае падрабязную археолёгічную карту акругі; з гэтай мэтай т-ва зьвязалася з раёнамі, разаслаўшы каля 450 абежнікаў па краязнаўчых організацыях і культурных установах з просьбай даць вычэрпваючыя весткі аб помніках старажытнасьці і прыроды ў раёне,—частку адказаў т-ва ўжо атрымала.

Другая задача, якую цяпер т-ва вырашае,—складаньне брошуры аб культурна-гістарычным значэньні і помніках Полацку. Старшыня АВК т. Кондраль абяцаў вызначыць мінімальныя сродкі на выданьне гэтага свайго роду „экскурсійнага дарадніка" па Полацку.

Т-ва добра зьвязана з Акруговай Плянавай Камісіяй, якая мае каля 2.000 р. на краязнаўчыя досьледы. Гэтым летам Камісія мае намер дапамагчы як акруговаму т-ву, так і т-ву краязнаўства пры БДУ у іх досьледах вазёр, расьліннасьці, карысных выкапняў і наогул вытворчых сіл акругі.

На пасяджэньні Праўленьня 19/V пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК былі намечаны чарговыя заданьні на летні пэрыод: 1) правесьці перавучот сяброў т-ва і ліквідаваць сяброўскую запазычанасьць, 2) наладзіць у мэтах популярызацыі краязнаўства этнографічны вечар, 3) у пачатку чэрвеня склікаць агульна-гарадзкую краязнаўчую конфэрэнцыю вучняў, 4) адчыніць пры музэі пэдагогічны куток, 5) паслаць ад т-ва свайго прадстаўніка ў Бабруйск для азнаямленьня з працай краязнаўчага музэю, 6) наладзіць у складзе сяброў Праўленьня і т-ва невялікую экспэдыцыю ў адзін з раёнаў Полаччыны.

Ан. Ш—іч.

---

# Бібліографія.

*Наркомпрос—Главнаука. Центральное Бюро Краеведения. Резолюции II всероссийской конференции по краеведению* (11—14 декабря 1927 г.). Издание Центрального Бюро Краеведения. Москва — 1928. 243×155 м., 34 стар. 3000 экз. Ц. 25 к.

Гэтыя надзвычайна цікавыя і каштоўныя рэзолюцыі вышлі з невялікім спазьненьнем, што ні ў якім разе не зьмяншае іх значэньня. Яшчэ доўгі час яны будуць служыць багатым кіраўнічым матар'ялам як у звычайным, так і школьным краязнаўстве. Гэта трэцяя конфэрэнцыя зрабіла ўжо вялікую працу тым, што аднавіла ідэёвае адзінства краязначага фронту. У нас, на Беларусі, таксама не наглядалася адзінства ў справе разуменьня краязнаўства і яго задач. Праўда, з самага слова „краязнаўства" відаць, што яно азначае пазнаньне краю, але яно зьявілася нядаўна, а пазнаваньне краю існавала спрадвеку. Вывучалі краіну аматары, дасьледвалі акадэміі і навуковыя працаўнікі школ, пазнаньне яе організоўвалі земствы і г. д. і ўсё-ж ніхто не называў гэтай працы краязнаўствам. Ужывалася часамі слова „радзімазнаўства", але пад ім часьцей за ўсё разумелі пазнаньне бацькаўшчыны, усяе стараны, а ні краю—часткі яе. Пераждыткам гэткага разуменьня тэрміну зьяўляецца той зьмест, які часамі ўкладваюць у нас у слова краязнаўства, называючы ім усебаковае пазнаньне Беларусі, г. зн. бацькаўшчыназнаўства, або беларусазнаўства. Паміж тым паняцьце „край" у нас у пэўнай меры акрэсьленае — гэта адносна невялікая тэрыторыя, ня большая за нашую акругу. Стыхійны рост краязнаўчага руху на Беларусі сам сабою раёнаваў яе ў краязнаўчым

стасунку па адміністрацыйным прынцыпе. У кожнай акрузе ёсьць акруговае таварыства краязнаўства, якое вывучае толькі сваю акругу. Такім чынам паняцьце „край“ для яго тэрыторыяльна супадае з паняцьцем „акруга“ і вывучэньне краю, як часткі Беларусі, можа зьяўляцца часткаю беларусазнаўства, але паняцьце „беларусазнаўства“ ні ў якім разе ня можа супадаць з паняцьцем „краязнаўства“.

Несьвядомае вывучэньне краю ў процэсе працы, азнаямленьне з ім аматара для задаваленьня свайго пачуцьця замілаваньня ім, дасьледваньне яго вучоным у мэтах узбагачэньня сваёй галіны навукі, пазнаньне ўсёй старaны, значыць, не зьяўляецца краязнаўствам. Яно зьяўляецца тады, калі вывучэньнем краю пачынаюць займацца спэцыяльна для гэтага організаваныя колы насельніцтва са сьвядома пастаўленай сабе мэтай. Мэтай гэтаю зьяўляецца ўсебаковае пазнаньне краю ў яго мінулым і сучасным стане для зьмен яго на сваю карысьць. Старая зьява атрымала новую назву затым, што яна набыла новыя формы і адсюль—новы зьмест. Ранейшае пазнаваньне краю работнікамі сялянамі, аматарамі, вучонымі, практыкамі, організатарамі і г. д., адбываецца часьцей за ўсё ў процэсе звычайнай працы, для задаваленьня свайго замілаваньня да пэўнай галіны зьяў краю ў мэтах узбагачэньня свае галіны навукі, для скарыстаньня няведамых раней зьяў краю і г. д. і завецца ўжо краязнаўствам. Завецца так яно таму, што: а) адбываецца ў шэрагах колектыву—спэцыяльнай краязнаўчай організацыі; б) у сваім, аб‘яднаным у колектыў“ відзе мае мэтаю ўсебаковае пазнаньне краю для зьмен яго на сваю карысьць, бо в) працоўныя, што складаюць гэты колектыў, імкнуцца да ўсебаковага палепшаньня свайго жыцьця. Ва ўсім гэтым, разам з тым крыецца і вялікае, навуковае, асьветнае і практычнае значэньне краязнаўства. Каб зьмяніць край, яно павінна быць абапёрта на ўсе найноўшыя дасягненьні навукі і на спачуваньне мас працоўных. Краязнаўцы знаёмячыся з першымі, павышаюць свой культурны ўзровень, знаёмячы з вынікамі сваёй працы і практычнымі вывадамі з яе шырокія колы працоўных, павышаюць культурны ўзровень апошніх. Агульнымі сіламі практычныя вывады ажыцьцяўляюцца і дасягаецца практычная мэта краязнаўства—пэўная зьмена яго на карысьць працоўных. Калі краязнаўства пазбаўлена навуковасьці або асьветнага ці практычнага значэньня—яно абернецца ў дылетанцкую працу аматара, габінэтную дзейнасьць вучонага, або ў калупаньне практыка ў другарадных дробязях жыцьця, ці зьнікне зусім. Без вышэйпаказаных трох якасьцяй краязнаўства нямысьліма, як нямысьліма праца няпісьменнага настаўніка ў школе.

Такая самая эволюцыя паняцьця краязнаўства адбылася і на тэрыторыі РСФСР, толькі ў некалькі іншых маштабах і адценьнях. Разам з тым тамака пазнаньне вытворчых сіл краю супроцьставілася інтэгральнаму пазнаньню яго. Часамі і да нас далятала гэта псэўдарэволюцыйнае разуменьне краязнаўства. Такое спрошчваньне вялікай пасьлякастрычнікавай грамадзкай зьявы часьцей за ўсё абапёрта на непрадуманасьці яе да канца. Вывучэньне вытворчых сіл мае надзвычайна вялікае значэньне; яно можа даць сродкі і на вывучэньне іншых об‘ектаў нашага краю. Але ні ўсякае вывучэньне вытворчых сіл можа быць вытворчым. Вядомы памешчык Аніхоўскі гадоў 10 перад сусьветнай вайной вывучаў вытворчыя сілы кавалку тэрыторыі Беларусі; яго ўпраўляюшчы ў гэты час давoдзіў маёнтак да поўнага заняпаду; пан ніяк ня мог зрабіць практычных вывадаў з свайго вывучэньня вытворчых сіл. Вось—яскравы выпадак нявытворчага вывучэньня вытворчых сіл. Але ўявім сабе, што вывучэньне вытворчых сіл дае вялікія практычныя вынікі. У гэты-ж час не вывучаецца нацыянальны склад насельнасьці, соцыяльна-экономічныя ўзаемаадносіны яго пластоў і г. д. А ў выніку апошняга пэўная частка насяленьня краю, быць можа большасьць, церпіць нацыянальны ўціск, ня маючы сваіх школ, газэт і іншага, а таксама соцыяльна-экономічны ўціск кулакоў і спэкулянтаў, ня маючы абароны ўлады. Зьнішчыць уціск немагчыма, бо ён пакуль што невядомы. Такі стан рэчаў давядзе да таго, што гэта насельнасьць прыдзе і навучыць краязнаўства правільнаму разуменьню свайго зьместу. Вывучэньне вытворчых сіл дае шмат, але яно ня можа даць усебаковага веданьня краю для зьмен яго на карысьць яго насельнікаў. Гэта значыць, што вытворчым краязнаўствам зьяўляецца толькі тое, якое ўсебакова вывучае край і яго жыцьцё ў мінулым і сучасным для ўсебаковых зьмен яго на карысьць насельнікаў, а вывучэньне вытворчых сіл зьяўляецца толькі часткаю краязнаўства. З прычыны яе важнасьці яна зьяўляецца першачарговаю працаю прыродазнаўча-географічных сэкцый мясцовых краязнаўчых організацый.

Такім чынам большасьць рускіх краязнаўчых організацый, а нашы амаль усе,—комплексныя і ажыцьцяўляюць інтэгральнае пазнаньне краю.

Існаваньне нашых нешматлічных об‘ектных організацый, як напр., гурткоў краязнаўства пры доктарскіх сэкцыях саюзу мэдсанпрацы, што вывучаюць пэўныя об‘екты і санітарныя ўмовы і стан насельнасьці, хваравітасьць яе і г. д. не парушаюць разуменьня краязнаўства, як усебаковага пазнаньня краю. У агульнай схеме нашага краязнаўчага руху яны зьдзейсьніваюць усебаковае пазнаньне краю, так як над гэтым працуе культурна-гістарычная сэкцыя напр., комплекснага таварыства, бо краязнаўца, што вывучае малюнак данага краю на тканінах XVIII веку. Канцавою мэтаю ўсіх іх зьяўляецца ўсебаковае пазнаньне краю, што і ажыцьцяўляе іх колектыў, аб‘яднаны ў агульную сетку організацый краязнаўства.

Яшчэ адно ўхіленьне ад правільнага разуменьня краязнаўства складалася з таго, што яно часамі разумелася, як комплекс ведаў аб даным краі. Але, як толькі атрыма-

ліся першыя вынікі краязнаўчай дзейнасьці мясцовых організацый, гэты комплекс ведаў аб даным краі атрымаў назву гэтага краю, г. зн. сваю ўласную назву—Віцебшчына, Аршаншчна, Магілеўшчына і да т. п. Правільнасьць гэтага сьцьвердзіла і практыка нашай школы, якая грунтуецца на краязнаўстве, г. зн. уласным пазнаваньні акаляючага жыцьця, а не на аўтоматычным апанаваньні комплексам ведаў аб сваім краі. Адсюль можна зрабіць правільны вывад, што дзейнасьць вучняў зьяўляецца краязнаўчай, як і дзейнасьць мясцовай дасьледчай станцыі, мясцовага музэю, мясцовага архіву і да т. п. Але ўся іх дзейнасьць не зьяўляецца краязнаўствам, бо ня мае ўсіх трох уласьцівасьцяй краязнаўства: добравольна і сьвядома пастаўленай сабе мэты пазнаньня краю, організаванага колектыву для яе ажыцьцяўленьня і зьмен краю на сваю карысьць.

Такім чынам гэта азначэньне краязнаўства і яго мэты, зробленае на аснове існуючай практыкі нашага краязнаўчага руху, пазбаўляе нас ад цьмяных тэорэтычных разважаньняў на гэтую тэму і дазваляе дакладна вызначыць пэўныя даныя адносна гісторыі краязнаўства, організацыйных форм яго і пэўных відаў краязнаўчай дзейнасьці ў сучасны момант. Такое азначэньне краязнаўства ў РСФСР зрабіла III ўсерасійская краязнаўчая конфэрэнцыя, аднавіўшы, як мы казалі ўжо, ідэёвае адзінства крязанаўчага фронту ў РСФСР. Але ні толькі ў гэтым значэньне конфэрэнцыі. У сваіх рэзолюцыях па шматлічных дакладах яна вызначыла шэраг конкрэтных задач у галіне краязнаўства: для як-найхутчэйшага вырашэньня іх. Асабліва важнымі для настаўніка, і ня толькі ў РСФСР, а і ў нас, зьяўляюцца рэзолюцыі па дакладах у сэкцыі школьнага краязнаўства. а) на даклады: „Краеведение и школа"; „О советском краеведении в школе" і „Значение краеведения для школы і школы для краеведения"; б) на даклады; „Какой материал следует сообщать учителю в уезде и как его использовать", „Какой материал необходимо дать учителю для школьной краеведческой работы в масштабе губернии"; „Какой краеведческий материал может получить школа от учреждений и организаций, обслуживающих волость и как его можно использовать в программно-методической и общественной работе школы" і „По вопросу о краеведном пособии для школы"; в) на даклады: „О преподавании краеведения в ВУЗ'ах" і „Задачи кафедр краеведения в Педвузах и Педтехникумах"; г) на даклад „О работе комсомола по краеведению". Гэтыя рэзолюцыі, а таксама і тэзісы па дакладах, апублікаваныя ў „Бюлетэнях" конфэрэнцыі (№№ 1-6. 1927), варта-б было абмеркаваць у мэтодычных колектывах.

М. І. Касьпяровіч.

**Рунь.** Журнал народнае творчасьці. Адказны рэдактар *Рыгор Бахта*. Выданьне сьвіслацкай краязнаўчай камісіі № 1. Сьвіслач, лістапад 1924 г. Рукапісны, памерам 175×215 мм. 60 стар. Тыраж і цана не паказаны.

**Наш раён.** Рэдактар *В. Купцэвіч*, часопіс Смалявіцкага раённага таварыства краязнаўства, № 1. Смалявічы, студзень-люты 1928 г. На пішучай машынцы, памерам 183×263, 16 стар. Тыраж і цана не паказаны.

**Наш раён.** Рэдактар *В. Самцэвіч;* члены рэдакцыйнай колегіі: *Р. Рамановіч, С. Нікіфаровіч, П. Стрыгуцкі.* Часопіс Барысаўскага раённага таварыства краязнаўства, № 2. Барысаў 1928 г. На ротатары 208×348 мм., 34 стар. Тыраж і цана не паказаны.

Яшчэ ў 1924 г., калі толькі пачыналася масавая краязнаўчая чыннасць у БССР, перад мясцовымі краязнаўчымі організацыямі паўстала задача выдаваньня прац сваіх сяброў. Першаю такою спробаю рэалізаваньня краязнаўчай творчасьці і зьявіўся часопіс „Рунь", яшчэ нікім нідзе не апісаны. Рэдакцыя ў перадавым артыкуле вызначала надзвычайнае багацьце беларускай народнай творчасьці і яе каштоўнасьць; усе запісы фольклёру, зробленыя сябрамі Сьвіслацкае камісіі краязнаўства і краязнаўцамі з суседніх раёнаў, рэдакцыя мела зьмяшчаць у часопісе „ў першапачатковым выглядзе". Але апрача аддзелу фольклёру, рэдакцыя ў програме часопісу вылучыла і іншыя: а) слоўніку краёвых слоў, б) „ведаў мясцовага гатунку і ўспамінаў аб мінуўшчыне", в) хронікі і г) паштовую скрынку. З прычыны недахопу падрыхтаваных краязнаўцаў у сваім краі, рэдакцыя не магла абяцаць чытачом свайго часопісу навукова-апрацаваных матар'ялаў . Яна пісала, што будзе „даваць толькі сырыя матар'ялы, а дасьледваньне яго няхай робяць вышэйшыя навуковыя ўстановы Менску". Але вельмі трудна вызначыць дзе канчаецца толькі зьбіральніцкая праца, а дзе пачынаецца апрацоўка матар'ялаў; часамі ўжо ўкладаньне пляну зьбіраньня зьяўляецца зародкам апошняй, таму зразумела, што ў часопісе знашлі сабе месца і першыя ўласна краязнаўчыя працы: „Места Сьвіслач" (геаграфічнае апісаньне) і „Бацькавы казкі" (апавяданьне аб расказваньні бацькам аўтара казак). З запісаў ў часопісе зьмешчаны: „Швэдзкае спаленьне (легенда)", „А кадук яго знаў (байка)", „Пад Ашукаў (бацькава байка)", 15 нумароў розных песень, „слоўнічак" з 44 словаў, 11 прыказак і 1 загадка. Недахопамі гэтага цікавага, рэальна задуманага, часопісу зьяўляецца тое, што пераважная большасьць яго матар'ялаў належыць аднаму краязнаўцу (*Р. Бахце*), паходзіць з радзімы апошняга (Случчына), а ня данай мясцовасьці, запісана не фонэтычна, а згодна правапісу і г. д., але ўсё гэта не зьмяншае каштоўнасьці першай, вядомай нам, спробы выдаваньня мясцовага краязнаўчага часопісу.

З бегам часу мясцовая краязнаўчая чыннасьць удасканальвалася і часопісы, якія зьявіліся ў 1928 г., значна выпярэдзілі „Рунь".

Смалявіцкі „Наш раён" згодна свайму перадавому артыкулу *В. К.* зьявіўся для таго, каб назапашваць мясцовы краязнаўчы матар'ял у пісьмовым відзе, фіксаваць працу

мясцовых краязнаўцаў і даваць узоры рознага роду краязнаўчых прац. Програма часопісу складаецца з 5 аддзелаў: а) агульнага, у якім маюць зьмяшчацца пераважна кіраўнічыя матар'ялы; б) прыродна-географічнага, в) грамадзка-економічнага і г) культурна-гістарычнага, у якіх маюць зьмяшчацца матар'ялы і працы мясцовых краязнаўцаў і д) хронікі. У другім аддзеле часопісу зьмешчаны „Гісторыя „Лубяной" і „Мачалішча" (*М.Сіліча*) з плянамі іх і „Ярашчына гара" (*Мурашкі*). У грамадзка-економічным аддзеле знаходзім „Байку пра Мікіту-батрака, Юрыя сьвятога і жыда Моську", „Заклікаўне вясны", „Масьляніцу", „Попраткі" і „Вясковыя прыпеўкі" у запісах: *А. Мурашкі, М. Бык, С. Портман. В. Кулінчык, і М. Лучонак*. Культурна-гістарычны аддзел складаецца з паданьня пад назваю „З гісторыі Чарніцкага кургана" ў запісе А. Антонава. Аддзел хронікі падае цікавыя весткі і, паміж іншым, аб „тыдні птушак"; на працягу апошняга вучнямі беларускай Смалявіцкай сямігодкі пастаўлена 313 шпакоўніц вучнямі Забалацкай школы—113 і вучнямі Юраўскай—60, а ўсяго—486. Гэта дасягненьне асабліва трэба вітаць. Недахопам часопісу, як і ў папярэднім выпадку, зьяўляецца нефонэтычны запіс фольклёру. Наогул-жа часопіс утварае вельмі прыемнае ўражаньне; да рэчы—вокладка, напісаная ад рукі, з малюнкам чорным на шэрым фоне зьяўляецца вельмі шчырым і непасрэдным тварам часопісу, які ветла ўводзіць чытача ў зьмест яго.

У Барысаўскім „Нашым раёне" з галіны мэтодычна-краязнаўчых матар'ялаў зьмешчаны, „Краязнаўства ў працы профсаюзных організацый" (*В. Самцэвіча*) і „Анкета па вывучэньні глінянай вытворчасьці ў Барысаўскім раёне" (*Ю. Мазінга* і *В. Самцэвіча*). Наогул-жа зьмест яго даволі featуразнастайны і складаецца з наступных артыкулаў, апрача вышэйназваных: а) „Дзяржаўны паляўнічы заказьнік" (*С. Нікіфаровіча*), б) „Сродкі павялічэньня ўраджайнасьці зімовага збожжа (па дасьледваньні Стара-Барысаўскага сельска-гаспадарчага тэхнікуму)" *(С. Т.)*, в) „З гісторыі б) фабрыкі „Вікторыя" (*Я. Бабіцкай, С. Бродкінай, А. Верабей.* і *Р. Фрыдляндэр),* г) „Лесапільны завод Барысаўскага комбінату („*А. Вярцінскай, М. Апялінскай, П. Назарук, А. Дзямідчык* і *М. Турчыновіч),* д) „Гліняная вытворчасьць у мястэчку Чарняўцы Барысаўскага раёну" *(Саснаўца),* е) „Цагельная вытворчасць у Мяшчанскім сельсавеце, Барысаўскага раёну" *(С. Мачульскага),* э) „Краязнаўчая літаратура па вывучэньні гор. Барысава і Нова-Барысава „бібліографічны паказчык" *В. Самцэвіча),* ё) „Ход вясны ў гор. Барысаве за 1928 г." *(С. Нікіфаровіча),* ж) „Пушны промысел у Барысаўскім раёне за паляўнічы сэзон 1927/28 г." *(Сьцяпанава),* з) „Праца Барысаўскага раённага таварыства краязнаўства" *(С.Н.* і *В.С.)* і і) заметка аб „дні птушак" у Барысаве, у якім прымала ўдзел каля 600 вучняў, што, паставілі 115 шпакоўніц і дуплянак. Як бачым, не прадстаўлены культурна-гістарычны матар'ял, этнографія раёну і інш., але ў адным нумары цяжка даць усебаковасьць; трэба спадзявацца, што часопіс дасягне яе на працягу далейшага выхаду свайго. Артыкул „Краязнаўства ў працы профсаюзных організацый" зьмешчаны ў часопісе „Наш Край" (Менск, 1928, № 4) і заміж яго варта было зьмясьціць што іншае, хоць-бы той фольклёр, аб якім успамінаецца ў артыкуле „Праца Барысаўскага раённага таварыства краязнаўства". Праўда, пажадана, каб мясцовая організацыя ў сваім часопісе сабрала ўсё, што калі-небудзь і дзе-небудзь было пра яе край напісана, але гэта варта рабіць толькі тады, калі *ўся* праца мясцовых краязнаўцаў зафіксавана ў часопісе і яшчэ застаецца магчымасьць перадрукоўваць з іншых выданьняў. Увесь матар'ял гэтага, як і папярэдняга, часопісу добраякасны і ім змогуць карыстацца навуковыя работнікі ў сваёй працы па вывучэньні Беларусі. Рэдакцыя павінна паклапаціцца, каб друк выходзіў больш чытэльны і каб усюды ў тэксьце былі „ў" і „і" заміж „у" і „и" (купіць для машынкі, на якой пішацца орыгінал, літары; яны каштуюць нядорага), бо гэта мае вялікае выхаваўчае значэньне для чытачоў-вучняў. Вокладка гэтага часопісу надрукавана звычайным друкарскім спосабам; сброшураваны нумар удала.

Умовы выданьня часопісаў, як і наогул працы краязнаўчых організацый, што іх выдаюць, вельмі цяжкія. Так, згодна вестак часопісу ў Барысаўскай організацыі на 1 красавіка 1928 г. было толькі 11 р. 72 к.; музэй ня мае сродкаў на ахову і нават ацяпленьне; з 55 сяброў організацыі прымае ўдзел у працы толькі 19 чал. і г. д. Тым большую каштоўнасьць маюць гэтыя часопісы выданыя ў такіх надмерна цяжкіх умовах. Раённыя выканаўчыя камітэты гэтых раёнаў павінны даць матар'яльную падмогу сваім організацыям падобна таму як гэта зрабілі іншыя раённыя выканаўчыя камітэты ў сваіх раёнах. Мясцовыя краязнаўчыя часопісы маюць вельмі вялікае практычнае, асьветнае і навуковае значэньне. Яны разам з музэямі зьяўляюцца першымі конкрэтнымі вынікамі мясцовай краязнаўчай чыннасьці. Таму іншыя краязнаўчыя організацыі, якія яшчэ не выдаюць сваіх часопісаў, павінны прыступіць да гэтай справы. Умовы працы ўсюдах амаль аднолькавыя і ўсюдах выдаваньне часопісаў магчыма. Гэта давялі вышэйназваныя організацыі.

Некалькі дробных заўваг: трэба паказваць тыраж і цану нумару; заміж псэўдонімаў ставіць імя і фамілію поўнасьцю—пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі гэта цалкам магчыма; назву часопісу лепш даваць па назьве раёну, сельсавету і г. д. а то, калі ў нас будзе сотня „Нашых раёнаў", ды некалькі сот „Нашых сельсаветаў", дык трудна будзе імі карыстацца.

М. Касьпяровіч.

# ОРГАНІЗАВАНАЕ ВЫВУЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ*).

## БІБЛІОГРАФІЧНЫ ПАКАЗЧЫК.

Гармізэ і Ракаў.

1926.—К абсьледваньню нізавога коопэрацыйнага апарату (з програмай).

„Наш Край“, Менск, 1926, № 4—5, ст. 64—72.

[ . . .

1926.—Інструкцыя для запаўненьня анкеты аб вясковых промыслах і хатніх рамёствах Беларусі.

„Наш Край“, Менск, 1926, № 4—5, ст. 73—76.

[ . . .

1926.—Да ўсяго грзмадзянства БССР (аб зьбіраньні біографій дзеячоў рэволюцыі).

„Наш край“, Менск, 1926, № 6—7, ст. 68.

[ . . .

1926.—Ад Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы (аб хібах зьбіраньня словаў).

„Наш Край“, Менск, 1926, № 10—11, ст. 61—62.

Касьпяроовіч М.

1926.—Краязнаўства ў сучаснай графіцы (аб зьбіраньні матар'ялаў).

„Наш Край“, Менск, 1926, № 12, ст. 35—42.

(Касьпяровіч М.)

1927.—(Мэтодыка і організацыя зьбіраньня і ўкладаньня Віцебскага краёвага слоўніка).

„Віцебскі краёвы слоўнік“, Віцебск, 1927 ст. IX-XIX.

Рак.

1927. „Програма па вывучэньні хатніх рамёстваў і саматужнай прамысловасьці Беларусі“.

„Працы II ўсеб. краязн. зьезду“, Менск, 1927, ст. 57—63.

Аляксандраў.

1927.—Вывувучэньне мястэчка.

„Працы II ўсеб. краязн. зьезду“ Менск, 1927, ст. 73—80.

Байкоў М.

1927.—Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу на мясцох за 1926 г.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 1, ст. 36—39.

Шлюбскі Ал.

1927.—Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 1, ст. 22—35, № 2, ст. 12—23.

Цьвікевіч Ів.

1927.—Доктар і краязнаўчая праца.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 3, ст. 3—6.

[ . . .

1927.—Аб зьбіраньні народнага слоўнікавага матар'ялу ў беларускай мове ў 1927 г.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 3, ст. 55—57.

[ . . .

1927—Анкета аб сучасным стане народнага мастацтва.

„Наш Край“, Менск 1927, № 4, ст. 61—62.

[ . . .

1927—Схэма санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі.

„Наш Край“, Менск. 1927 № 6—7 ст. 81—90.

Шлюбскі А.

1927—Вывучэньне друкаваньня тканіны.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 8—9, ст. 79—81.

[ . . .

1927—Організацыя мэдычна-санітарнага вывучэньня вёскі.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 11, ст. 37—38.

Гарэцкі Г.

1927—Дасьледчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы і краязнаўства.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 10, ст. 34—35.

Грыневіч А.

1927—Агляд музычнага фольклёру.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 4 ст. 67.

[ . . .

1927—Тэрмінолёгічная работа ў Інбелкульце і зьбіраньне народных тэрмінаў.

„Наш Край“, Менск, 1927, № 12, ст. 67—70.

Касьпяровіч М.

1927—Вывучэньне культурнага стану краю Менск 1927.

Касьпяровіч М.

1928—Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну.

„Наш Край“ Менск 1928, № 1.

**Прыродазнаўчае вывучэньне краю.**

Брадоўскі.

1925 — Геолёгічнае вывучэньне Віцебшчыны.

„Віцебшчына“ Віцебск 1925, ст. 91—95.

Лунгерсгаўзен Ф.

1925—Кароткія програмы для вывучэньня рэкаў, вазёр і балот мясцовага краю.

„Віцебшчына“ Віцебск 1925, ст. 96—112.

[ . . .

1925—Лясная анкета.

„Віцебшчына“ Віцебск 1925, ст. 125.

[ . . .

1925—Мінімальная програма фэнолёгічных назіраньняў.

„Віцебшчына“ Віцебск 1925, ст. 126—127.

Васількоў.

1925—Як зьбіраць расьліны.

„Наш Край“, Менск, 1925, № 1 ст. 34—37.

[ . . .

1925—Мінімальная програма фэнолёгічных нагляданьняў.

„Наш Край“, Менск, 1925, № 1, ст. 54—55.

Тэрлецкі Б. К.

1925—Кароткая інструкцыя да збіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі.

„Наш Край“, Менск, 1925, № 2. ст. 31—40.

[ . . .

1925—Апытальны ліст для атрыманьня адказаў аб карысных выкапнях (прыродных багацьцях) Беларусі.

„Наш Край“, Менск, 1925, № 2, ст. 41—42.

Фядзюшын.

1926—Месца прыродазнаўства ў краязнаўчай працы.

„Працы I ўсеб. краязн. зьезду, Менск 1927, ст. 45—48.

Зьбіткоўскі М.

1926—Аб морве і гадоўлі шаўковага вусеня ў Слуцкай акрузе (з анкеткай).

„Наш Край", Менск, 1926, № 1, ст. 29.
Палянская.
1926—Аб удзеле краязнаўчых організацый у справе геоботанічнага дасьледваньня Беларусі.
„Наш Край", Менск, 1926, № 1, ст. 30—32
Салаўёў П.
1926—Аб вывучэньні маляры.
„Наш Край" Менск 1926, № 2—3, ст. 39—40.
Яцанткоўскі.
1926—Аб зьбіраньні шасьціногіх у пачатку вясны.
„Наш Край", Менск, 1926, № 2—3 ст. 41—43.
Зьбіткоўскі.
1926—Аб збіраньні лекавых траў.
„Наш Край", Менск, 1926, № 4—5, ст. 20—25.
[ . . .
1926—Парадак разбору матар'ялаў экскурсій. (Першыя крокі энтомолёга).
„Наш Край" Менск, 1926, № 4—5, ст. 77—78.
Грамыка М.
1926—Геолёгічныя матар'ялы і краязнаўчыя гурткі.
„Наш Край", Менск, 1926, № 6—7, ст. 38—44.
[ . . .
1926—Аб распаўсюджаньні стронгі (форэлі) на Беларусі (анкета).
„Наш Край", Менск, 1926, № 6—7, ст. 69.
[ . . .
1926—Прыродныя фарбы Беларусі (анкета).
„Наш Край", Менск 1926, № 8—9, ст. 33.
[ . . .
1926—Інструкцыя для асноўных нагляданьняў над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк.
„Наш Край", Менск 1926, № 10—11, ст. 51—60.
[ . . .
1926—Анкета для абсьледваньня пытаньня аб стане аховы прыроды ў БССР.
„Наш Край", Менск, 1926, № 12, ст. 67.
Макарэўскі.
1927—Вывучэньне клімату БССР.
„Працы 2 ўсебеларускага краязнаўчага зьезду", Менск, 1927, ст. 35—44.
Струнін.
1927—Інструкцыя і програма фэнолёгіч. нагляданьняў.
„Працы 2 ўсеб. кразн. зьезду", Менск 1927, ст. 44—50.
Салаўёў П.
1927 — Вывучэньне рыбных багацьцяў Беларусі.
„Наш Край", Менск, 1927, № 1, ст. 62—64.
Салаўёў П.
1927—Аб пералётах птушак (інструкцыя).
„Наш Край", Менск, 1927, № 2, ст. 24—29.
Мельнік С.
1927—Фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнай расьліннасьцю.
„Наш Край" Менск, 1927, № 3, ст. 40—54.
[ . . .
1927—Да пытаньня аб шляхох пералётаў птушак (анкета).
„Наш Край", Менск, 1927, № 3. ст. 58.
Бурштэйн М.
1927—Фэнолёгічныя нагляданьні ў садоўніцтве (з програмай).
„Наш Край", Менск, 1927, № 4. ст. 43—53.
Мельнік С.
1927—Да пытаньня аб апісаньні паркаў Беларусі.
„Наш Край", Менск, 1927, № 4, ст. 53—57.
[ . . .
1927—Аб організацыі фэнолёгічных нагляданьняў.
„Наш Край", Менск, 1927, № 11, ст. 39—41.
[ . . .
1927—Інструкцыя да зьбіраньня матар'ялаў па вывучэньні чмялёў.
„Наш Край", Менск, 1927, № 4, ст. 63—64.
Салаўёў П.
1927—Значэньне і сэнс фэнолёгічных назіраньняў.
„Наш Край", Менск, 1927, №6—7, ст. 17—18.
Зьбіткоўскі М.
1927—Настаўленьне да зьбіраньня расьлін і назіраньняў над імі.
„Наш Край", Менск, 1927, № 5, ст. 35—63, № 6—7, ст. 91—108.
Лунгерсгаўзен Ф.
1927—Програма для вывучэньня падземных вод Беларусі і ўмоў яе вясковага вадазабесьпячэньня.
„Наш Край", Менск, 1927, № 8—9, ст. 74—78.

**Культурна-гістарычнае вывучэньне краю.**

[ . . .
1925—Апытальны ліст (аб помніках старасьветчыны, прыроды і інш.).
„Віцебшчына" Віцебск 1925, ст. 130—132.
Мялешка.
1925—Падручнік для зьбіраньня вестак аб каменных помніках беларускае старасьветчыны.
„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 121—124.
[ . . .
1925—Апытальны ліст для рэгістрацыі помнікаў будаўніцтва.
„Віцебшчына", Віцебск 1925, ст. 124—125.
Доўнар-Запольскі.
1926—Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археолёгіі.
„Працы 1 ўсеб. краязн. зьезду", Менск 1926, ст. 61—62.
Мароз
1926—Ахова помнікаў старасьветчыны і прыроды.
„Працы 1 ўсеб. краязн. зьезду", Менск 1926, ст. 62—63.
Васілеўскі Д.
1926—Крыніцы мінулага Беларусі (аб зьбіраньні пікасаў).
„Наш Край", Менск, 1926, № 1, ст. 18.
Парэчын Г.
1926—Аб зьбіраньні матар'ялаў па народным звычаёвым праве.
„Наш Край", Менск, 1926, № 2—3, ст. 77—78.

(Азбукін)
1926—Аб укладаньні беларускага геаграфічнага слоўніка.
„Наш Край“, Менск, 1926, № 12, ст. 63—66.
Немцаў А.
1927—Аб летапісах.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 3, ст. 15.
Мацьвяёнак І.
1927—Некаторыя краязнаўчыя тэмы Магілеўшчыны.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 3, ст. 35—39.
Мялешка М.
1927—Вывучэньне гісторыі раёну.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 8—9, ст. 4—10
Мялешка М.
1927—Краязнаўствы і архівы Беларусі.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 11, ст. 14—17.
Дружчыц В.
1927—Краязнаўства ў гістарычнай галіне.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 12, ст. 7—10.
Мацьвяёнак.
1927—Магілеўшчына як об'ект краязнаўчага вывучэньня.
„Магілеўшчына“, Магілеў 1927, ст. 144—149.
Даўгяла.
1927—Укладаньне археолёгічнай карты Беларусі.
„Працы 2 ўсеб. краязн. зьезду“, Менск 1927, ст. 50—57.
Касьпяровіч М. і Азбукін М.
1928—Укладайце раённыя географічныя слоўнікі.
„Заря Запада“, Віцебск 1928, №№ 36—37.

**Паказчыкі краязнаўчай літаратуры.**
Жаринов Д.
1924—Обзор литературы по краеведению краеведческим экскурсиям.
„Асьвета“, Менск, 1924, № 2, ст. 106—115.
[ . . .
1925—Літаратура па краязнаўству (бібліографія).
„Наш Край“ Менск, 1925, № 2, ст. 48—53.
[ . . .
1925 — (Сьпіс краязнаўчай літаратуры, якую можна здабыць праз кнігарні Дзяржаўнага Выдавецтва).
„Асьвета“, Менск, 1925, № 3, ст. 158—161.
Баркоўскі С.
1926—Бібліографічны агляд літаратуры па пытаньні „Краязнаўства і школа“.
„Асьвета“, Менск, 1926, № 5, ст. 175—180,
(Шашалевіч А.).
1927—Інструкцыйна-краязнаўчая літаратура, выдадзеная ЦБК.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 10, ст. 75—80.
(Шашалевіч А.).
1927—Краязнаўчы друк на БССР к 10-й гадавіне Кастрычніка.
„Наш Край“, Менск, 1927, № 10, ст. 72—74.
Касьпяровіч.
1928—Організаванае вывучэньне краю і школа.
„Асьвета“, Менск, 1928, № 1.
Касьпяровіч М.
1928—Організаванае вывучэньне Беларусі.
„Наш Край“, Менск, 1928, № 1, 3 і 4.



## Ад рэдакцыі „Нашага Краю“.

Ад чытачоў „Н. Кр.“ паступіла ў Рэдакцыю некалькі запытаньняў адносна заўвагі рэдакцыі да артыкулу С. П. Нікіфаровіча *„Да пытаньня аб ахове птушак“* („Н. Кр.“ № 5 (32), май 1928 г. стар. 21). Дзеля гэтага рэдакцыя дае наступнае тлумачэньне.

Рэдакцыя, згаджаючыся з артыкулам у цэлым, сваёю заўвагаю аб нязгодзе з некаторымі думкамі аўтара мела на ўвазе пытаньне аб зьбіраньні колекцый птушыных яек. Рэдакцыя лічыць магчымым зьбіраньне такіх колекцый для раённых краязнаўчых музэяў пры вельмі ашчадных адносінах зьбіральнікаў да птушыных гнёзд забіраньне яек з пакінутых птушкамі гнёздаў, баўтуноў).

## ПАПРАЎКА.

У часопісе „Наш Край“ № 5 (32) г. г. ў аддзеле „хроніка“ на стар. 62 памылкова надрукован загаловак: „Праца краязнаўчага гуртка пры Барысаўскім Пэдтэхнікуме“.

Трэба чытаць:

„Праца краязнаўчага гуртка пры Н.-Барысаўскай 7-ай школе“.

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры
Рэдактар—З. Бядуля.
Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

# Экспэдыцыі Інбелкультy ўлетку 1928.

## I. Экспэдыцыі Гуманітарнага Аддзелу.

1. Дыялектолёгічныя экспэдыцыі па Бабруйскай, Магілеўскай і Полацкай акругах у складзе проф. Дурнаво і проф. Бузука.

2. Па вывучэньні народнай музыкі ў Гомельскай (Ягораў), Полацкай і Віцебскай акругах (Грыневіч і Ігнатоўскі).

3. Этнографічная экспэдыцыя на Мазыршчыну ў складзе В. Ластоўскага і А. Шлюбскага.

4. Па вывучэньні народнага мастацтва на Случчыне ў складзе Шчакаціхіна і Хозерава.

## II. Экспэдыцыі Археолёгічнай камісіі.

1. Экспэдыцыя па Менскай акрузе (Лагойск, Смалявічы, Койданава, Астрашыцкі Гарадок, Барысаў) у складзе А. Ляўданскага і Дубінскага.

2. Па сярэднім Сажы і Дняпры (Рэчыца-Лоеў) у складзе Палікарповіча.

3. Экспэдыцыя ў в. Бердыж Чачэрскага р. Гом. акр. у складзе А. Ляўданскага,Дубінскага і Палікарповіча.

4. Па Верхнім Дняпры (Орша-Рагачэў) у складзе А. Ляўданскага і Дубінскага.

5. Па Зяходняй Дзьвіне (Віцебск-Полацак) у складзе Ляўданскага, Дубінскага і Палікарповіча.

## III. Экспэдыцыі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі.

1. Экспэдыцыі Геолёгічнага Інстытуту: Асінабуд-Дрэтунь (вывучэньне сапрапэляў), раён Гразі і Скалы (досьледы сенаману), Мсьціслаўскі раён (фасфарыты), Парадзіна, р. Васьцёр, Крычаўскі раён, р. Іпуць, р. Бесядзь, Чэрыкаўскі раён, р. Проні, Басі, Рэсты, раён чыгункі Асіпавічы-Магілеў, шасы Магілеў-Менск і чыгункі на Рэчыцу. Супольная экспэдыцыя Геолёгічнага Інстытуту і Полацкага акр. Пляну па дасьледваньні карысных выкапняў у акрузе.

2. Географічная экспэдыцыя—Орша, Дуброўна, Асінабуд, Высачаны, Бабінавічы, Лёзна, Багушэўская, Сянно, Талачын у складзе А. Смоліча і М. Азбукіна.

3. Геоботанічныя экспэдыцыі па Менскай акр. (Адамаў), Полацкай, Гомельскай, Слуцкай (Зьбіткоўскі), Мазырскай, Бабруйскай, Аршанскай (Палянская) і мікрофаўны р. Сьвіслачы (Акімава).

4. Зоолёгічныя экспэдыцыі ў Мазырскай і Гомельскай акр. (проф. Фядзюшын).

5. Экспэдыцыі па вывучэньні прамысловасьці: 1) хатніх рамёстваў (ткацтва) на Аршаншчыне (Талачын, Ворша, Дуброўна, Ляды) пад кіраўніцтвам т. Рака. 2) Броварнай прамысловасьці ў Мазырскай, Гомельскай і Магілеўскай акругах у складзе Ярмашэвіча і Бандарчыка. 3) Смалакурнай прамысловасьці на Палесьсі (т. Троська).

6. Экспэдыцыя па вывучэньні курортнай справы на Полаччыне і Віцебшчыне пад кіраўніцтвам докт. Трамповіча.

7. Геомагнэсавыя здымкі 40 пунктаў у Магіл. акрузе.

8. Антрополёгічная экспэдыцыя (дасьледваньне беларусаў сялян) у раён р. Ухлясьця (вв. Дабуж, Трылесіна, Смольнішча, Іванішчавічы) Прапойскага раёну.

## IV. Экспэдыцыі Яўрэйскага Аддзелу.

1. Экспэдыцыя ў Мазырскую акругу (Ельск, Каленкавічы, Юравічы, Нароўля, Лельчыцы).

2. Экспэдыцыя ў м. Дуброўну Аршан. акр.

ЦАНА 75 КАП.